


*«Адзін з першых»* – кніга памяці Зьміцера Кісяля (1963–2005), аднаго з лідэраў беларускага Адраджэньня ў Гародні.

Зьміцер Кісель – аўтар легендарнай "Рэанімовы", адзін з заснавальнікаў у Гародні Беларускага Народнага Фронту, рухавік адраджэння Грамады, журналіст "Пагоні" і беластоцкай "Нівы", палітык ды грамадскі дзеяч.

Кніга памяці пабачыла свет намаганнямі Віктара Сазонава, Уладзіміра Хільмановіча, Янкі Трацяка, Яўгена Вапы і рэдакцыі тыднёвіка беларусаў Польшчы «Ніва», а таксама Цэнтра гарадскога жыцця Гародні.

# Змест

# Сын камбатанцкага палку

Напісаць пра Зьміцера Кісяля[1] было ня проста. Патрэбен быў нейкі час, каб асэнсаваць яго страту. Страту для сябе асабіста, для Гародні, для беларускага руху ўвогуле. Калі казаць шчыра, у нас было сяброўства асаблівага роду. Мы рэдка дзяліліся прыватнымі перажываньнямі і глыбіннымі душэўнымі пачуцьцямі. Але нас лучыла нешта іншае (мажліва, больш важкае і высокае) — братэрства на ніве беларускага патрыятызму і любові да ўсяго нацыянальнага. У гэтай духоўнай сфэры ў нашай невялічкай камандзе, стварэньне якой ініцыяваў Віктар Сазонаў у канцы дзевяностых гадоў ужо мінулага стагоддзя, не было аніводнага разыходжаньня ці істотнага непаразуменьня. Гэта быў той грунт, які дазваляў быць нам разам шмат гадоў і рабіць супольную справу. Магчыма з памылкамі, але вымяраючы кожны крок з гледзішча беларушчыны.

Згадваецца, як адразу пасьля пахаваньня Зьміцера і грамадзянскіх памінак адзін з сябраў па беларускім палітычным руху глыбакадумна заўважыў: “Трэба сябе шкадаваць!”. Пастава асабіста для мяне больш чым спрэчная. Канешне, гутарка не пра тое, каб сьведама нішчыць сваё здароўе. Але дзе тая індывідуальная мяжа “самаашчаднасьці”, хто яе можа вызначыць і усталяваць? Ёсьць людзі, якія настолькі дбаюць пра сваё фізічнае і псіхалагічнае здароўе, што пальцам лішні раз не паварушаць. Што ім нейкая наўкольная бяда ці няшчасьце бліжнага — галоўнае свой спакойны асабісты стан. Безумоўна, кожнаму Бог даў розную фізічную моц і свой наканаваны лёс. Ды клапаціцца чалавек мусіць найперш пра тое, каб не ўкрыўдзіць іншых, а таксама захоўваць годнасць. Праблема асабістага здароўя мусіць адыходзіць на другі план. Дакладней людзі з “палымяным” сэрцам папросту не задумваюцца пра свой лад жыцьця ў сэнсе сну, харчаваньня, перапынкаў на аднаўленьне. Добра, калі нейкай асобе валявымі высілкамі ўдаецца ўсталяваць асабісты рэжым працы і адпачынку. Але кепска, калі ён становіцца важнейшай мэтай, прадметам персанальнага гонару. Такіх дбайных “рацыяналістаў” і так шмат.

Усе людскія здабыткі ўгрунтаваныя на ахвярнасьці ў дачыненьні да іншых, адданасьці чалавека справе. Усе духоўныя скарбы — заслуга рамантыкаў. Калі чалавек пачынае сьведама ашчаджаць сілы, ён сканчаецца як альтруіст і рамантык. І менавіта зь ліку цьвярозых рэалістаў вырастаюць здраднікі і мярзотнікі.

Усе заваёвы беларускага руху трымаліся і трымаюцца на летуценьніках і рамантыках. Такіх

[1] Правапіс у кнізе захаваны згодна з воляй аўтараў тэкстаў.

як Мікола Ермаловіч і Міхась Ткачоў, Алесь Белакоз і Зянон Пазьняк. А колькі яшчэ было і ёсьць малавядомых руплііўцаў беларушчыны, якія аддаюць без шкадаваньня ўсе сілы нацыянальнаму Адраджэньню! Яны папросту ня могуць жыць інакш, ашчаджаць сябе "на заўтра". І многія літаральна "згараюць". Прыблізна так здарылася і са Зьміцерам.

Зьміцер Кісель быў няпростым чалавекам, асобай з рознымі праявамі характару. Зрэшты, як і кожны з нас. Аднак, нягледзячы на свой асабісты надлом (які быў, на маю думку, найперш вынікам нашай агульнанацыянальнай грамадзкай бяды), застаўся верным справе Беларускага Адраджэньня, за якое шчыра хварэў душой. Не губляў сваіх поглядаў і пазіцый, сымбалічна, што свой апошні публіцыстычны артыкул пісаў пра бел-чырвона-белы сьцяг. І галоўнае — не "скурвіўся" (няхай даруе мне пурытанскі чытач, але гэтае слоўца тут якраз да месца), як многія з добрапрыстойных зьнешне, пад гальштукамі, канфармістаў, хціўцаў і крывадушных перавэратняў.

Нехта можа сказаць, што ў чым яго заслуга? Маўляў, такія сьведамыя бацькі, зь дзяцінства атрымаў адпаведнае беларускае выхаваньне. Ды толькі ня так проста ў дзяцей ведамых беларускіх дзеячаў з спадкаемнасьцю. Многія зь іх настолькі далёкія да беларускіх спраў, што нават ня толькі іх бацькам сорамна. Зьміцер у гэтым сэнсе цалкам спраўдзіў спадзевы сама блізкіх людзей. Ён вельмі любіў сваіх бацькоў, хоць зь іншага боку іх гераічнае мінулае накладала на яго пэўны комплекс сваёй меншай вартасьці. Дзіму вельмі любілі таксама сябры яго бацькоў — вязьні савецкіх канлягероў. Ён быў гэткім сынам "гулагаўскага" камбатанцкага палку. Пра яго зь вялікай цеплынёй гаварылі многія беларускія ветэраны (тыя, хто ўжо пайшоў у лепшы сьвет), гавораць і цяпер Надзея Дземідовіч, Вера Касмовіч...

Зьміцер Кісель атрымаў у сям'і беларускае выхаваньне. Скончыў сярэднюю школу, захапляўся ветразевым спортам. Пасьля вучыўся завочна на гістарычным факультэце Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэту імя Янкі Купалы. Яшчэ ў студэнцкі час пасябраваў з беларускімі актывістамі Беласточчыны — Яўгенам Вапам, Міхасём Андрасюком, Міколам Ваўранюком, Янкам Морданем, запрашаў іх у горад над Нёманам.

Зьміцер Кісель быў у ліку таго дзесятку людзей, што пачыналі ў Гародні ў сярэдзіне 1980-х адраджэньне беларушчыны. І гэта факт, як кажуць, гістарычны. Можна прыгадаць яго чынны ўдзел у выпуску легендарнай "Рэанімовы", заснаваньні ў Гародні Беларускага Народнага Фронту, адраджэньні Грамады, журналісцкую працу ў "Пагоні" і беластоцкай "Ніве", шматлікія палітычныя акцыі і грамадзкія справы... Таму прыйдзе час, калі ў старажытным горадзе над Нёманам мусіць зьявіцца вуліца імя Зьміцера Кісяля.

*Уладзімір Хільмановіч, Гародня*

# Паэту няма месца ў музеі паэта

30 снежня вядомая беларуская паэтка Данута Бічэль-Загнетава была звольнена з музея Максіма Багдановіча ў Гродне.

Спадарыня Данута стварала музей з 1982 года. Пасля адкрыцця ў 1986 годзе была яго нязменным дырэктарам. Усе экспанаты сабраны яе намаганнямі. Шмат бясцэнных дакументаў увайшло ў музейныя фонды з асабістых архіваў паэткі.

За гады працы музея ў ім пабывалі тысячы наведвальнікаў з усіх куткоў свету. Яны прыходзілі не толькі, каб паглядзець экспанаты, а ішлі „ў музей да Дануты". Паэтка дасканала ведае ўсе звесткі пра Максіма Багдановіча і яго сям'ю  пра літаратуру Гарадзеншчыны.

Хто раскажа пра сустрэчы Максіма Багдановіча з Зоськай Верас лепш за таго чалавека, які чуў пра іх з вуснаў самой знакамітай паэткі? Хто раскрые людзям веліч Ларысы Геніюш, Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча лепш за іх шматгадовую сяброўку?

Данута Бічэль-Загнетава стала душой музея Максіма Багдановіча. Без яе існаванне гэтага музея здаецца немагчымым.

Напярэдадні Новага года без усялякага папярэджання яе выклікалі ва ўпраўленне культуры аблвыканкама. Загадчыца ўпраўлення Людміла Кадзевіч азнаёміла спадарыню Дануту з загадам аб звальненні, які падпісаў старшыня Гарадзенскага аблвыканкама Аляксандр Дубко.

Поўнага творчых сілаў чалавека пазбавілі любімай працы ў сувязі з пенсійным узростам.

Упершыню за ўсе гады існавання музея, у час школьных канікулаў, калі ў Дом Максіма Багдановіча заўсёды прыходзіла шмат дзяцей, яго дзверы былі зачынены і апячатаны.

*Ніва, 1999, № 3.*

# Беларускіх школ у Гродне больш няма

Толькі 86 гродзенскіх дзяцей у гэтым годзе пачалі вучобу ў школе на беларускай мове. Гэтыя лічбы былі прыведзены старшынёй Гродзенскай арганізацыі Таварыства беларускай мовы прафесарам Аляксеем Пяткевічам у яго справаздачным дакладзе на канферэнцыі гродзенскага ТБМ.

Канферэнцыя адбылася 9 сакавіка. Яна праводзілася з мэтай пераабраць кіраўніцтва арганізацыі і вылучыць дэлегатаў на ўсебеларускі з'езд ТБМ, які павінен адбыцца ў Мінску ў сярэдзіне красавіка.

Як адзначыў прафесар Пяткевіч, у апошнія гады сябры таварыства працавалі ў вельмі неспрыяльных умовах. Усе ініцыятывы ТБМ ігнараваліся ўладнымі структурамі. Больш таго, з боку дзяржаўных чыноўнікаў рабіліся спробы наогул спыніць дзейнасць таварыства. Па словах Аляксея Пяткевіча, адной з задач, якую прыходзілася вырашаць ТБМ, з'яўляецца захаванне самой арганізацыі. У адрозненні ад многіх раёнаў Беларусі, дзе суполкі таварыства ўжо практычна не існуюць, Гродзенская арганізацыя ТБМ працягвае працаваць. Разам з іншымі дэмакратычнымі арганізацыямі горада, суполка прымае ўдзел у розных мерапрыемствах, была ініцыятарам некаторых з іх. За гэта старшыня арганізацыі неаднаразова чуў папрокі, што ТБМ займаецца палітычнай дзейнасцю.

— Але справа мовы сёння ня можа трактавацца па-за палітычнымі працэсамі, якія адбываюцца ў краіне,— кажа Аляксей Пяткевіч.— Той, хто лічыць сябе абаронцам мовы, не можа быць па-за палітыкай.

Тое, што заняпад беларускай мовы ў Беларусі — вынік палітыкі кіраўніцтва дзяржавы падцвярджаецца наступнымі фактамі.

Калі да 1994 года большасць школ у Гродне лічыліся беларускімі, а некаторыя былі імі на самай справе, зараз такіх навучальных установ у горадзе больш няма. Летам пазамінулага года сябры ТБМ хадзілі па кватэрах бацькоў перашакласнікаў і агітавалі пісаць заявы, каб дзеці вучыліся па-беларуску. Многія пагаджаліся і было спадзяванне, што ў школах Гродна захаваюцца хаця б беларускія класы. Але, пасля адпаведнай працы школьнай адміністрацыі, да верасня большасць бацькоў перапісалі заяву на рускую мову. У гэтым навучальным годзе толькі ў дзвюх школах ёсць першакласнікі, якія вучацца на роднай мове: у школе № 21 — дваццаць чатыры вучні і ў школе № 32 — сорак пяць. У апошняй яшчэ 17 дзетак вучацца па-беларуску ў падрыхтоўчым (так званым „нулявым") класе.

Не лепшая сітуацыя ў старэйшых класах, якія калісьці пачыналі вучыцца на роднай мове. Іх становіцца ўсё менш. Не дапамагаюць нават неардынарныя меры. У 1997 годзе гродзенец Юрась





◀
*Свіслач. Ля магілы Віктара Каліноўскага. Дзень памяці паўстанцаў. 3 лістапада 2001 года*

▲
*Зміцер Кісель у Вызьне (Случчына) у дзень усталявання памятнага крыжа ў гонар слуцкіх паўстанцаў. 28 лістапада 1999 года*



▶
*Зміцер Кісель і Віктар Сазонаў у Менску на агульнабеларускім Маршы свабоды. 17 кастрычніка 1999 года.*

Мацко падаў у суд на адміністрацыю школы, у якой вучылася яго дачка за тое, што дзяўчынку пазбавілі магчымасці атрымоўваць веды на роднай мове. Вынікам стаў прысуд, з якога вынікала, што ў беларускім горадзе ўмоваў для навучання па-беларуску дачкі спадара Мацко няма.

*Ніва, 1999, № 12.*

## Хто грэецца каля Касаўскага вогнішча

Пра пачатак бамбардзіровак Югаславіі я даведаўся падчас пяцігадзіннага прастою на польска-беларускай мяжы. Пакуль пасажыры аўтобуса Варшава — Мінск чакалі, калі беларускія мытнікі кінуць абмеркаванне нейкіх сваіх спраў і ўрэшце возьмуцца за працу, вадзіцель наставіў радыё на адну з польскіх праграм. Дыктар праз кожныя паўгадзіны паведамляў пра вылеты самалётаў НАТО, пра тое, што бомбы і ракеты ўжо падаюць у ваколіцах Прышціны і Бялграда.

"Няўжо нельга было спыніць этнічныя чысткі ў Косаве іншым шляхам?" — падумалася мне.

Гэта ж пытанне задавалі амаль усе людзі, з якімі я  ужо ў Гродне, размаўляў на тэму падзей у Югаславіі. Беларусы, як ніхто іншы, разумеюць трагедыю сербаў, бо ў нас ёсць свой „Мілошавіч". Мае суразмоўцы казалі, што бамбардзіроўкі Югаславіі скарыстаюць для сваіх прапагандысцкіх мэт камуна-фашысты ў Расіі і каманда Лукашэнкі ў Беларусі.

Расійскае тэлебачанне кожны дзень перадае рэпартажы з Бялграда, дзе на вуліцах тысячы сербаў пратэстуюць супраць НАТО. Мілошавіч адразу ўзмацніў свае пазіцыі. Нават яго нядаўнія праціўнікі сталі падтрымліваць дыктатара. У Маскве пачалася антызаходняя істэрыка. Камуністы і фашысты лікуюць. Ельцын загаварыў так, як хочуць яны.

На Беларусі дзяржаўная прапаганда пачала даказваць, што Лукашэнка меў рацыю, калі пасварыўся з Захадам. А апазіцыя — гэта агенты НАТО, якія хочуць, каб амерыканцы пачалі бамбіць Беларусь.

— Если они сунутся сюда... Это не Югославия. Тут они получат на всю катушку,— супакойвае свой народ Аляксандр Лукашэнка. Яму бамбардзіроўкі Югаславіі сталі сапраўдным падарункам лёсу. Замест хлеба людзям можна прапанаваць падрыхтоўку да вайны. А ад бруду, які выліты на апазіцыю пасля 24 сакавіка, за быццам бы жаданне зрабіць з Беларусі другое Косава, яе лідары доўга не адмыюцца.

А яны зусім не вітаюць дзеянні НАТО ў Югаславіі. Вось як пракаментавалі сваё бачанне падзей на Балканах некаторыя вядомыя беларускія палітыкі.

Станіслаў Шушкевіч, былы старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі, лідар Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады:

— Да бамбардзіровак Югаславіі стаўлюся адмоўна. Так нельга было рабіць. Але вялікую долю адказнасці я ўскладваю на Расію. Палітыкі гэтай краіны ўвесь час абяцалі падтрымку злачыннаму рэжыму Мілошавіча. Ён ніколі не адмовіўся ад мірных перамоў, калі б не спадзяваўся на дапамогу Расіі.

Аднак гэта не апраўдвае дзеянні Захаду. Трэба было шукаць шляхі выхаду з крызісу праз ААН, як прынята ў свеце з часоў заканчэння другой сусветнай вайны. А так бамбардзіроўкі Югаславіі выглядаюць як суд Лінча.

Сямён Шарэцкі, старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі:

— Вельмі дрэнна. Гэта не тое, што можна апраўдаць. Вядома, Мілошавіч вінаваты. Ён распачаў вайну супраць албанцаў задоўга да пачатку бамбардзіровак. Затым не падпісаў дамову ў Францыі. Але бамбіць не трэба. Неабходна іншае выйсце.

Для Беларусі лепш, каб крыві, якая зараз льецца ў цэнтры Еўропы, не было. Мы добра памятаем вайну і не хочам, каб нас зноў выкарыстоўвалі ў чужых інтарэсах.

Мяне абурыла выказванне міністра абароны Расіі, пра магчымае вяртанне на Беларусь ядзернай зброі. Ён, што, лічыць Беларусь сваім агародам!? Я ўпэўнены, наш народ гэтага не дапусціць.

Юры Хадыка, намеснік старшыні Беларускага народнага фронту:

— У мяне да бамбардзіровак Югаславіі стаўленне дваістае. Вельмі дрэнна, што гінуць людзі. Вайна — гэта трагедыя. Лепш, каб быў мір. Але бывае, што прыходзіцца выбіраць паміж дрэнным і больш дрэнным.

Закрываць вочы на дыктатарскія дзеянні Мілошавіча, на знішчэнне албанскай аўтаноміі ў Косава нельга.

Падзеі непасрэдна тычацца Беларусі. Упершыню НАТО вядзе ваенныя дзеянні па-за сваімі межамі. Гэта азначае, што пакладзены канец падзелу Еўропы на сферы ўплыву, закладзенаму паўстагоддзя назад у Патсдаме. Зараз ні адзін дыктатар не можа беспакарана праводзіць генацыд насельніцтва, этнічныя чысткі і г.д. НАТО наш сусед. Антызаходнія пагрозы, якімі ў апошнія дні раскідваецца Лукашэнка, нясуць небяспеку. Калі ў Беларусь на самай справе будуць уведзены расійскія ядзерныя ракеты, гэта дабром не скончыцца.

*Ніва, 1999, № 16.*

## Як яйкі курыцу навучылі

Студэнты IV курса факультэта гісторыі і культуры Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы прымушаюць выкладчыкаў чытаць лекцыі па-беларуску.

У пачатку дзевяностых гадоў ва універсітэце імя Янкі Купалы былі спробы перавесці навучанне на беларускую мову. Аднак пасля змены дзяржаўнага курсу з "беларусізацыі" на "общесловянское братство", многія выкладчыкі хутка змянілі свае погляды.

Усё ж да гэтага часу на гістарычным факультэце засталася традыцыя — дысцыпліны, якія датычацца гісторыі Беларусі выкладаюцца па-беларуску. Таму студэнты IV курса абурыліся, калі дацэнт Вячаслаў Леанавец пачаў чытаць курс "Гістарыяграфія Беларусі" па-руску. На ўсе патрабаванні перайсці на родную мову ён адказваў абяцаннямі, якіх не выконваў.

Нарэшце ў сярэдзіне красавіка студэнты напісалі калектыўны ліст на імя дэкана факультэта з патрабаваннем даць ім магчымасць вывучаць гістарыяграфію Радзімы на роднай мове і прыгразілі, што калі пытанне не будзе вырашана станоўча, яны звернуцца ў вышэйшыя інстанцыі і сродкі масавай інфармацыі.

Пасля размовы з дэканам, дацэнт Леанавец паабяцаў перайсці на беларускую мову. 22 красавіка ён прачытаў першую лекцыю па-беларуску.

*Ніва, 1999, № 18.*

## Кроў на плошчы Леніна

Несанкацыянаванае ўладамі шэсце моладзі ў Гродне скончылася жорсткай сутычкай з міліцыяй.

Вечарам 25 красавіка каля сарака маладых хлопцаў, згуртаваўшыся ў калону прайшлі па цэнтральнай вуліцы Гродна. Удзельнікі шэсця былі апрануты ў адмысловую камуфляжную форму, у руках трымалі запаленыя паходні. Над калонай луналі тры бел-чырвона-белыя сцягі. Такое відовішча прыцягнула ўвагу шматлікіх прахожых і міліцыянераў. Але, калі першыя рушылі ўслед за хлопцамі, дык другія адразу спрабавалі спыніць шэсце. Але нешматлікім міліцэйскім нарадам гэтага зрабіць не ўдалося.

Яны сутыкнуліся з надзвычай арганізаванай сілай і не маглі падступіцца да атрада юнакоў, якія мелі на берэтах кукарды з „Пагоняй". Толькі, калі міліцыянераў стала больш чым удзельнікаў шэсця, яны кінуліся ў рашучую атаку. Аднак, згрупаваўшыся ў кола, хлопцы паспяхова адбіваліся ад нападаўшых пылаючымі паходнямі. Так яны здолелі прайсці яшчэ некалькі соцень метраў. Міліцыянтам не дапамагалі ні дубінкі, ні слёзатачывы газ. Раз'юшаныя ад бяссілля „ахоўнікі правапарадку" накіравалі на хлопцаў міліцэйскую машыну. Так яны здолелі парушыць згуртаванае кола.

На плошчы Леніна, каля будынка аблвыканкама пачалася крывавая бойка. Юнакі адчайна абараняліся, але сілы былі няроўныя. Супраць сарака чалавек, частка з якіх былі непаўналетнімі, выступілі не толькі звычайныя міліцыянеры, а і натрэніраваныя амапаўцы і спецназаўцы. Яны спрабавалі завалодаць бел-чырвона-белымі сцягамі. У адзін з момантаў бойкі, калі сцяг ужо амаль апынуўся ў руках амапаўца, нацыянальны сімвал беларусаў падхапіў вядомы бард Андрэй Мельнікаў, які тымі днямі гасцяваў у Гродне і выпадкова стаў сведкам падзей. Спявак здолеў перадаць сцяг хлопцам, за што адразу атрымаў некалькі ўдараў гумовай палкай. Другі сцяг вынес на сабе 18-гадовы юнак. Ён прыехаў у Гродна з Мінска спецыяльна для ўдзелу ў акцыі. У бойцы яму зламалі руку, разбілі дубінкай твар. Акрываўленага, атручанага газам хлопца выратавалі дзве невядомыя гродзенскія дзяўчыны. Яны яго пераапранулі, абмылі кроў, схавалі сцяг і давялі да тэлефона, каб ён змог звязацца з гродзенскімі сябрамі. Аднак адно бел-чырвона-белае палотнішча ўсё ж патрапіла ў рукі міліцыянераў. Здолелі яны затрымаць і трынаццаць удзельнікаў шэсця. Разам з імі патрапіў у пастарунак адзін выпадковы прахожы. Па дарозе ў аддзел унутраных спраў, ужо безабаронных хлопцаў, працягвалі збіваць. Некаторым дасталася і ў пастарунку. Адтуль траіх затрыманых забрала ў шпіталь "хуткая дапамога". Дваіх неўзабаве вярнулі ў міліцыю, а 19-гадовы юнак застаўся ў траўматалагічным аддзяленні бальніцы. Яму міліцэйскі бот зламаў нос, і хлопец праляжыць у ложку не менш паўтара тыдня.

Але дасталася і міліцыянерам. Па неафіцыйных звестках, у аднаго з іх зламаная сківіца, у другога — сутрасенне мазгоў. Усяго цялесныя пашкоджанні атрымалі сямёра "ахоўнікаў правапарадку".

Чатыры непаўналетнія ўдзельнікі шэсця былі адпраўлены ў прыёмнік-размеркавальнік, адкуль былі перададзены бацькам. 26 красавіка над астатнімі затрыманымі адбыўся суд. Выпадковаму прахожаму далі штраф у адзін мільён рублёў. Удзельнікаў несанкцыянаванай акцыі прыгаварылі да арышту на тэрмін ад двух да пяці сутак. Магчыма, такія адносна невялікія пакаранні звязаны з тым, што міліцыянеры самі зразумелі неадэкватнасць сваіх дзеянняў з парушэннем закону з боку моладзі.

На месцы бойкі засталося некалькі лужын крыві. На наступны дзень пасля падзей там з'явіліся кветкі і бел-чырвона-белыя сцяжкі.

*Ніва, 1999, № 19.*

# Адпачынак па-беларуску

Для гарадскога насельніцтва Беларусі, як і па ўсёй Еўропе, лета — гэта час адпачынку. Аднак беларусы яго праводзяць даволі арыгінальным спосабам.

У часы будаўніцтва "рынкавага сацыялізму" пад кіраўніцтвам Аляксандра Лукашэнкі колькасць людзей, што могуць сабе дазволіць правесці вольны час каля мора дзе-небудзь на поўдні скарацілася да адзінак. Большасць жыхароў Беларусі ўсё лета праводзіць на радзіме.

Людзі сталага і сярэдняга ўзросту кожную вольную хвіліну імкнуцца прысвяціць працы на сваіх загарадных агародах, якія называюцца „дачамі". Дачныя пасёлкі, падзеленая на кавалачкі зямля ў шэсць сотак, шчыльна акружаюць беларускія гарады. На іх вырошчваецца ўсё, што можа нарадзіць зямля. З раніцы да вечара корпаюцца людзі на сваіх агародзіках. Робяць яны гэта не для задавальнення, а для забеспячэння сваіх сем'яў гароднінай. Працуюць самаадданa. Кожны год дзесяткі пенсіянераў паміраюць на дачах ад інфаркту ці інсульту з рыдлёўкай у руках. Усе доказы моладзі, што такая ахвярнасць не патрэбна, на сталых людзей не дзейнічае. Яны ў сваю чаргу крыўдзяцца на дзяцей за нежаданне дапамагаць у працы на дачах. Па гэтым пытанні ў Беларусі ўзнікае своеасаблівы канфлікт пакаленняў.

Старыя прызвычаіліся за гады савецкай улады, што мець "дарэмную" бульбачку, цыбульку, агуркі і г.д. з'яўляецца добрым дадаткам да асноўнага заробку. Свае высілкі яны ніколі не лічылі нечым каштоўным. Моладзь, якая на афіцыйнай працы атрымоўвае 20–30 долараў у месяц, імкнецца непрацоўны час выкарыстаць для заробку нармальных грошай, за якія можна купіць усё неабходнае, у тым ліку і гародніну. А калі знойдзецца вольная хвіліна, дзецюкі хочуць яе правесці дзе-небудзь на беразе рэчкі ці возера.

Аднак адпачынкавы бізнес у Беларусі памёр некалькі гадоў таму, нават не паспеўшы як след нарадзіцца. Шматлікія турыстычныя фірмы прапаноўваюць або паездкі за мяжу па недаступных коштах, або пуцёўкі ў мясцовыя дамы адпачынку, дзе кошты трохі ніжэйшыя, але там такі сервіс, што адпачываючыя самі павінны атрымоўваць грошы... за пакуты.

Таму людзі самі арганізоўваюць свой вольны час. У спякотныя дні яны імкнуцца да вады. Прырода шчодра надзяліла Беларусь рэчкамі і азёрамі. Аднак савецкі чалавек паклапаціўся пра тое, каб сапсаваць гэты Божы дар.

Напрыклад, традыцыйным месцам адпачынку гарадзенцаў заўсёды быў Нёман. Але ўжо шмат гадоў купацца ў ім небяспечна для здароўя. Калісьці савецкі ўрад зрабіў Беларусь адным вялікім

свінагадоўчым комплексам. Уверх па цячэнні Нёмана ад Гродна стаіць некалькі свінафермаў, адыходы з якіх цякуць у раку. Не дадае чысціні і гарадская каналізацыя, па якой падчас дажджу з вуліц цячэ брудная вада. У выніку лекары не раяць гараджанам купацца ў рэчцы ў межах горада. Праўда, людзі ўсё роўна плёскаюцца ў карычневай вадзе. Паехаць на больш-менш чыстыя азёры могуць толькі ўладальнікі аўтамабіляў. Такіх зараз нямала. Аднак пад'езды да месцаў адпачынку амаль нідзе не зроблены. Аўтастаянак няма.

Сапраўднай пагрозай для лясоў сталі пластыкавыя бутэлькі з-пад напояў. Яны ляжаць паўсюль. Можна абвінаваціць людзей у неахайнасці, але калі няма сметнікаў у месцах масавых сходаў людзей, горы смецця з'яўляюцца ў самых нечаканых месцах. Так, на беразе бліжэйшага да Гродна штучнага возера "Юбілейнае" ў цэнтры такой гары стаіць знак з надпісам "Свалка мусора запрещена".

Праўда, уладамі нешта ўсё ж робіцца для таго, каб людзі не былі незадаволенымі. У гродзенскіх крамах прадаецца алкагольны напой пад назвай "Адпачынак". Мае ён 20 градусаў моцнасці, каштуе трохі больш за пляшку піва. Пасля пары бутэлек "Адпачынку" на брудную ваду і смецце ніхто ўвагі не звяртае.

*Ніва, 1999, № 24.*

## Развітанне з прэзідэнтам

Каля дзвюх з паловай тысяч гродзенцаў 21 ліпеня ўрачыста адзначылі "Першы дзень без прэзідэнта".

Напярэдадні ўвесь горад быў распісаны антылукашэнкаўскімі лозунгамі, на некаторых высокіх будынках залуналі бел-чырвона-белыя сцягі, а ў паштовых скрынях гараджан з'явіліся запрашэнні весела „правесці прэзідэнта".

Каля 16 гадзіны 21 ліпеня ў цэнтральным гарадскім парку прадстаўнікі прафсаюза прадпрымальнікаў раздавалі ўсім жадаючым рознакаляровыя надзьмутыя шарыкі, а дзецям цукеркі. У парку адразу адчуўся святочны настрой. Некалькі сотняў людзей, пераважна маладых, пачалі абмяркоўваць „знамянальную" дату, высмейваць Аляксандра Лукашэнку і яго нешматлікіх састарэлых прыхільнікаў, якія спрабавалі "вразумить молодёжь". Да аднаго з хлопцаў, што раздаваў шарыкі, падышоў міліцыянер і запатрабаваў тлумачэнне:

— Што тут робіцца?

— Нічога, проста раздаем шарыкі і цукеркі. Гэта забаронена?

— Не,— разгублена адказаў ахоўнік правапарадку, але на ўсялякі выпадак перапісаў дадзеныя з пашпарта хлопца.

Праз гадзіну падзеі перанесліся на плошчу Леніна. Тут ужо сабралася каля дзвюх тысяч людзей. Большасць мела на грудзях бел-чырвона-белыя стужачкі. З'явіўся хлопец з гармонікам і зайграў марш "Развітанне славянкі". А пасля людзі кінуліся ў скокі пад "Польку", "Лявоніху" і г.д. Іншыя трымалі ў руках плакаты:! Лукашэнка, гэта ўжо ўсё!", "Першы дзень без прэзідэнта", "Бывай Лука!".

Трэба адзначыць, што дзень быў надзвычай спякотны і некаторыя хаваліся ў цень ад помніка Леніну. "Нарэшце і ён на нешта спатрэбіўся",— заўважыла адна дзяўчына.

Прыкладна праз паўгадзіны, намеснік старшыні Гродзенскай гарадской Рады БНФ прафесар Алесь Астроўскі заклікаў прысутных прайсціся па "памятных" месцах Гродна, якія наведваў былы прэзідэнт. Удзельнікі акцыі згуртаваліся ў калону, над якой адразу з'явіліся бел-чырвона-белыя сцягі, і рушылі па цэнтральнай (Савецкай) вуліцы да палаца тэкстыльшчыкаў, дзе ў 1994 годзе кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Лукашэнка раздаваў абяцанкі гродзенцам.

Па шляху да калоны далучылася яшчэ некалькі соцен людзей. "Радзіма! Свабода! Далоў Луку ўрода!", "У адстаўку!", "Жыве Беларусь" — скандзіравалі ўдзельнікі шэсця.

Каля палаца тэкстыльшчыкаў адбыўся мітынг. Выступоўцы казалі пра цяжкія наступствы праўлення Лукашэнкі для Беларусі, пра тое, што нават калі ён не адыдзе ад улады, прэзідэнтам ужо не будзе, а толькі ўзурпатарам. Падобны мітынг адбыўся і каля драмтэатра, тут у 1996 годзе Лукашэнка ўпершыню заявіў пра намер правесці рэферэндум. Пасля імпрэза перанеслася на бераг Нёмана, дзе ўрачыста быў патоплены лукашэнкаўскі чырвона-зялёны сцяг.

Міліцыянеры, якіх было надзвычай шмат, не перашкаджалі ў правядзенні мерапрыемства. Але, калі яно скончылася, затрымалі 7 чалавек, якіх палічылі найбольш актыўнымі ўдзельнікамі. Неўзабаве трох непаўналетніх адпусцілі, а старшыню гарадской Рады БНФ Сяргея Мальчыка, яго намесніка Алеся Астроўскага, сябру фронта Міколу Ворана і рэдактара газеты „Пагоня" Міколу Маркевіча прыцягнулі да адміністратыўнай адказнасці.

Назаўтра адбыўся суд. Алесю Астроўскаму далі 200 мільёнаў штрафу. Мікола Воран заявіў, што не будзе размаўляць з суддзёй па-руску і запатрабаваў перакладчыка і адваката. Тое ж зрабілі і два іншых падсудных. Суды над імі адтэрмінаваны на некалькі дзён.

*Ніва, 1999, № 31.*

# Зноў “Мужыцкая праўда”

На пачатку лістапада ў Гродне невядомымі была распаўсюджана ўлётка пад назвай “Мужыцкая праўда” № 1(8). Згодна з подпісам пад нелегальным выданнем, яго напісаў унук Яські-гаспадара з-пад Вільні. Стыль падобны на той, якім выдаваў сваю “Мужыцкую праўду” Кастусь Каліноўскі.

Ва ўлётцы нагадваецца пра паўстанне 1863 года, пра тое, што на працягу апошняга стагоддзя беларусы змагаліся за сваю волю. „Нарэшце восем гадоў назад стала Беларусь незалежнай. Нам бы ўзяцца ўсёй грамадой ды будаваць жыццё вольнае і заможнае для сябе і дзетак сваіх, дык не ўтрымалі мы ў руках сцяг свой. Дазволілі стаць над сабой чалавеку злому, які кіруецца не праўдай Божай, а хлуснёй д‘ябальскай. Служыць ён не народу беларускаму, які чужы для яго, а гаспадарам сваім маскоўскім. А зараз надумаў гэты злыдзень зусім прадаць нас маскалям”.

Успамінаючы пра выказванне Кастуся Каліноўскага ў лісце з-пад шыбеніцы пра руска-беларускае братэрства, аўтар (ці аўтары) піша: „Зараз зноў ім братэрства нашага захацелася. Але паглядзіце дзецюкі на твары “славянаў” гэтых, зацятых. Нашаму вусатаму толькі каляровую кашулю адзець і адразу можна ісці коней красці. А мэр іхні маскоўскі чыстай вады мурза мангольскі. Сапраўдныя браты нашы, украінцы, чэхі, балгары, славакі ды іншыя славяне, як могуць уцякаюць ад абдымкаў братоў такіх. Толькі нас яны яшчэ прыдушыць плануюць”.

Новая “Мужыцкая праўда” заклікае бараніць незалежнасць Беларусі. „Справа гэта Боская і калі мы мужна стаяць будзем на зямлі сваёй, Бог нас не пакіне. Не нам, унукам паўстанцаў, баяцца маскалёў і служкаў іхніх мясцовых”.

Распаўсюджваецца ўлётка ў асноўным сярод моладзі: студэнтаў, навучэнцаў тэхнікумаў і прафесійных вучылішч.

*Ніва, 1999, № 46.*

# Гродзенскае радыё ідзе ў атаку

З 1 снежня павялічыўся эфірны час перадач Гродзенскага радыё і тэлебачання. Калі раней гродзенцы маглі глядзець мясцовае тэлебачанне толькі гадзіну па будзённых днях на канале цэнтральнага беларускага тэлебачання і гадзіну ў тыдзень на расійскім канале „Культура", дык зараз трансляцыя на гэтым канале павялічваецца да дзвюх гадзін штодня акрамя суботы і нядзелі. Яшчэ больш павялічваецца радыёэфір: з гадзіны 20 хвілін да 3 гадзін кожны дзень ад панядзелка да пятніцы. Кіраўніцтва гродзенскага тэлерадыёаб'яднання тлумачыць павелічэнне часу перадач тым, што жыхары Гродзеншчыны маюць значна менш магчымасцей атрымоўваць мясцовую інфармацыю чым жыхары іншых рэгіёнаў Беларусі. На самай справе, у Мінску, Гомелі і нават у некаторых раённых цэнтрах існуе шэраг прыватных тэле- і радыёканалаў. У Гродне ёсць некалькі гэтак званых "студый кабельнага тэлебачання", але яны паказваюць толькі відэафільмы і транслiруюць замежныя спадарожнікавыя каналы.

Гродзенскі радыёэфір запоўнены расійскімі каналамі. Ад нядаўняга часу да іх дабавілася праграма Мінскай студыі "Радио Рокс" (расійскі прыватны канал, які ў самой Расіі збанкрутаваў). Беларускае радыё канкурэнцыю ім скласці не можа. Яно працуе ў „лепшых" традыцыях савецкіх часоў. Паведамленні пра поспехі ў сельскай гаспадарцы змяняюцца ўсхваленнем Аляксандра Лукашэнкі. Музыка, асабліва маладзёжная, практычна адсутнічае. Яшчэ некалькі гадоў таму сярод гродзенцаў самымі папулярнымі былі праграмы Беластоцкага радыё. Яго можна было пачуць у крамах, аўтобусах, аўтамабілях, з вокнаў дамоў. Але пасля "раскруткі" у Беларусі рускай музычнай "папсы", гродзенцы пераключыліся на маскоўскі "Молодёжный канал", дзе калі-нікалі можна пачуць інфармацыю пра Беларусь, зразумела ў расійскай інтэрпрэтацыі.

Менавіта на хвалях гэтага канала стала працаваць трохгадзіннае "Радио Гродно". Але наўрад ці гэта зроблена з патрыятычных памкненняў. Праграма рускамоўная. Музыка — тая ж расійская "папса". У першы дзень эфіру вядучы вырашыў расказаць слухачам што-небудзь "из жизни наших звёзд" і расказаў... пра расійскую спявачку Азізу, узбечку па паходжанні, якая карыстаецца скандальнай папулярнасцю. Як стала вядома з неафіцыйных крыніц, працаваць на рускай мове журналістам параіў старшыня гродзенскага тэлерадыёаб'яднання Дзмітры Воўчак (былы намеснік начальніка ўпраўлення культуры аблвыканкама), каб "прывучыць слухачоў" да праграмы. Да канца года "Радио Гродно" будзе выходзіць два разы на тыдзень, пасля — штодзень. Плануецца, што тады яно стане беларускамоўным.



*Зміцер Кісель, Уладзімір Хільмановіч і Віктар Сазонаў на Усебеларускім з′ездзе за незалежнасць. Менск. 29 ліпеня 2000 года.*




*Зміцер Кісель на моладзевым пікеце "Беларусь – гэта святое". Гародня, вуліца Карла Маркса, 12 лістапада 2000 года.*

Хутчэй за ўсё пашырэнне эфірнага часу гродзенскага радыё гэта пачатак контрпрапагандай кампаніі, пра якую ўжо даўно гаварыў Аляксандр Лукашэнка. Маўляў, Беларусь акружана ворагамі, якія займаюцца інфармацыйнай дыверсіяй. Магчыма, за сваё з'яўленне "Радио Гродно" павінна быць удзячным беластоцкаму "Радыё Рацыя", якое ўжо абрасло ў Беларусі шматлікімі легендамі і стала вядомым сярод гродзенцаў нават не выходзячы ў эфір.

*Ніва № 50 (2274), 12 снежня 1999 г.*

## «Край" змагаецца за Беларусь

Спартова-патрыятычная арганізацыя „Край", якая дзейнічае ў Беларусі ўжо два гады, раней на кантакт з журналістамі не выходзіла. Аднак пасля Маршу свабоды 17 кастрычніка, калі на мінскіх вуліцах адбыліся жорсткія сутычкі паміж дэманстрантамі і міліцыяй, у беларускім незалежным друку з'явіліся паведамленні, што хлопцы з гэтай арганізацыі ішлі ў першых шэрагах калоны апазіцыянераў. Апошнім часам у розных беларускіх гарадах і мястэчках пачалі з'яўляцца ўлёткі „Краю". Такім чынам заслона таямніцы існавання ў Беларусі суполкі маладых патрыётаў была прыўзнята.

— Мы ўбачылі, што кола лідараў сфармавана. Прыйшоў час пашыраць арганізацыю, рабіць яе больш масавай,— тлумачыць сітуацыю прадстаўнік „Краю".— Ва ўмовах поўнай канспірацыі гэта зрабіць складана. Падзеі 17 кастрычніка паказалі, што шмат маладых хлопцаў падзяляюць нашы погляды, аднак, не ведаюць да каго звярнуцца, каб сумесна змагацца за незалежнасць Беларусі, яе гонар і славу.

Аднак разумеем, якая зараз сітуацыя ў краіне і ад канспірацыі не адмаўляемся. Усе нашы сябры маюць псеўданімы. Летам, падчас аднаго з абучэнняў мы наведалі Жыровіцкі манастыр, дзе ўдзельнічалі ў малебне. Калі святар папрасіў сказаць нашы імёны, каб памаліцца за нас, дык аказалася, што як завуць адзін аднаго не ведаем. Але малебен адбыўся. Уражанне было вельмі моцнае і не толькі для нас. У аднаго семінарыста на вочы слёзы накаціліся. Ён сказаў: „Хлопцы! Я думаў я адзін такі. Я за вас увесь час маліцца буду".

— Вашы адносіны да рэлігіі сапраўды ўражваюць. Кожная справа пачынаецца з сумеснай малітвы. Зараз рэдка гэта можна ўбачыць нават у асяроддзі старых людзей. Але сярод вас вернікі розных канфесій, а перавага, здаецца, надаецца праваслаўю.

— Не зусім так. „Край“ кіруецца прынцыпамі хрысціянскай маралі. На жаль, у Беларусі не было нацыянальнай царквы, што не дазволіла ў мінулым ўзнікнуць моцнай і згуртаванай эліце. Стварыць такую эліту наша задача, а без духоўнасці гэта немагчыма. Мы наладжваем кантакты з усімі канфесіямі. На жаль, для кіраўніцтва Рускай праваслаўнай царквы ідэя беларускай незалежнасці неўспрымальная. Наш жа кліч: Бог, Беларусь, Воля! Наша мэта: Беларуская Незалежная Нацыянальная Дзяржава — дзяржава беларускай нацыі на беларускай зямлі. Але сярод кліру Рускай праваслаўнай царквы таксама ёсць патрыёты Радзімы. Прыклад — згаданы раней жыровіцкі семінарыст.

— Не баіцеся, што вас абвінавацяць у нацыяналізме?

— А мы і ёсць нацыяналісты. У нармальным сэнсе гэтага слова. Людзей іншых нацыянальнасцей, якія разам з намі змагаюцца за незалежнасць Беларусі, лічым сваімі братамі. Да тых, хто падтрымлівае нашу барацьбу, ставімся талерантна. А тыя, хто выступае супраць беларускага нацыянальнага адраджэння — нашы ворагі. „Край“ адмаўляе імперыялізм і шавінізм, камунізм і фашызм, касмапалітызм і псеўданацыяналізм.

— Ці не з’яўляецца для сяброў „Краю“ галоўным фізічная падрыхтоўка?

— Прапаганда фізкультуры і спорту, здаровага ладу жыцця адна з задач арганізацыі. „Краёвец“ павінен у любой сітуацыі пастаяць за сябе і за сваіх сяброў. Усё лета праводзім у вышкаленчых лагерах дзе-небудзь у лесе. Адбываюцца марш-кідкі па ўсёй Беларусі, навучанне рукапашнаму бою і г.д. Але разам з фізічнай падрыхтоўкай адбываецца ідэалагічнае выхаванне. Мы лічым, што зацвярджэнне ў грамадстве беларускай нацыянальнай ідэі — жыццёвая неабходнасць. Пакуль гэта ідэя не стане вызначальнай для ўладаў, палітычных сілаў, грамадства ў цэлым, не будзе ў Беларусі адзінства народаў, ні яго адраджэння, ні палітычна і эканамічна моцнай дзяржавы. „Краёвец“ абавязаны ўмець данесці нацыянальную ідэю да людзей. А калі навучанне адбываецца ў лесе, каля вогнішча, яно лепей успрымаецца.

— Падчас абучэнняў і акцый „краёўцы“ апранаюць вайсковую форму. Калі атрад „Краю“ ідзе калонай маршавым крокам, адчуванне, што гэта сапраўднае войска. Ці не будзе ваша арганізацыя ў будучай незалежнай Беларусі падмуркам для стварэння афіцэрскага корпусу краіны?

— Хутчэй нешта накшталт краёвай абароны ці нацыянальнай гвардыі. Мы змагаемся за Беларусь, а не за пасады, за права беларусаў быць гаспадарамі сваёй долі і дзяржавы, а не за магчымасць панаваць над уласным народам. Якая б не была ўлада ў Беларусі, мы будзем яе падтрымліваць толькі датуль, пакуль яна дзейнічае ў інтарэсах нацыі, а не ў сваіх уласных.

Што датычыць вайсковай формы. Яна дысцыплінуе і яднае. „Край” не партыйная арганізацыя, а хутчэй ордэн, адна сям′я. Мы сваіх хлопцаў баронім у любой сітуацыі і ў любым месцы. Кожны адчувае падтрымку ўсіх.

— А якія ў вас адносіны з сучаснымі палітычнымі апазіцыйнымі партыямі?

— Можам супрацоўнічаць з тымі, хто стаіць на грунце беларускай нацыянальнай ідэі, для каго мэта — пабудова Беларускай Незалежнай Нацыянальнай Дзяржавы. Але, для тых, для каго галоўнае дабіцца ўлады, і якія дзеля гэтага могуць пайсці нават на дамову з існуючым рэжымам, ніякіх сентыментаў у нас няма.

— Хто можа стаць “краёўцам”?

— Той, каму споўнілася 16 гадоў, хто годна прайшоў кандыдацкі тэрмін. Пасля прыняцця прысягі на вернасць Беларусі, ён можа стаць сябрам “Краю”. Хлопцы пасля 14 да 16 гадоў маюць магчымасць увайсці ў склад нашага юнацтва.

*Ніва, 1999, № 51.*

## Студэнты змагаюцца за мову

Студэнты другога курса факультэта гісторыі і культуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта падалі на імя дэкана факультэта Івана Крэня заяву, у якой у прыватнасці гаворыцца: „Факультэт гісторыі і культуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы заўсёды быў цэнтрам захавання нацыянальных традыцый, культуры беларускага народа. Тут існаваў асяродак студэнтаў і выкладчыкаў, для якіх гісторыя народа азначала не толькі назвы дысцыплінаў, але і нешта большае. Адным з складнікаў фарміравання самасвядомай асобы з′яўляецца нацыянальная мова. Закон Рэспублікі Беларусь аб мовах дае права кожнаму навучацца на яго роднай мове. Абапіраючыся на гэты закон, мы просім Вас стварыць умовы для выкладання ўсіх навучальных дысцыплінаў па-беларуску». У выпадку, калі па нейкіх прычынах гэтага зрабіць немагчыма, студэнты патрабавалі стварыць на іх курсе беларускамоўную плынь. Заяву падпісалі 28 маладых гісторыкаў. 14 лютага яны перадалі свае патрабаванні ў дэканат. Праз дзень да іх на заняткі прыйшоў Іван Крэнь. Ён сказаў, што тэкст заявы яму не падабаецца і ён ведае, хто за ўсім гэтым стаіць. Перад сустрэчай са студэнтамі дэкан прагледзеў асабістыя справы ўсіх хто падпісаўся. Атрымалася, што гэта ў асноўным выдатнікі. Але на думку спа-

дара Крэня нават самы разумны другакурснік не мог сам напісаць такую заяву. Праўда, дэкан гістарычнага факультэта заявіў, што не супраць беларускай мовы і калі Міністэрства адукацыі дасць дазвол, паабяцаў пасадзейнічаць станоўчаму вырашэнню студэнцкага пажадання. Аднак замест гэтага на факультэце пачалася апрацоўка студэнтаў. Выкладчыкі вырашылі, што "зачыншчыкамі" напісання крамольнай заявы былі тры студэнты: Ян Лялевіч, Юля Дарашкевіч і Юля Коцкая. Неўзабаве студэнт Іван Мацюк адмовіўся ад свайго подпісу, больш таго нібыта сказаў Крэню, што падпісацца яго прымусілі Дарашкевіч і Коцкая. Выкладчык беларускай гісторыі Іван Коўкель на сваёй лекцыі назваў абодвух дзяўчат "махровымі нацыяналістамі". Замест выкладання прадмета ён пачаў даводзіць студэнтам, што нехта падбухторвае іх, каб яны зрабілі ва універсітэце анархію. А стаяць за ўсім гэтым людзі, якім патрэбна адмываць заходнія грошы. Ад моўнага пытання "пагромца беларускіх нацыяналістаў" перайшоў да эканамічнага і пераконваў студэнтаў, што кілбаса, якая прадаецца ў беларускіх крамах, самая лепшая, а тая, што ядуць у Еўропе — дрэнь. Нарэшце 21 лютага Іван Крэнь паведаміў студэнтам, як вырашыў іх пытанне Савет факультэта. Атрымалася, што стварэнне ў гэтым годзе беларускамоўнай плыні — немагчымае. Ужо размеркаваны навучальныя гадзіны паміж выкладчыкамі і няма на беларускую мову грошай. Ад сябе дэкан дабавіў, што заява была нетактоўна напісана і параіў студэнтам больш не падпісваць дакументы, якія складалі дарослыя людзі. (Усе другакурснікі паўналетнія — аўт.). Але на гэтым справа не скончылася. 23 лютага спадар Крэнь выклікаў трох „зачыншчыкаў» для прафілактычнай размовы. Яму не спадабаліся адказы Юлі Дарашкевіч і ён пачаў патрабаваць ад дзяўчыны, каб яна адказала на каго працуе. Калі студэнтка адказала, што на будучую незалежную Беларусь, дэкан сказаў: "Трэба служыць існуючай дзяржаве". Ён абвінаваціў Юлю ў тым, што яна служыць не гэтай дзяржаве, а Польшчы (!?). Іван Крэнь папярэдзіў дзяўчыну, што студэнт Дзяржаўнага універсітэта павінен, як і дзяржаўны чыноўнік, падпарадкоўвацца ўсталяваным уладамі правілам. У іншым выпадку ён будзе звольнены з універсітэта.

*Ніва, ад 05.03.2000 г.*

## "Первомай шагает по планете"

Разам са старымі камуністычнымі парадкамі на Беларусь вяртаюцца старыя савецкія святы, а дакладней спосабы іх адзначэння. Праўда, размах ужо не той. Калі ў савецкія часы яўка на

першамайскія і лістападаўскія дэманстрацыі ўсіх без выключэння працоўных прадпрыемстваў і навучэнцаў тэхнікумаў, вучылішч і інстытутаў была абавязковая, дык зараз кожная ўстанова павінна выдзеліць на агульнагарадскія масавыя мерапрыемствы сваіх прадстаўнікоў. На прадпрыемствах людзі або цягнуць лёсы, каму выпадзе ў выхадны дзень ісці слухаць, як гарадское начальства будзе хваліцца поспехамі ў пабудове рынкавага сацыялізму, або кіраўніцтва заахвочвае людзей абяцаннем даць „адгул" (вольны дзень за ўдзел у мітынгу). У горшым становішчы вучні і студэнты: іх вядуць на „свята" пад прымусам.

Такім чынам гродзенская „вертыкаль" здолела сабраць на ўрачысты першамайскі мітынг некалькі тысяч чалавек. Але не паспеў першы прамоўца скончыць гаварыць пра росквіт гродзенскай прамысловасці за апошні год, як стройныя шыхты мітынгоўшчыкаў пачалі распадацца. Людзі пацягнуліся ў гарадскі парк, дзе былі выстаўлены намёты з півам і рознымі прысмакамі. Дзіўна, але сёлета ў іх не прадавалася гарэлка, што ў мінулыя гады было звычайным атрыбутам падобных мерапрыемстваў.

Сітуацыю на плошчы выратавала моладзь, якая стаяла з чырвонымі сцягамі і з плакатамі пра расійска-беларускае братэрства пад пільным наглядам выкладчыкаў. Але найбольш нахабныя маглі сысці на некалькі крокаў і таксама выпіць піва, паколькі адзін гандлёвы намёт быў усталяваны на самой плошчы. Найбольш стойкімі былі партыйныя пенсіянеры, якія ўважліва слухалі выступоўцаў і здавалася, нават верылі ў тое, што гаварылася. А да мікрафона, як і належыць у такой сітуацыі, падыходзілі прадстаўнікі ўлад, рабочыя, прадстаўнікі "інтэлігенцыі", "самой передовой молодёжи" з БПСМ і г.д. Здавалася, што паперы, з якіх чыталіся прамовы, дасталі са старой шуфляды, дзе яны праляжалі гадоў дваццаць. Праўда, быў адзін арыгінальны выпадак. Прысутных на мітынгу павіншавалі з Вялікаднем. Улічваючы процьму камуністычных чырвоных і чырвона-зялёных сцягоў, што луналі каля помніка галоўнага атэіста ўсіх часоў, гэта віншаванне выглядала даволі пікантным.

Больш нічога незвычайнага ў гэты дзень не адбылося. У гэтым значная заслуга гродзенскай міліцыі. Яшчэ перад пачаткам мітынгу былі затрыманы 14 маладафронтаўцаў, якія ішлі ў бок плошчы. Іх пратрымалі ў пастарунку да канца мітынгу, як сказаў адзін міліцыянер, „для профилактики".

*Ніва, 2000, № 20.*

# Абяцанкі-цацанкі

Пасля сямігадовага кіравання Беларуссю, Аляксандр Лукашэнка абяцае нарэшце ашчасліваць народ. Для гэтага яму на пачатку патрэбна яшчэ пяць гадоў прэзідэнцтва. Але кажа ён увесь час адно і тое ж а вынікі атрымоўваюцца адваротныя.

Дэпутат Вярхоўнага Савета, якога ніхто спачатку не ўспрымаў усур'ёз, стаў першым прэзідэнтам Беларусі ў часы, калі ўлада Вячаслава Кебіча так надакучыла народу, што людзі гатовы былі прагаласаваць хоць за чорта, абы нешта змянілася ў краіне. Лукашэнка абяцаў больш за ўсіх, казаў пра сваю "чэснасць" і "нячэснасць" іншых. Сваю перадвыбарчую праграму назваў: "Отвести народ от пропасти".

Што ж абяцаў сем гадоў назад "самы чэсны чалавек у Беларусі", і што з гэтага атрымалася. Гарантавалася "решение проблем экономики и социальной сферы — остановку роста цен и обнищания населения". У выніку кошты выраслі ў некалькі разоў практычна на ўсе тавары і паслугі. Інфляцыя прыняла катастрафічныя памеры. Нягледзячы на ўсе намаганні ўлад спыніць яе рост перад выбарамі, рост кошту долара ў адносінах да беларускага рубля, хаця ж трохі прымарудзіў, але расце няспынна і дасягае 1500 рублёў за долар. У апошнія дні перад выбарамі каля пунктаў абмену валюты ўсталёўваюцца чэргі. Людзі ўпэўнены, што як толькі Лукашэнка правядзе "чэсныя выбары", узрост інфляцыі непазбежны.

Між іншым у 1994 годзе было абяцана знізіць цэны за кошт значна зменшаных выдаткаў дзяржавы на ўтрыманне свайго апарату. Але той апарат пашырыўся да гіганцкіх памераў, у асноўным з-за павелічэння кантралюючых і караючых органаў, а таксама асабістай аховы прэзідэнта.

Дзеля паляпшэння эканомікі Лукашэнка абяцаў: "Будут чётко разграничены полномочия местных и республиканских органов власти и управления". Праз сем гадоў ні ў мясцовых, ні ў рэспубліканскіх органаў ніякай улады не засталося. Яна сканцэнтравана ў руках "человека, который всегда держит своё слово". Гарантыі падтрымкі прадпрымальніцтва і вызвалення яго ад дзяржаўнага рэкета абярнуліся давядзеннем да банкруцтва сотняў прыватных фірмаў, а дзяржаўным рэкетам займаецца асабіста кіраўнік дзяржавы.

Будаўніцтва павінна было быць пераарыентавана на задавальненне патрабавання насельніцтва ў жытле. Замест гэтага будуюцца пампезныя палацы і адміністратыўныя пабудовы. А новае жытло могуць набыць вельмі забяспечаныя людзі, шмат тых, што стаялі ў чарзе на кааператыўную кватэру, адмаўляюцца ад сваіх мараў, бо не могуць аплаціць тысячадоларовыя ўзносы.

Намаганні дзеля "повышения международного престижа, создания и поддержания на должном уровне репутации Беларуси как надёжного и выгодного партнёра, активного участника мировой, субрегиональной и региональной политики" прывялі да палітычнай ізаляцыі Беларусі, а самога Лукашэнку пускаюць толькі ў Лівію, Паўночную Карэю, Ірак і Кітай.

Асабліва цынічнымі ў першай перадвыбарчай праграме Лукашэнкі былі наступныя словы: "Особой заботой президента должна стать белорусская национальная культура — основа будущего государства". Так заапекаваўся, што лепшыя пісьменьнікі выязджаюць за мяжу, беларускае школьніцтва знішчана, а за карыстанне беларускай мовай у грамадскім месцы можна быць збітым міліцыянтам і патрапіць у пастарунак.

Зараз галоўнай перадвыбарчай абяцанкай першага прэзідэнта з'яўляецца сярэдні заробак у памеры 250 долараў. Ці не азначае гэта хуткага ўвядзення картак на харчаванне і іншыя тавары шырокага попыту?

*Ніва, 2001, № 35.*

## Інфармацыйная вайна

Улады Беларусі за некалькі тыдняў да прэзідэнцкіх выбараў распачалі шырокамаштабную інфармацыйную атаку на апазіцыю. Па-першае, гэта пазбаўленне недзяржаўных арганізацый сродкаў перадачы і атрымання даных пра ход передвыбарчай кампаніі і кантролю выбарчых участкаў. Рукамі супрацоўнікаў аддзелаў міліцыі па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю рэжым Лукашэнкі нахабна канфіскоўвае ў сваіх канкурэнтаў камп'ютэры. Ахвярамі такіх дзеянняў сталі і некаторыя недзяржаўныя газеты. Міліцыянеры не цураюцца ўзломвацца не толькі ў офісы, але і ў прыватныя кватэры актывістаў апазіцыі. Цікава, што па некалькі гадоў камп'ютэры нікому не заміналі. Зараз міліцыю, а дакладней тых хто ёй кіруе, цікавяць дакументы на набыццё тэхнікі, але іх наяўнасць рэдка ратуе ад канфіскацыі, маўляў, „пакуль забярэм, а пасля разбярэмся".

Другім пасля міліцыі „ўдарным атрадам" рэжыму з'яўляюцца падкантрольныя ўладам СМІ. На тэлебачанні, як грыбы пасля дажджу, з'явілася шэраг новых агітацыйных праграмаў, якія ўсхваляюць Лукашэнку і расказваюць пра жахі, што напаткаюць Беларусь у выпадку яго адхілення ад улады. Адзін з новаспечаных тэлекаментатараў, прыдворны „праваабаронца" Яўген Новікаў дагаварыўся

да таго, што спрыяльныя ўмовы для развіцця беларускай мовы, якія абяцаюць стварыць падпісанты пагаднення ад шырокай грамадзянскай кааліцыі, прывядуць да крывавай грамадзянскай вайны. Само пагадненне аб'яўлена антыканстытуцыйным, значыць, злачынным.

Шырока выкарыстоўваецца „інтэрнацыянальная дапамога". На Беларусь шчыльнымі радамі пачалі наязджаць расійскія палітыкі, грамадскія дзеячы, эстрадныя артысты, якія ва ўсю расхвальваюць Лукашэнку і адкрыта агітуюць за яго. Апошні выказвае падзяку, але не ад сябе асабіста, а ад усіх беларусаў. Пры сустрэчы з лідарам расійскіх камуністаў Генадзіем Зюганавым Лукашэнка заявіў, што гэта падтрымка не яго, а народа. Ён упэўнены ў сваёй перамозе, аднак злыя дзядзькі з Вашынгтона і іх паслугачы ў Беларусі спрабуюць перашкодзіць. А магчыма Рыгоравіч ужо выспеў да высновы: „Народ гэта я  а хто супраць — той здраднік радзімы".

Апазіцыя спрабуе абараняцца праз недзяржаўныя газеты. Шэрагу з іх уладамі ўжо вынесены папярэджанні, за якімі можа пайсці закрыццё выданняў. Канкурэнты Лукашэнкі выкарыстоўваюць магчымасць выступіць па два разы на тэлебачанні і радыё. Праўда, не ў прамым эфіры, а ў запісе. Сямён Домаш скарыстаў з тэлеэфіру адзін раз і згодна з пагадненнем 22 жніўня зняў сваю кандыдатуру на карысць Ганчарыка. Аднак у сваёй першай тэлевізійнай прамове адзіны кандыдат ад дэмакратычнай кааліцыі не ўспомніў пра дамову прызначыць у выпадку перамогі Домаша прэм'ер-міністрам. Затое запэўніў, што ў краіне застанецца дзве дзяржаўныя мовы, і што ён не супраць саюза з Расіяй, які будзе іншым. Кіраўніцтва БТ, адразу пасля дваццаціпяціхвілінай прамовы Ганчарыка, на паўгадзіны запусціла ў эфір Генадзя Зюганава. А сам Лукашэнка „вялікадушна" адмовіўся ад перадвыбарчых выступаў у СМІ. Навошта яны яму, калі яго асоба займае ці не 90% эфірнага часу штодня.

За два тыдні да выбараў апазіцыя адназначна прайгрывала інфармацыйную вайну. Тыражы недзяржаўных газет не перавышаюць некалькі дзесяткаў тысяч экземпляраў. Беларускамоўныя замежныя радыёстанцыі трансліруюцца на кароткіх і сярэдніх хвалях, якімі пасля шырокага ўвядзення ў карыстанне FM пераважная большасць насельніцтва Беларусі даўно не цікавіцца. Нягледзячы на заснаванне шматлікіх перадвыбарчых штабоў ні сустрэч з выбаршчыкамі, ні мітынгаў ці агітацыйных пікетаў не арганізоўвалася. Няма нават плакатаў і ўлётак. Звычайныя людзі пры размове нават не могуць адказаць хто, акрамя Лукашэнкі, балатуецца на пост прэзідэнта. Прынамсі ў Гродне становішча выглядала менавіта так. Але магчыма апазіцыя рыхтуе галоўныя козыры на апошнія дні перад выбарамі. Хацелася б верыць.

*Ніва, 2001, № 35.*




◀
*Аляксандр Міхальчык і Зміцер Кісель на пікеце да ўгодкаў Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. 10 снежня 2000 года*



▶
*Віншаванне ў Гародні з 90-мі ўгодкамі Апанаса Цыхуна, беларускага краязнаўца, настаўніка і літаратара. 5 траўня 2000 года*

## Ці спыняць крыжы вандалаў?

Тое што неабходна пашыраць Мінскую кальцавую дарогу ні ў кога не выклікала сумніву. Але хто мог падумаць, што пад шум будаўнічай тэхнікі нашчадкі сталінскіх катаў захочуць знішчыць помнік злачынстваў іх дзядоў — Курапаты.

Пасля абрання першага прэзідэнта Беларусі, шматпакутныя Курапаты не раз былі ахвярай набегаў вандалаў. Магілы расстраляных выкопваліся, косткі раскідваліся па наваколлі. Пасля неаднаразовых спробаў урэшце быў знішчаны памятны знак, падараваны прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам. Ганьбаваўся і асвечаны святарамі ўсіх асноўных канфесій Беларусі крыж. Аднак Курапаты заставаліся сімвалам злачынства камуністычнай ідэалогіі. І вось знайшлі выхад.

Паводле праекта адзін з участкаў пашыранай кальцавой дарогі павінен прайсці праз Курапаты. Але ўлады забыліся, што жывуць яшчэ на гэтай зямлі беларусы. Сотні абураных мінчукоў кінуліся ратаваць мемарыял. Ужо некалькі тыдняў людзі прыносяць і ўсталёўваюць у Курапатах крыжы. Упарадкоўваюць магілы. А галоўнае — сваімі целамі закрываюць іх ад бульдозераў. Моладзь не разыходзіцца нават ноччу, бо добра ведае: кадэбэшнікі па начах не толькі забівалі людзей, але і знішчалі помнікі беларускага народа. Супраціў мінчукоў прывёў да часовага прыпынення будаўнічых працаў. Археолагі павінны высветліць, ці ёсць на шляху дарогі, што будуецца, магілы, у якіх захаваліся астанкі памардаваных. Калі косткі пакутнікаў не будуць знойдзены, бульдозеры зноў заравуць у курапацкім лесе. Сучасным вандалам няма справы, што ўся зямля Курапатаў прасякнута чалавечай крывёй.

*Ніва № 42 (2371), 21 кастрычніка 2001 г.*

## Варожы Захад падкрадваецца з усходу

28 лістапада ў Маскву пачалі з’язджацца лідары былых рэспублік СССР, каб адзначыць дзесяцігоддзе ўтварэння Саюза Незалежных Дзяржаў на юбілейным саміце. Першым, як самы блізкі да Вялікага Брата, прыляцеў Аляксандр Лукашэнка. Нягледзячы на тое, што пасля прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі прайшло амаль тры месяцы, дагэтуль яго ў Расію не запрашалі. Відаць таму ўжо ў палове дзесятай раніцы Лукашэнка быў у Маскве. Ён адразу паехаў да Пуціна. Замест заплана-

ваных па пратаколе трыццаці хвілін, кіраўнікі Расіі і Беларусі размаўлялі тры гадзіны. Прычым за зачыненымі дзвярыма. Пра што канкрэтна ішла размова засталося таямніцай.

Безумоўна, афіцыйна ўсё выглядала прыстойна. Праўда, пры сустрэчы Лукашэнка не кінуўся цалаваць расійскага прэзідэнта, як гэта ён заўсёды рабіў з Ельцыным. Абмежаваліся поціскам рук. Перад тым як застацца адзін на адзін Пуцін падзякаваў госцю за яго настрой працягваць ствараць адзіную дзяржаву. Затым ужо на пашыраным пасяджэнні з удзелам прадстаўнікоў расійскага і беларускага ўрадаў было заяўлена, што размова тэт-а-тэт ішла пра шырокае кола эканамічных і ваенна-палітычных пытанняў, звязаных з узаемаадносінамі дзвюх саюзных дзяржаў. Вось па сутнасці і ўся інфармацыя.

Аднак, улічваючы той факт, што пасля тэрактаў у Амерыцы палітычная сітуацыя ў свеце кардынальна змянілася, можна зрабіць выснову: сакрэтная размова зацягнулася не праз абмен цёплымі прывітаннямі суразмоўцаў. Расія ўключылася ў антытэрарыстычную кампанію разам з заходнімі краінамі. Няхай сабе расійскія салдаты не ўдзельнічаюць у баях з талібамі, але Паўночны альянс ваюе расійскай зброяй, міністэрства па надзвычайных сітуацыях распачало захады па дастаўцы ворагам Усамы бен Ладэна гуманітарнай дапамогі. Значна палепшыліся адносіны паміж Масквой і Вашынгтонам. Адбыўся плённы візіт Пуціна ў Амерыку. Прыкладна за тыдзень да прыезду Лукашэнкі ў Маскву прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі заявіў пра неабходнасць шырэйшага супрацоўніцтва Захаду з Расіяй. А ў час побыту ў Маскве кіраўніцтва НАТА расійскія СМІ ўсур'ёз загаварылі пра магчымасць далучэння Расіі да Паўночнаатлантычнага блока. Праўда, Пуцін сказаў, што пакуль (!) яго краіна ў чарзе на ўваход у НАТА не стаіць. Але, палітычнае і што асабліва важна для Крамля, эканамічнае супрацоўніцтва былых праціўнікаў увачавідкі робіцца ўсё шчыльнейшым. Пры гэтым апекавацца лепшым сябрам Лівіі, Кубы, Паўночнай Карэі і Ірака, законнасць улады якога над сваім народам ставіцца пад сумненне цывілізаваным светам, робіцца не вельмі зручна. Магчыма, Пуцін тры гадзіны ўгаворваў апошняга дыктатара Еўропы змяніць свой імідж у вачах новых расійскіх саюзнікаў з НАТА.

А што Лукашэнка? Ён небарака ўсе апошнія гады быў адданым прыхільнікам антыеўрапейскай палітыкі. Усю сваю знешнепалітычную дзейнасць накіроўваў на ўзмацненне супрацьстаяння з Захадам, неаднаразова заяўляў, што зробіць з Беларусі расійскі фартпост супраць Паўночнаатлантычнага блока, збіраўся ўтварыць трохсоттысячную вайсковую групоўку ў адказ на пашырэнне НАТА на Усход. І вось такі ўдар лёсу. Добра, што не здагадаўся заключыць антыамерыканскі саюз з талібамі. Праўда, пасля падзей 11 верасня на Беларусь у свеце асаблівай ўвагі не звяртаюць. А сам Лукашэнка быццам бы спрабуе трохі лібералізаваць свой рэжым. Адсунуты ўбок такія адыёзныя постаці як Замяталін, зменена кіраўніцтва тэлебачання. Адтуль зніклі найбольш хлуслівыя вядучыя, разам са сваімі перадачамі. Пачаліся размовы пра магчымасць пашырэння паўнамоцтваў парламента. (У апошніх

захадах мала сэнсу, бо лукашэнкаўскую палату, акрамя афра-азіяцкіх дыктатарскіх рэжымаў і Расіі ніхто не прызнае). Супраць апазіцыі пакуль не прымаюцца асабліва жорсткія меры, калі не лічыць разгон пікетаў у Курапатах і закрыццё 11 лістапада газеты „Пагоня", якая зараз выходзіць толькі ў Інтэрнэце. Але сама апазіцыя ніякіх шырокамаштабных акцый не робіць, а ў асноўным займаецца высвятленнем куды дзеліся грошы, што былі выдзелены на выбары.

Аднак усяго вышэйзгаданага мала, каб дагадзіць Пуціну, які пасябраваў з Бушам. Расія безумоўна не адмаўляецца ад далучэння да сваіх вотчын Беларусі, у чым Лукашэнка бачыць уратаванне палітычнай кар'еры, а магчыма і асобы, але напэўна будзе патрабаваць зменаў у знешняй і ўнутранай палітыцы. Беларускаму дыктатару застаецца або чакаць, калі Масква зноў пасварыцца з Вашынгтонам (гэтага можа не дачакацца эканоміка Беларусі і тады ўзнікне пагроза галодных бунтаў), або дэмакратызаваць палітыку і эканоміку. У гэтым выпадку ўзнікае пагроза з боку апазіцыі, бо, вядома, у асноўным дыктатуры знікаюць, калі вымушаны аслабіць ціск на грамадства.

У першы дзень свайго візіту ў Маскву Аляксандр Лукашэнка адмовіўся ад запланаванай сустрэчы з прэм'ер-міністрам Расіі. Аднак з задавальненнем паразмаўляў са спікерам Дзярждумы, камуністам Селязнёвым і падследным па справе карупцыі Барадзіным. Тут ужо складаліся планы пра напаўненне бюджэту саюза Расіі і Беларусі, абмяркоўваўся праект канстытуцыйнага акту пра аб'яднанне дзвюх дзяржаў, разглядалася пытанне падрыхтоўкі сходу вышэйшага дзяржаўнага савета саюза Расіі і Беларусі, які павінен адбыцца 26 снежня ў Маскве. Карацей кажучы, сярод сваіх Лукашэнка адвёў душу.

*Ніва, 2001, № 46.*

# Няздольныя аб'яднацца

Украінская «аранжавая» рэвалюцыя дала новы штуршок для актывізацыі беларускай апазіцыі. Ужо два месяцы палітыкі аналізуюць вопыт паўднёвых суседзяў, шмат хто ездзіў на «Майдан Незалежнасці» і дзеліцца сваімі ўражаннямі. Усе разважаюць, чаго не дастае беларусам і што неабходна зрабіць, каб нарэшце дэмакратыя перамагла на Беларусі. Аднак пакуль ніхто з тых, хто прэтэндуе на ролю правадыра народа да шчасця, не заўважае (дакладней упарта не хоча заўважаць) таго, без чаго ніякія змены на Беларусі да нармальнасці немагчымы. Таго, што заўважыў народны паэт Ніл Гілевіч. «Паперадзе ўсіх апазіцыйных сіл — у сэрцах, у думках і ў калонах пад бел-чырвона-белымі — павінна ісці Беларусь, а не "Избирите меня, и я вам дам такую жизнь!.." Адзін ужо даў".

Гэта словы з артыкула Ніла Гілевіча “За што змагаемся?”, які быў надрукаваны 14 студзеня ў «Народнай волі» — газеце, якая па сутнасці засталася адзіным масавым незалежным выданнем на Беларусі (калі тыраж у няпоўных трыццаць тысяч на дзесяць мільёнаў насельніцтва можна лічыць масавым). Аднак іншыя газеты або закрыты ўладамі, або іх тыражы значна меншыя чым колькасць працуючых на якім-небудзь вялікім прадпрыемстве Гродна ці Мінска. Таму апазіцыя выкарыстоўвае гэты апошні рупар галоснасці, каб данесці свае думкі да грамадства. Але ніхто з лідараў апазіцыі і палітолагаў, якія амаль штодзённа друкуюцца ў “Народнай волі”, не падтрымаў паэта, ані не абверг яго думку. Затое амаль усе пішуць пра даўно зразумелыя і вядомыя рэчы, што, маўляў, выбарчы закон у Беларусі павінен змяніцца, ці хаця б выконвацца, што трэба спыніць ціск улады на незалежныя СМІ, што апазіцыі трэба аб’яднацца вакол адзінага прэтэндэнта на прэзідэнцкую пасаду і г.д. Усё правільна і ўсё ўжо даўно нагнала аскому. Вось толькі, як гэта зрабіць канкрэтна не кажа ніхто.

Беларускія апазіцыянеры быццам бы не заўважылі, што “аранжавую” рэвалюцыю зрабілі не Ючанка з Цімашэнкай, а сотні тысяч украінцаў. Яны ж калі што, могуць ад іх гэтую ўладу і забраць, бо, як сказаў у сваёй інаўгурацыйнай прамове новы прэзідэнт, «Украіна як нацыя здзейснілася». На жаль, на Беларусі ўсё адбываецца наадварот. Вінавата ў гэтым не толькі ўлада, а і апазіцыя. Нашы дэмакраты зараз хочуць ісці ўкраінскім шляхам. Нават пачалі колеры будучай рэвалюцыі выдумляць: то «васільковы», то «рамонкавы», можа хутка з’явіцца яшчэ які «бананавы». А што! Апельсіны на Украіне не растуць, а ўкраінцы выбралі колер гэтай паўднёвай садавіны. Калі пераймаць, дык усё. Толькі чамусьці не галоўнае.

Украіна выбрала Украіну! А не «либеральное, надэтническое, с социально ориентированным рынком государство», як нядаўна пісаў у той жа «Народнай волі», у сваіх настальгічных успамінах адзін з заснавальнікаў «Гражданской партии», якая пасля ўвайшла в «Объединённую гражданскую партию». Для мяне няма ніякага сумніву, каб у свой час Кучма правёў рэферэндум, на якім змяніў украінскі сцяг на былы савецкі — у Кіеве адбылася б не «аранжавая», а «жоўта-блакітная» рэвалюцыя.

Яшчэ адна забава беларускай апазіцыі — ствараць новыя грамадскія аб’яднанні. Іх ужо ці не больш чым актывістаў тых аб’яднанняў разам узятых, бо ўваходзяць у шматлікія арганізацыі амаль адны і тыя ж людзі. На пачатку года заявіў пра сябе рух «Защитники отечества», які на думку арганізатараў павінен згуртаваць былых і сённяшніх супрацоўнікаў міліцыі, пракурорскіх работнікаў, супрацоўнікаў КДБ. Сыходзячы з назвы і з таго, што прэмія імя былога міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі «С открытым забралом», зацвярджэнне якой было адным з першых пастаноў штаба руху, будзе ўручацца ў «День защитника отечества», гэта значыць у чарговую гадавіну заснавання савецкага войска, а ўдзельнікі руху будуць «защищать отечество», а не абараняць айчыну. Ну і чырвоны сцяг ім у рукі!

19 лютага ў друку з'явіўся зварот да беларускага народа з заклікам стварыць чарговы рух пад назвай «Воля народа»; пад ім, між іншым, стаяць подпісы Ніла Гілевіча, Алега Лойкі, Вольгі Іпатавай, Генадзя Лыча і іншых вядомых сваімі патрыятычнымі поглядамі людзей. Не ведаю як складаўся гэты зварот, але ўпэўнены, што менавіта дзякуючы гэтым людзям у ім ёсць словы пра вынішчэнне беларускай мовы і культуры сённяшнім рэжымам. Аднак гэта праблема ў звароце стаіць на адным з апошніх месцаў сярод прычын, дзеля якіх арганізатары вырашалі стварыць свой рух. Не хачу «каркаць», але думаю, што і з гэтага нічога не атрымаецца, бо беларусы ў цяперашнім стане няздольныя аб'яднацца.

*Ніва, 2005, № 11.*

# Апалітычныя вяскоўцы

Некалькі апошніх гадоў мне давялося пажыць на вёсцы, пабыць рынкавым гандляром, беспрацоўным і чорнарабочым. Я пазнаў жыццё розных катэгорый «простых» людзей, чуў ад іх тое, чаго ніколі яны не скажуць ні карэспандэнту газеты, ні партыйнаму актывісту.

Самымі апалітычнымі лічацца вяскоўцы. Аднак на ўсіх апошніх выбарах і рэферэндумах, па афіцыйных даных, яны найбольш актыўна галасуюць і стопрацэнтна падтрымліваюць існуючую ўладу. Парадаксальна, але так яно і ёсць. Вёска, дзе я жыў, знаходзіцца ў баку ад вялікіх дарог і прамысловых цэнтраў. Як раней казалі — «неперспектыўная». Жывуць у ёй амаль адны старыя. Ёсць некалькі маладых хлопцаў, якім не ўдалося жыццё ў горадзе і яны вярнуліся да бацькоў. Большасць з іх па некалькі разоў сядзела ў турме за дробныя крадзяжы ці бойкі. Адзіны стабільны прыбытак зімой — гэта пенсія старых, летам — гаспадарка і збіранне грыбоў на продаж. На грыбах, дакладней на лісічках, можна нядрэнна зарабіць. Яны добра прадаюцца на Захад, на чым нажываюцца легальныя і нелегальныя арганізацыі, якія праз сваіх прадстаўнікоў скупляюць грыбы ў вяскоўцаў. Але старым з грыбных грошай амаль нічога не застаецца. Трэба дапамагаць дзецям, што ўладкаваліся ў горадзе. Хлопцы свае грошы адразу прапіваюць. Мужыкоў засталося вельмі мала, паміраюць або ад гарэлкі, або ад непасільнай працы. Яшчэ амаль кожны год нехта вешаецца. Бабулькі з горыччу ўспамінаюць пра грошы, якія яны згубілі падчас абмену на новыя, яшчэ ў савецкія часы. А іх у старых панчохах, скрынях, трохлітровых слоіках засталася не адна тысяча ў кожным вясковым доме. Таму, калі Лукашэнка паабяцаў, што верне ўсё страчанае, уся вёска літаральна бягом кінулася за яго галасаваць. Успаміны пра гэта можна пачуць падчас кожнага прыезду «аўталаўкі». Некалькі гадоў назад у вёсцы закрылі краму і зараз два разы на

тыдзень з цэнтра сельсавета на машыне прывозяць прадукты. Гэта сапраўднае свята для жыхароў. Ёсць нагода сустрэцца з суседзямі, пагаварыць, у тым ліку і пра палітыку. Адносіны да Лукашэнкі значна змяніліся. Пасля падману са зваротам грошай яму ўжо ніхто не верыць. Але вяскоўцы ўпэўнены, што пенсіі дае ім прэзідэнт. Кошты таксама ён падвышае, таму рэйтынг Лукашэнкі хістаецца ў супрацьлеглыя бакі гледзячы ад таго, што раней павялічыцца: кошты або пенсія. А апошняя ніяк не можа ўгнацца за першым. Чакаць таго, што гэтыя людзі паедуць у Мінск на плошчу Незалежнасці адстойваць свае правы — нявартa. Але, калі б на Беларусі адбыліся сапраўдныя выбары, вяскоўцы наўрад ці галасавалі б так сама як у 1994 годзе. Наогул у беларускіх вёсках жывуць добрыя, шчырыя, добразычлівыя людзі. Што да адчування сябе адзіным цэлым з усім народам краіны, гэтага амаль няма. Наш чалавек ці не наш залежыць ад таго з нашай ён мясцовасці ці не. Размаўляюць людзі на цудоўнай беларускай мове, аднак, як і сто гадоў назад, лічаць яе вясковай, а рускую — гарадской. Думаю, што я для іх стаў сваім менавіта з-за мовы. Яны палічылі мяне «нашым вясковым хлопцам». Хаця ж да гэтага з Гродна больш на тыдзень я ніколі не выязджаў.

Магчыма ў вялікіх вёсках і пасёлках, пра росквіт якіх увесь час кажа беларускае тэлебачанне, сітуацыя іншая. Але большасць вёсак здаецца быць такімі, у якой я жыў.

*Ніва, 2005, № 18.*

## Не вераць Лукашэнку і апазіцыі

Большасці беларусаў і без падказкі палітыкаў даўно абрыд рэжым Лукашэнкі. Паасобку, у прыватных размовах, не раз давялося чуць: «Украінцы — малайцы, гэта не беларусы». Пытаешся: «А чаму ж ты не выступаеш адкрыта за свабоду». У адказ чуеш: «А што я магу адзін». Людзі не могуць аб′яднацца, бо няма ў іх душы таго, што аб′ядноўвае народ у нацыю. Таму і баяцца.

Работнікі дзяржаўных прадпрыемстваў, якіх амаль пагалоўна перавялі на так званы кантракт, баяцца, што толькі за спробу падняць голас у сваю абарону выляцяць з працы. Калегі напэўна не падтрымаюць, бо ім таксама страшна. Апазіцыя амаль не звяртае ўвагі на тое, што Лукашэнка ўжо некалькі разоў павялічваў заробак па краіне. Гэта не надта паляпшае становішча напаўбедных людзей, бо кошты падымаюцца яшчэ хутчэй, але ідэалагічна рэжым выйграе. Зараз бюджэтнікі ні на якія плошчы не пойдуць. Дзеля чаго? Каб пастаяць некалькі гадзін, атрымаць міліцэйскай дубінкай па галаве і вярнуцца дахаты. Праз некалькі дзён з′явіцца на суд, быць аштрафаваным і выкінутым з працы.



◀
*Зміцер Кісель, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Павал Мажэйка і Эдвард Дмухоўскі на 4-ым Кангрэсе дэмакратычных сіл Беларусі. Менск. 2 ліпеня 2000 года.*




▶
*Мінявічы (Мастоўскі р-н). Выезд у міжнародны дзень моладзі гарадзенскай моладзі ў памятныя мясціны. 24 красавіка 1999 года*

Апазіцыя запіша ў рэестр пашкадаваных ад рэжыму і забудзе. Яна пойдзе спрачацца на сваіх сходах аб «адзіным кандыдаце». У лепшым выпадку чалавек атрымае кампенсацыю за штраф. Так заходняя дапамога пераходзіць у бюджэт Лукашэнкі. А ўдзельнік мітынгу пасля не мае чым карміць дзяцей. Праз які месяц яго зноў будуць заклікаць на акцыю апазіцыі і вельмі крыўдаваць, што ён не прыйшоў.

Так. Рэжым вынішчае беларускасць. Няма незалежных СМІ. Рэпрэсіі ўзмацняюцца. Але ў 1985 годзе было яшчэ горш. Пра беларускую мову, бел-чырвона-белы сцяг і дэмакратыю нават марыць было смешна. Калі зараз амаль усё знішчана, тады нічога не было. Але змены на Беларусі адбываліся паралельна са станаўленнем беларускай нацыі. Тады Беларускі народны фронт змагаўся з камунізмам шляхам адраджэння беларускасці. Той, хто быў за дэмакратыю, далучаўся да гэтага працэсу або станавіўся маргіналам.

Зараз апазіцыя рада прыняць у свае шэрагі і нават увесці ў лідары хоць чорта, абы ён быў супраць Лукашэнкі. Пры сённяшнім стане адхіліць дыктатара ад улады ў 2006 годзе можа толькі яго акружэнне і то з дапамогай Масквы. Вось тады на плошчы можа выйсці натоўп, як гэта было ў Кіргізіі, і першымі ў морду атрымаюць актывісты «Пяцёркі +», бо іх жа міліцыя ахоўваць не будзе, а парабаваць што ў іх знойдзецца.

Каб такога не адбылося, трэба зноў пачынаць адраджэнне нацыі — праз камітэты салідарнасці з пацярпелымі ад рэжыму (неабавязкова ў палітычным, але і ў эканамічным сэнсе), касы ўзаемадапамогі і інш.— усё на нацыянальным грунце.

*Ніва, 2005, № 24, ад 12 чэрвеня, с. 5.*

# Сустрэча двух пакаленняў патрыётаў

16 студзеня ў Гародні адбылася сустрэча ўдзельнікаў беларускага нацыянальнага руху 40–50 гадоў з прадстаўнікамі патрыятычных моладзевых арганізацый. З ініцыятывай правядзення мерапрыемства выступіла гарадзенская філія Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады. Чынны ўдзел у падрыхтоўцы сустрэчы таксама прынялі хлопцы з спартова-патрыятычнай арганізацыі "Край". Значную падтрымку аказала гарадзенская абласная філія фонду імя Льва Сапегі.

Пачалася імпрэза беларускім нацыянальным гімнам, які спяваў гарадзенскі хор "Бацькаўшчына". Пад словы: "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", "краёўцы" унеслі ў залу бел-чырвона-белы сцяг. Ветэраны беларускага вызвольнага руху са слязамі на вачах спявалі гімн разам з хорам.

З прывітальным словам да гасцей, якія прыехалі з розных куткоў Беларусі, звярнуўся старшыня філіі фонду імя Льва Сапегі Уладзімір Хільмановіч. Ён сказаў, што зараз сярод некаторых палітыкаў стала модна гаварыць быццам бы незалежнасць Беларусі дасталася выпадкова і народ за яе не змагаўся, але ўдзельнікі сустрэчы з'яўляюцца жывым прыкладам адваротнага. Яны прысвяцілі лепшыя гады свайго жыцця змаганню за свабоду Айчыны, з годнасцю неслі імя беларуса праз жахі сталінскіх канцэнтрацыйных лагероў і зараз застаюцца вернымі ідэаламі маладосці.

Гісторык з Менску Яўген Калубовіч казаў пра пераемнасць пакаленняў. Па словах навукоўца, на працягу 200 гадоў беларусы змагаліся за незалежнасць. Падзеі 17 кастрычніка мінулага года ў Менску даюць падставы сцвярджаць, што ўдзельнікам нацыянальнага руху 40–50 гадоў ёсць каму перадаць эстафету барацьбы.

— Я ведаю, калі ў нас з'явілася такая арганізацыя як "Край", Беларусь стане сапраўды незалежнай краінай,— сказала былая сяброўка Саюзу Беларускай Моладзі, шматгадовая пакутніца сталінскіх лагероў Надзея Дземідовіч з Калодзішчаў. Спадарыня Надзея прачытала некалькі сваіх вершаў, напісаных адмыслова для гара-дзенскай сустрэчы.

А Генадзь Пяткевіч з Новага Свержаня, прапанаваў стварыць разам з моладзю арганізацыю, якая займалася б пашырэннем ведаў пра беларускі вызвольны рух сярод шырокіх масаў народу, а не толькі сярод палітычна ангажаваных людзей. Спадар Пяткевіч пад час вайны быў актыўным дзеячом баранавіцкага СБМ, пасля вайны ўдзельнікам антысавецкага падполля.

— Калі нам было столькі колькі вам цяпер,— казаў ён моладзі,— мы рыхтаваліся быць салдатамі Беларусі.

Адзін за адным выступалі ветэраны, сябры Саюзу Беларускай Моладзі, Беларускай Краёвай Абароны, славутага рагулеўскага Наваградскага шwадрону, дзеячы пасляваенных падпольных патрыятычных арганізацый. Успаміналі герояў, якія не дажылі да сённяшняга дня. Вядомых, такіх як Ларыса Генюш і невядомых, чыі імёны да гэтага часу пад забаронай. Ці не ўпершыню публічна было сказана пра партызанскага камандзіра Івана Раманчука, які ў канцы 40-х дзейнічаў са сваім атрадам на Нясвіжчыне, а ў 1947 арганізаваў падпольны Саюз змагання за незалежнасць Беларусі.

У другой палове дня для ветэранаў адбыўся канцэрт, у якім прынялі ўдзел дзіцячы фальклорны гурт "Дударыкі" і бард Андрэй Мельнікаў.

Напрыканцы сустрэчы, былая сяброўка СЗЗНБ, удзельніца паўстання палітвязняў у Кенгіры ў 1954 годзе, Вера Касмовіч з Гарадзеі (Нясвіжскі раён), выказала ўдзячнасць арганізатарам імпрэзы.

— Вы зрабілі сапраўднае свята для нашых душ,— казала яна.— Раней нас ніхто не ўспамінаў. Мы нікому не былі патрэбны. Лукашэнка нават пазбавіў тых невялічкіх ільготаў, якія былі пры Шушкевічы.

А нам шмат не трэба. Галоўнае, каб пра нас помнілі, каб мы ведалі, што нездарма пакутавалі ўсё жыццё за Беларусь.

На жаль не ўсе запрошаныя змаглі прыехаць на сустрэчу. Не дазволіў стан здароўя. Але ніхто з ветэранаў не застаўся раўнадушным да ідэі правядзення такіх спатканняў. Вось што напісаў у лісце да арганізатараў былы "рагулевец" Андрэй Вайтовіч са Слоніма: "Ваша запрашэнне на сустрэчу ўдзельнікаў беларускага нацыянальнага руху прымусіла мае вочы зрабіцца вільготнымі. На васьмідзесятым годзіку жыцця хтосьці мяне ўспомніў, першы раз у жыцці. Вялікі, вялікі дзякуй!"

— Для нас гэтая сустрэча з'яўляецца справай гонару,— кажа старшыня гродзенскай Грамады Віктар Сазонаў.— Менавіта такія акцыі забяспечваюць духоўную пераемнасць пакаленняў.

Удзельнікі гарадзенскага спаткання вырашылі, што яно не павінна быць апошнім. Запланавана летам зрабіць наступнае і пастарацца сабраць як мага больш ветэранаў беларускага нацыянальнага руху 40–50 гадоў, не толькі з Беларусі, а і тых, хто жыве за мяжой.

*Ніва*

*Алесь Чобат*

# Мой спамін пра Зміцера Кісяля

Гадоў дваццаць назад, у часы Гарбачова і Чарнобыля, былі мы ў адной ваеннай фабрыцы А-1426, а нават у адным аддзеле галоўнага тэхнолага — там было чалавек сто дваццаць, а на фабрыцы больш пяці тысяч, як у мурашніку... Кісель займаўся ліставой штампоўкай, я ліцейнымі формамі, ён прыйшоў нядаўна, я быў ужо гадоў пяць, адзін "малады", другі "стары", і яшчэ Кісель не хадзіў на перакуры, вось такое знаёмства, як прывітацца на калідоры. Помню толькі, што Кісель першым у аддзеле стаў ужываць ЭВМ (ці ўжо быў камп'ютар?) для распрацоўкі свае тэхнічнай дакументацыі, а потым я перайшоў на "Азот"...

Потым, увесну 1989 года, сустрэў я Кісяля на чацвяргах клуба "Паходня" ў Доме культуры на Ўрублеўскага (??????) — цяпер ужо я быў "малады", бо там зайшоў першы раз, а ён "стары", бо ў той "Паходні" быў ці не ад самага пачатку, пакуль я праектаваў тыя ліцейныя формы і ездзіў па камандзіроўках. Бацькі мае былі савецкія, і "беларускі нацыяналіст" з мяне ў першым пакаленні, а Кісяля бацькі былі пасланыя саветамі ў ГУЛАГ, для чаго так званая "свядомасць" мела ў мяне "абудзіцца", а ў Кісяля была прыроджаная. Смешна ўзгадваць, як збіраўся зайсці на тую "Паходню" — без спадзеву на памяць, купіў школьны падручнік беларускай мовы і вярнуўся да сваіх старых кнігаў Караткевіча; сам сабе чытаў уголас, адрабляў практыкаванні з падручніка і сам з сабою гаварыў, каб навучыцца не перакладаць з галавы на язык, але думаць па-беларуску... Зрэшты, і цяпер трэба вучыцца — каб быць беларусам.

А Кісель на той "Паходні" звычайна сядзеў недзе на збочу — як "у апазіцыі" — і ні на грош не верыў, гледзячы на яго, гарачым прамовам накшталт "сперва свабода должна быть, а потом эта ваша мова..." І заўжды, на маёй памяці, не хацеў быць разам з абыякавымі і раўнадушнымі гультаямі, хто будзе крычаць "геть, москалі!", а забытай беларускай мовы так і не вывучыць...

У снежні 1989 года ў Гародні, у клубе чыгуначнікаў, прайшла канферэнцыя і паўстала Гарадзенская Рада БНФ. Набліжаліся выбары зімой 1990 года — Кісель быў у Радзе радным, а я нават намеснікам старшыні.

Надышоў час "вялікай панямонскай палітыкі" — хаос, хаос і яшчэ раз хаос — мне і не толькі мне аднаму здавалася ясным, што цяпер трэба разбіць КПСС, хоць краем залезці ў саветы... і зрабіць

з “савецкай уласці” простую і рутынную беспартыйную бюракратыю, а ўсё астатняе далей, быле на гэта Бог дапамог. І таму паўстаў Дэмакратычны Блок “Саветы-90”, з шасці ці сямі нацыянальных і прадпрымальніцкіх саюзаў і арганізацый, легальных і нелегальных, існуючых і не існуючых... А Кісялю гэта было зусім не ясна, бо ў “Саветах-90” было так — чым больш збіралася людзей, тым менш там было хоць чаго беларускага. Не “абуджаўся” народ, не “расла свядомасць”, хоць плач... І радны Кісель адмовіўся балатавацца хоць бы ў гарсавет, але калі кампанія рушыла, Кісель рабіў на іншых, як шараговы валанцёр. Бо ў агульным спісе “Саветаў-90” былі тыя беларусы, каго Кісель паважаў.

Потым надышла “вялікая стома” — праграмнае эсэ Уладзіміра Арлова, так і называлася “Мы стаміліся”, і Віктар Шалкевіч спяваў “Я стаміўся гаварыць тыя самыя словы...” — і так нават развал СССР, дэ-факта ўжо ў жніўні і верасні 1991 года, сустрэлі хто дзе. У мяне ляжала ў выдавецтве першая кніжка “Год”, а сам я цягаўся з беспрацоўя па розных “кароткатэрміновых” рэдакцыях: “Перспектива”, “Гродненские новости”... Ізноў Кісель апынуўся недзе блізка. Бо і яго кароткія публікацыі з’яўляліся ў розных газетах. Кісель публікаваўся не так шмат, і наколькі я ведаю, рукапісаў “у стол” таксама не складваў, і для таго мой абавязак узгадаць тыя яго работы — як я чытаў іх у той час, і як успрымаю іх цяпер, калі і час другі, і яго ўжо няма...

*Васіль Бязмен*

# Мы былі сябрамі

З Дзімам мы былі сябрамі. Цяпер ужо я дакладна не памятаю ні часу, ні абставін нашага знаёмства. Хутчэй за ўсё гэта здарылася восенню ці зімою 1987 года на адным з паседжанняў клубу "Паходня", куды я  студэнт 2 курса мединстытута, толькі пачаў хадзіць. Дзіма тады ўжо быў актывістам клубу. Часта выступаў, удзельнічаў ва ўсіх рызыкоўных імпрэзах: ускладанні кветак на "Дзяды" 30 кастрычніка 1988 года ў Гародні, у першым пікеце ў абарону беларускай мовы на вуліцы Савецкай прыкладна ў гэты ж час, у выбарчай кампаніі Міхася Ткачова вясною 1989 года і іншых, якія я сёння ўжо ўспомніць не магу. Як не магу чамусьці ўспомніць нечага смешнага, яркага, што звязана са Зміцерам. Памятаю ягоны твар, памятаю ягонае ўлюбёнае слова-паразіт, якое Дзіма ўжываў да месца і не да месца — "па-просту". А вось нейкай яркай падзеі з ягоным удзелам прыпомніць не магу. І не таму што Зміцер у іх не браў удзелу, а відаць таму, што такіх падзеяў было шмат.

Я з Дзімам пасябраваў у канцы 1988 года, калі радыкальна настроеная група моладзі выйшла з клубу "Паходня" і арганізавала суполку імя Максіма Багдановіча. У тую суполку ўвайшлі і я  і Зміцер. Кіравала суполкаю Данута Янаўна Бічэль-Загнетава. На Каляды з 1988 на 1989 год пайшлі калядаваць па Гародні. На каталіцкія Каляды калядавалі разам з беластоцкімі беларусамі. Яны дапамаглі зрабіць нам калядную зорку. Сіта на гэтую зорку ахвяравала Данута Янаўна. На праваслаўныя Каляды ўжо пашлі калядаваць самы. Сабраныя пад час калядавання грошы і сталі тым стартавым капіталам, які дазволіў пачаць выданне газеты "Рэанімова". Першы нумар яе зрабілі Данута Янаўна Бічэль, Зміцер Кісель, Міхась Баяровіч і Алесь Аўчыннікаў у канцы студзеня — пачатку лютага 1989 года. З гэтага часу і бярэ пачатак праца Дзімы як журналіста і публіцыста. Ён браў удзел у падрыхтоўцы ўсіх нумароў "Рэанімовы". Амаль у кожным выпуску гэтае газеты ёсць ягоныя артыкулы. Менавіта тады я са Зміцерам моцна пасябраваў. Часта стаў бываць у ягонай кватэры на вуліцы Брыкеля. Мы сядзелі ў ягоным пакоі, курылі, пілі дамашняе віно з парэчак і размаўлялі. Або слухалі музыку. У Зміцера была неблагая калекцыя вінілавых пласцінак. Нашым улюбёным быў альбом "The Wall" групы "Pink Floyd".

Калі быў утвораны Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне", Зміцер стаў ягоным сябрам. Браў удзел у першым сойме, што праходзіў у Вільні. На гарадской канферэнцыі 10 ліпеня 1989 года Дзіма быў абраны ў склад Гарадзенскай рады БНФ. Потым былі выбары ў Вярхоўны Савет БССР 1990 года,



▶
*Віктар Сазонаў, Хенніг Тэвес, Яўген Вапа і Зміцер Кісель ля ўваходу ў Каложскі парк. Гародня. 10 кастрычніка 1999 года*



◀
*Дзень Волі ў Гародні. Ля сядзібы БНФ па вуліцы Карла Маркса-11. 25 сакавіка 1999 года*

расчараванне пасля іх, бо нам здавалася, што мы не дасягнулі планаванай мэты. Страшэнна быў расчараваны і засмучаны Зміцер. Пры сустрэчах на ягонай кватэры сталі размаўляць пра стварэнне партыі. Меркавалі, што толькі партыя, з яе моцнымі структурамі і дысцыплінаю здольная перамагчы камунізм. Як гэта зрабіць ні Зміцер, ні я  натуральна, не ведалі. Пайшлі за парадаю да разумных дзядзькоў з універсітэту, але яны толькі галовамі ківалі, практычна памагчы нічым ці не змаглі, ці не захацелі. Так мы з Дзімам партыю не стварылі. Я  некаторы час, памятаючы нашы паходы, хацеў напісаць гумарыстычнае апавяданне "Як я з Дзімам стваралі партыю". Але далей намераў справа не пайшла, а потым і падрабязнасці забыліся.

На другой Гарадзенскай гарадской канферэнцыі БНФ, якая прайшла ў лютым ці сакавіку 1991 года, рада амаль ў поўным складзе падала ў адстаўку, узяўшы на сябе адказнасць за няўдалую выбарчую кампанію 1990 года, сярод іншых і Зміцер Кісель. За ўсю гісторыю БНФ і навейшага дэмакратычнага руху на Беларусі гэта, бадай што, адзіны выпадак.

Летам 1991 года я ажаніўся. Нашу маладую сям'ю ўзялі да сябе на кватэру Зміцер з бацькамі, за што я са сваёю жонкаю застаёмся ўдзячныя да сёння. Тады Зміцер ужо закончыў універсітэт. Займаўся стварэннем каапeратыву "Васілёк", планаваў фінансава падтрымліваць беларускі адраджэнскі рух.

Пасля заканчэння інстытута вясною 1992 года я пераехаў у Шчучын. Са Зміцерам сустракаліся выпадкова і рэдка. Чытаў ягоныя артыкулы ў "Пагоні" і "Ніве". Пасля сталі даходзіць чуткі, што ён злоўжывае алкаголем. Апошні раз бачыў Дзіму выпадкова летам 2001 года пад час выбараў у рэдакцыі газеты "Биржа информации". Дзіма ішоў на паседжанне Гарадзенскай філіі БАЖу, а я быў па справах у выбарчым штабе Сямёна Домаша. Размова была кароткая, цяпер і зместу яе не памятаю.

Усё планавалі з жонкаю з'ездзіць да Зміцера ў госці, але так і не знайшлі часу...

Бацькі Зміцера, Галіна Аляксандраўна і Уладзімір Адамавіч, марылі ажаніць сына, дачакацца ўнукаў. Часта пра гэта гаварылі паміж сабою і са знаёмымі. Пайшлі на той свет не дачакаўшыся. Застаўшыся без бацькоў, нядоўга жыў і Дзіма.

Пра тое, што Зміцера не стала, мне паведаміў Юрась Пацюпа праз некалькі дзён пасля ягонага пахавання.

# Адзін з першых

Перш, чым напісаць невялікія ўспаміны пра Зміцера, паспрабаваў адшукаць анкету, якую звычайна запаўнялі новыя сябры клубу аматараў гісторыі і культуры роднага краю "Паходня". Некалькі гадзін пераварочвання архіўных папер не далі вынікаў. І тады я вырашыў пераглядзець фотаздымкі, каб зразумець калі ж Зміцер з'явіўся ўпершыню на адным з паседжанняў клуба. На жаль з дапамогай свайго старэнькага ФЭД-3 я не мог рабіць фотаздымкі ў вячэрні час і таму большая частка гісторыі клуба і нашых сустрэч засталася па-за кадрам. Правільна рабіла Зоська Верас, калі давала заданне выдатным дзеячам свайго часу напісаць свае аўтабіяграфіі самім. Першы здымак у альбоме не датаваны. Зміцер Кісель супольна са студэнтамі медыцынскага інстытута Ігарам Навумавым, пёдінстытута імя Янкі Купалы Анатолем Хілько, карэспандэнтам Міхасём Баярчуком стаяць на вуліцы Савецкая 10 з запрашэннем да жыхароў горада наведваць імпрэзы клуба "Паходня". На вуліцы зіма, ляжыць снег. І сапраўды на наступных фотаздымках мы маем магчымасць бачыць Зміцера часта. Але нарэшце я адшукаў анкету рабочага завода «Аўтамагнітол» Дзмітры Кісяля з прастаўленай датай 14.01.1987 года і тут жа зразумеў, што пры напісанні свядома ці несвядома Дзіма памыліўся, таму што анкета ляжала разам з анкетай дзяўчыны з таго ж завода, на якой пазначана дата 14.01.1988. Заадно знайшоў яшчэ і адзін вельмі змястоўны ліст ад Людвікі Антонаўны Сівіцкай (Зоські Верас).

Пачынаючы са студзеня 1988 года Зміцер спраўна плаціць сяброўскія складкі, якія тады былі 1 рубель у месяц. Дзеля чаго ж нам даводзілася збіраць сяброўскія складкі? Яны ішлі на афішы для канферэнцыі да 300-годдзя заснавання аптэкі пры кляштары езуітаў, у завяршэнне сустрэч нам патрэбна была гарбата і пячэнне, якія сталіся традыцыйнымі, па рашэнні агульнага сходу грошы выдзяляліся на кніжкі для беларускіх студэнтаў з Варшавы, на білеты для гасцей з Менску. Тады яны каштавалі па 7 рублёў на чалавека. Часам на паседжанні куплялі кветкі, да Купалля закуплялі 25 м арнаментнай стужкі, у час паездкі ў Кушляны за агульныя грошы часткова аплачвалі дарогу і закуплялі каўбасу. 20 рублёў былі выдзелены мною і перададзены Зміцеру 6 кастрычніка 1988 года на лялькі для класа, у якім вучыўся сын музыкі Валеры Жывалеўскага Федзя. Гэта быў першы хлопчык у Гародні, бацькі якога запатрабавалі каб навучанне ішло па-беларуску. Валера Жывалеўскі займаўся з дзеткамі, якія стварылі суполку пры музеі Максіма Багдановіча. На ранішнік для дзіцячай суполкі, які

адбыўся 1.01.89, былі аддадзены ўсе грошы са складак пахаднянцаў, за якія былі закуплены цукеркі, мультфільмы, каляндарыкі і кніжкі. На вочы зараз трапіла распіска з наступным тэкстам: "Я Вячорка Вінцэнт, атрымаў трыста рублёў ад прадстаўніка аб'яднаньня "Паходня" Іванчыка Язэпа на заплату штрафу пакаранымі за ўдзел у мітынгу-рэквіеме "Дзяды" 30.XI.1988 і ў карысьць Аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". Сябра АК БНФ В. Вячорка. 6 лістапада 1988 г.г. Менск". Але гэтыя грошы былі сабраны не як сяброўскія складкі, а з канкрэтнай мэтай, што сведчыць пра тое, што суполка падтрымкі АК БНФ, створаная восенню 1988 года пры "Паходні" была даволі вялікай. 20 сакавіка 1988 года па прапанове Зміцера распачалася традыцыя наведваць Вільню і месца пакарання смерцю Кастуся Каліноўскага. Прыехалі гарадзенцы, менчукі і Мікола Ермаловіч з Маладэчна. У складзе дэлегацыі прадстаўнікоў з Гародні быў і Зміцер. Ён вельмі балюча перажываў цяжкі стан заняпаду беларускай мовы, гісторыі і таму часта выказваўся на паседжаннях пра тое, чым мы да яго з'яўлення ў клубе ўжо перахварэлі і абмеркавалі, што, калі казаць па праўдзе, асабіста мяне крыху раздражняла. У той дзень мы не маглі не адведаць сваю зямлячку Зоську Верас. Сцежка па якой можна было дабрацца да лясной хаткі ў тым годзе была замецена снегам, але нехта ведаў іншую, і на вялікае здзіўленне на патрэбную паляну мы спусціліся з гары. У пакойчык да пісьменніцы заходзілі невялічкімі групамі, так як памяталі яе разгубленасць, калі ўпершыню ў 1986 годзе з'явіліся ў яе вялікай гурбою. У адным са сваіх лістоў яна папракала мяне за тое, што не пазнаёміў са сваёй жонкай. Мы тады былі жанатыя яшчэ толькі 15 дзён.

8 мая ў актавай зале педуніверсітэта адбылася пастаноўка тэатра "Золак" з Менску па п'есе Уладзіміра Караткевіча "Маці Урагану". Гэта была сенсацыя. Пастаноўка ішла на беларускай мове, а ў заключэнне апускаўся занавес з выявай "Пагоні". Кіраўнічкай калектыву была выхавальніца тады адзінага дзіцячага беларускамоўнага дзіцячага садку ў Менску Галіна Прыма, а акторамі сябры менскай "Талакі". Гасцямі займаліся Данута Бічэль-Загнетава, Зміцер Кісель, Алесь Аўчыннікаў, Ігар Навумаў, якія і аказаліся на адным з маіх фотаздымкаў у час провадаў гасцей. Сабраныя за спектакль грошы былі пералічаны на рахунак, які быў адкрыты ў Гародні Фондам культуры для сродкаў на пабудову помніка Кастусю Каліноўскаму. Не ведаю, як сталася, што Зміцер не браў удзелу разам са мной і Сашам Базарам у раллі па Прыпяці супраць асушэння Палесся. У чэрвені месяцы ён стаіць, усміхаецца разам з пахаднянцамі і акторамі тэатра імя Якуба Коласа з Віцебску на ганку гарадскога дома культуры. Сустрэча з імі, як і з акторамі іншых тэатраў (Закарпацкага, Абхазскага, "Дзе я", "Вольная сцэна"), якія наведвалі з гастролямі Гародню была ўжо традыцыйнай. Па запрашэнні "Паходні" з Наваполацку 18 чэрвеня прыехаў Сяржук Сокалаў-Воюш, які разам з віцебскім тэатрам удзельнічаў у дабрачынным канцэрце, сабраныя ад якога грошы былі пералічаны таксама на рахунак пабудовы помніка. Пасля канцэрту Зміцера, Алеся, Юрася Пацюпу і мяне разам з акторамі тэатра запрасіла

да хаты Данута Янаўна. А на наступны дзень мы разам са Зміцерам, Віктарам Габецам, Міхасём Баярчуком узялі ўдзел у першым масавым паходзе ў Курапаты.

1 ліпеня Зміцер удзельнічаў у святкаванні Купалля на паляне каля Румлёўскага маста, на якім прысутнічалі госці са львоўскага тэатра імя М. Занькавецкай, з якімі, як аказалася, мы стаялі побач у Курапатах. Праз гады Зміцер, наколькі я ведаю, быў адным з арганізатараў гэтага свята ў Гародні.

16–17 ліпеня Зміцер разам з пахаднянцамі, прадстаўнікамі лідскай "Руні" і мінскай "Талакі" удзельнічаў у працы па рэстаўрацыі хаты Францішка Багушэвіча ў Кушлянах. Мы выносілі з будынку лішкі глебы, скідвалі з гарышча нейкую кастрыцу, у якой з часоў Першай сусветнай вайны захаваўся імянны нямецкі кінжал, у ножнах, добра змазаны, які я спадзяюся захаваўся ў музеі да гэтага часу. Справа ў тым, што ў 1914 годзе ў будынку, у якім жыў Францішак Багушэвіч, быў нямецкі шпіталь.

Раніцай 20 жніўня мы са Зміцерам і Алесем Аўчыннікавым на аўтамашыне, якой кіраваў яго брат Саша, адправіліся ў Менск на сустрэчу прадстаўнікоў суполак, на якую нас запрасіла праз тэлефон Алеся Сёмуха. Недзе яшчэ ў прыгарадзе ў машыне з кола выйшла паветра і мы далей дабіраліся грамадскім транспартам. Спачатку завіталі на кватэру да старшыні "Талакі" Сяржука Вітушкі і адтуль разам з Генадзем Сагановічам скіраваліся на кватэру да мастачкі Валянціны Якімовіч, з якой былі добра знаёмыя, але не ведалі дзе яна пражывае. Затое месца жыхарства яе добра ведалі ў міліцыі і КДБ. Мы надта не надалі значэння тым міліцэйскім "уазікам", што стаялі недалёка ад дому і таму адразу патрапілі ў пастку. Дзверы нам адчыніў нейкі маёр, а Алеся так і паведаміла: "А нас ужо арыштоўваюць". На кватэры былі практычна ўсе знаёмыя, кіраўнікі большасці моладзевых суполак рэспублікі, а ад ЦК камсамола замест старых знаёмых, якія былі задзейнічаны на нейкім фестывалі, прысутнічаў Васіль Астроўскі. На тое, што адбывалася далей ён гаварыў: "каб не бачыў усяго на свае вочы, ніколі не паверыў бы, што такое магчыма". Практычна ўсіх арыштавалі на падставе таго, што мы або забойцы, або наркаманы, якія праводзяць мітынг, не дазволены ўладамі. Паколькі на сталах не было спіртнога быў зроблены вывад, што тут сабраліся размаўляць, а не піць. І таму ўсе госці былі адпраўлены ў аддзяленне міліцыі для допыту і складання пратаколаў. У тыя часы яшчэ дзейнічалі савецкія законы і таму ўсе ведалі, што адпусцяць праз тры гадзіны. Пасля вяртання і вячэры, да самага ранку мы абмяркоўвалі праграмныя палажэнні будучай Канфедэрацыі беларускіх суполак. Прычым па кожным пункце павінны былі выказацца ўсе як адзін. Хацелася спаць і вочы самі закрываліся, але хацелі разысціся да ранку, пакуль новая змена мянтоў не з'явіцца зноў нас арыштоўваць. З працай справіліся. Здаецца тая праграма сталася асновай для будучай праграмы БНФ, паколькі дадаткова прыдумаць нейкае палажэнне было б немагчыма. У праграме Канфедэрацыі былі самыя рэвалюцыйныя палажэнні, да якіх немагчыма было нават нам прывыкнуць: незалежнасць краіны, сваё войска... Як паказаў час, усё аказалася магчымым.



▲
*Бельск. Сустрэча беларускіх грамадскіх актывістаў*



▲
*Акцыя 25 сакавіка. Гародня. Цэнтральная плошча Леніна*




▶
*Акцыя супраць дыктатуры і вайны Расеі ў Ічкерыі. Гародня, пляц Баторага.*

Хоць Зміцер з'явіўся ў клубе даволі позна, але яго актыўнасць дазволіла ўдзельнічаць у адкрыцці помніка Алесю Гаруну ў Кракаве 25.09.1988 г. У гарадзенскай дэлегацыі з 7 асобаў была і Ніна Тарэлкіна, дацэнт універсітэту імя Янкі Купалы, заўжды вясёлая, цікавая маладая жанчына, сябра "Паходні" ад першага дня, якой сёння таксама няма з намі. Гэтая паездка прынесла яму знаёмства з цікавымі людзьмі, беларускімі студэнтамі з Польшчы, гісторыкам Алегам Латышонкам, які і быў ініцыятарам установкі помніка беларускаму паэту. Сам жа Зміцер вучыўся завочна таксама на гісторыка. Дзяржавай Алесь Гарун замоўчваўся так, як і Ларыса Геніюш. Вось што на гэты конт напісала ў адным з лістоў да мяне Зоська Верас: "Яшчэ пару слоў аб А. Гаруну.— Чаго ад яго можна хацець? Столькі гадоў у зсылцы... Вярнуўся зусім хворы... А у Менску Ён-жа на сходах ніколі не адзываўся ні слова... Сядзеў ціха толькі слухаў... Чым-жа Ён быў шкодны? Бацька рамеслянік, матка — прачка...".

30 кастрычніка 1988 года ў Гародні адзначалі "Дзяды". Амаль пад вечар дэлегацыя ад "Паходні" з 20 асобаў, у складзе якой быў і Зміцер, выправілася ад помніка да помніка з мэтаю ўскласці кветкі. Да гэтага часу тыя, хто хацеў перашкодзіць пахаднянцам патрапіць на магілкі, не дачакаліся і разышліся. Сам жа вечар "Дзяды" адбыўся ў харавым класе ГДК, куды ўціснуліся каля 180 чалавек. Выступілі Ткачоў, Бічэль-Загнетава, Пяткевіч, Лепешаў, Пацюпа, Быль, Бязмен і Уладзімер Кісель — бацька Зміцера. Так што на паседжанні "Паходні" прыходзілі разам сын, бацька, маці, ды яшчэ цётка.

Не бачу Зміцера на фотаздымках з Устаноўчага з'езду БНФ "Адраджэнне" і ў складзе дэлегацыі на Купаллі ў Супраслі. Дзве гэтыя падзеі па часе супалі і адбываліся 24.06.1989. Але пасля з'езду Зміцер трапляе ў Раду БНФ, якая праводзіла свае паседжанні ў памяшканні музея Максіма Багдановіча. Тады я быў абраны старшынём Гарадзенскай суполкі, а на паседжанні з'яўляўся разам з каляскаю і паўгадоваю дачкою, якая на шчасце заўсёды або спала, або паводзіла сябе вельмі ціха і не перашкаджала нам. Я сам не мог разарвацца і быць кіраўніком і "Паходні" і Фронту, таму рашэнні прымалі калектыўныя, а мне даводзілася толькі падпісваць заявы ў гарвыканкам на правядзенне мітынгаў, якія ў той час былі шматлюдныя, бо прыходзіла па 5–7 тысяч удзельнікаў. Рада магла на мітынгу не даць мне слова, прадставіўшы яго замест мяне Антону Ліепу з Інстытута біяхіміі. Да 10-годдзя БНФ у "Народнай волі" быў надрукаваны артыкул Зміцера Кісяля з храналагічным адлюстраваннем зменаў у кіраўніцтве гарадзенскай суполкі, якая па сваёй шматлікасці саступала хіба толькі менскай. Першы масавы мітынг адбыўся 26 ліпеня 1989 года на стадыёне ў Новым парку. Кіравалі ім прадстаўнікі двух бакоў: ад уладаў Іван Ціток, а ад БНФ здаецца Алесь Чобат, які разам з Уладзімерам Навумовічам былі маімі намеснікамі. Але на фотаздымку на полі стадыёна побач з імі стаіць і Зміцер.

На паседжанні "Паходні" 3 жніўня разам з Міхасём Ткачовым і Вольгай Іпатавай выступаў і Зміцер. А пасля ўсе слухалі спевы Міколы Сахарэвіча (Дар'юша Фіёніка) з Беласточчыны.

22 верасня Гародню наведаў Данчык, з якім мы былі добра знаёмыя яшчэ з 1986 года. Лявон Антонавіч Луцкевіч, які быў блізкім сваяком з Данчыкам, перапісаў на магнітафонную стужку дыск спевака "Я ад вас далёка..." і мы слухалі яго спевы на розных вечарынах. А затым з Амерыкі Багдан Андрусішын (Данчык) даслаў для мяне і сам дыск. У канцэрце, які адбыўся ў палацы "Юнацтва", разам з госцем выступілі Лявон Барткевіч і Сяржук Сокалаў-Воюш. А затым мы амаль усю ноч прасядзелі разам у гасцях у Дануты Янаўны. Там былі і Васіль Бязмен са Зміцерам. На раніцу ўсе разам гулялі па горадзе і паказвалі архітэктурныя і гістарычныя помнікі Гародні. Проста з гэтай экскурсіі Данчык з мамай адправіліся да сваякоў у Вільню.

29 кастрычніка ў Гародні калона дэманстрантаў, якую ўзначальвалі актывісты гарадской рады БНФ і сябры клуба "Паходня" з нацыянальнымі сьцягамі, харугвамі з гербамі гарадоў Беларусі рушыла да Вайсковых могілак на вуліцы Белуша. Вырашылі не заходзіць на Савецкі пляц, каб не перашкаджаць каранацыі біскупа Беларусі Тадэуша Кандрусевіча, на якую сабраліся некалькі тысяч вернікаў ля Фарнага касцёла. Ва ўрачыстасці ўдзельнічалі архіепіскап з Ватыкану Каласоно, епіскапы з Польшчы Кісель, Пэц, Патэрскі, Дамброўскі, святары рускай праваслаўнай царквы Гародні Урлік, Астроўскі, Камкоў. Для тых, хто не змог трапіць у касцёл былі ўстаноўлены ўзмацняльнікі. Паколькі ўрачыстае богаслужэнне пачыналася з 12 гадзін мы змаглі пасля памінання "Дзядоў" трапіць і на яго.

Па дарозе былі ўскладзены кветкі да помнікаў воінам, партызанам і падпольшчыкам у гарадскім парку, Элізы Ажэшкі, Янкі Купалы, маці Максіма Багдановіча, на магілы вядомых грамадскіх дзеячаў на старых могілках па вуліцы Антонава. Мітынг адкрыў Алесь Чобат, затым Данута Бічэль-Загнетава расказала пра старажытную беларускую традыцыю памінання продкаў "Дзяды" і неабходнасці яе адраджэння. Таксама выступілі былыя вязні Гулага, намеснік старшыні БНФ "Адраджэнне" Юры Хадыка, Алесь Белакоз, Зміцер Кісель, маладыя гарадзенскія паэты. Мітынг быў санкцыяваны. Спачатку гарвыканкам яго не дазволіў, але даў дазвол аблвыканкам, які прызначыў замест Савецкай плошчы месца для мітынгу на Вайсковых могілках. Шмат хто не ведаў пра гэта, таму ўдзельнікаў мітынгу было каля 400 чалавек. А наступным вечарам на "Паходні" бацька Зміцера распавядаў пра паўстанне ў Спецлагу, у якім ён прымаў актыўны ўдзел. Распаўсюджваліся чуткі, што сам Уладзімер Кісель быў забойцам здрадніка, які выдаваў паўстанцаў. Невядома ці было так на самай справе. Думаю пра гэта можна было б даведацца з яго асабістай справы, якая была выклікана гарадзенскімі "спецыялістамі" з тых мясцін. Але хто гарантуе, што тыя матэрыялы не сфальсіфікаваныя. У канцы 1990 года на сустрэчы пахаднянцаў Зміцер распавядаў пра Слуцкае паўстанне. Адчувалася, што гэта ўжо сапраўдны гісторык. Дзіма нейкі час працаваў карэспандэнтам газет "Пагоня" і "Ніва". Яго матэрыялы заўсёды з цікавасцю можна было чытаць.

16 снежня 1989 года на вуліцы Ажэшкі быў арганізаваны пікет каля аблвыканкама ў абарону пісьменніка Аляксея Карпюка, на якога выліваліся вёдры бруду, амаль як тады, калі Гародню вымушаны быў пакінуць яго сябра Васіль Быкаў. Зусім нядаўна я зрабіў фотаздымак, на якім у пікеце за Карпюка стаяць Зміцер разам з Васілём Бязменам.

Аднойчы Ігар Кузмініч зрабіў мне заўвагу. Гаворыць: "Ты заўсёды замоўчваеш мяне ў сваіх успамінах, якія друкуюцца ў "Трэцім сэктары"." Не ўспомніў нават, што я быў арганізатарам скаўтаў, што ў сваёй школе арганізаваў тыдзень беларускай мовы, калі ўсе вучні хадзілі ў нацыянальных вопратках і размаўлялі толькі па-беларуску, удзельнічаў у мітынгах, антыракетнай вандроўцы і вандроўцы на Грундвальскае поле і г.д. Апраўдвацца мне давялося тым, што гэта яго сябры, калі скарачаюць тэкст, выкідваюць не толькі яго прозвішча, але і ўсе фотаздымкі, на якіх ён ёсць. Магчыма гэта так на самай справе, паколькі я ніколі не звяраю першапачатковы тэкст з тым, што надрукавана ў часопісе, хоць скарачэнне напісанага бывае ў 2–3 разы. Аказваецца ў "Паходню" Ігара прывёў Зміцер Кісель са сваёй суполкі імя Максіма Багдановіча, якая выдавала сваю газету "Рэанімова". Нягледзячы на тое, што суполка праводзіла крыху раскольніцкую палітыку ў адносінах да "Паходні", сябры яе не забывалі ўсё роўна наведвацца і ў наш клуб. Памятаю, як разам з Ігарам спявалі ў створаным пры "Паходні" хоры на пачатку існавання "Бацькаўшчыны", як разам хадзілі па Гародні і калядавалі. А сам Ігар прывёў сваіх сябраў Уладзіміра Чырвоненку і Сяргея Салея, такіх знаных зараз грамадскіх дзеячаў.

3 лютага адбыўся перадвыбарчы мітынг, арганізаваны БНФ, ці можна сказаць новай створанай у Гародні арганізацыяй — "Дэмакратычны блок Саветы-90". Туды ўваходзілі Гарадзенская Рада БНФ "Адраджэнне", Польскае культурна-асветнае грамадства імя Адама Міцкевіча, Татарскае грамадска-культурнае аб'яднанне "Кітаб", Аргкамітэт рускага грамадства імя Андрэя Сахарава, Гарадзенскі Саюз кааператываў "Ліга", аргкамітэт працоўнага саюза Беларусі, абласное аб'яднанне кааператываў, Гарадзенскае аб'яднанне кааператываў "Пік". У праграме арганізацыі ўтрымліваліся палажэнні, якія ўсе пахаднянцы падтрымлівалі: роўнасць перад законам усіх палітычных і грамадскіх арганізацый, адмена 6-га артыкула Канстытуцыі БССР аб кіруючай ролі КПСС, суверэнітэт Беларусі, роўнасць усіх форм уласнасці і землекарыстання, стварэнне прафесійнай арміі, альтэрнатыўная служба, грамадзянства Беларусі для ўсіх на момант прыняцця закона аб грамадзянстве, роўнасць усіх рэлігій і вяртанне вернікам адабраных будынкаў, дзяржаўнасць беларускай мовы і гарантыі развіцця мовы і культуры для нацыянальных меншасцяў і г.д.

Удзельнікаў мітынгу было палова трыбун стадыёна, міліцыянты спрабавалі адбіраць нацыянальную сімволіку, але гэта ім не давалася прысутнымі. Як заўсёды Слава Русецкі з бела-чырвона-белаю

скрынкаю збіраў ахвяраванні, бо мітынг трэба было аплачваць. На чарговым фотаздымку Зміцер і Ігар пад час мітынгу стаяць побач з кандыдатамі ў дэпутаты.

Зміцер знаходзіўся і сярод тых, хто падтрымліваў Міхася Ткачова на веснавых выбарах у Вярхоўны Савет СССР вясною 1989 года. Тады горад быў раздзелены між намі на дзялянкі. Зміцер стаяў на Савецкай насупраць помніка Сакалоўскаму. Агітацыйныя матэрыялы мы захоўвалі ў адным з пакойчыкаў ГДК. Што значыць адміністрацыйны рэсурс. Аднойчы я ўзяў і тры транспаранты паставіў за шафу. Чаму так зрабіў незразумела, але калі на наступны дзень мы прыйшлі перад пікетам у ГДК, то толькі іх і знайшлі. Усе астатнія зніклі назаўсёды.

Якраз на Дзень Волі, 25 сакавіка 1990 года, Дзіма сустракаўся з дэлегацыяй гданьскіх беларусаў, якія прыязджалі ў Гародні, а днём раней мы разам з імі традыцыйна наведалі Вільню, каб зноў пакласці кветкі да месца пакарання Каліноўскага. Ці не ў той раз Алесь Пушкін увесь час насіў з сабою чучала Мураўёва, якое было спалена ля Вежы Гедыміна, ля якой на думку гісторыкаў і былі знішчаны астанкі паўстанцаў.

14 ліпеня 1990 года Зміцер разам з цэлай грамадой пахаднянцаў (44 асобы) прысутнічаў на першым “Басовішчы’90”, сімвалам якога сталася “з крыллямі свіння”, а на наступны дзень мы наведалі поле Грунвальда, дзе 580 гадоў таму была атрымана перамога. Міхась Ткачоў, паколькі жыў і працаваў ужо ў Менску дабіраўся на поле бітвы на аўтобусе разам з менскай дэлегацыяй, якія мелі пры сабе вялізныя штандары баявых палкоў з розных мясцін Беларусі. У асноўным гэта былі “Пагоні”, якія адрозніваліся між сабой колерам фона.

Здаецца гэта была не апошняя яго паездка на фестываль беларускай рок-музыкі ў Гарадок. Ён завязаў знаёмства з беларускімі студэнтамі з Беласточчыны і цяпер яны ўжо спыняліся не столькі ў маёй невялічкай кватэры, колькі ў Зміцера.

На адным са здымкаў бацька Зміцера Уладзімір Адамавіч стаіць разам з Аляксандрам Надсанам, каля рафіку, на якім ён прывозіў у пачатку 1991 года сабраныя ў Англіі лекі для Чарнобыльскай зоны. Яшчэ доўгія гады Зміцер быў адным з актыўнейшых пахаднянцаў. Паведамляючы пра імпрэзы, я тэлефанаваў яму дахаты і мы падоўгу размаўлялі з яго бацькам. Бацькі вядома ж хацелі каб ён ажаніўся, але так і не дачакаліся гэтага. Акрамя грамадскай занятасці ў Зміцера было сваё малое прадпрыемства з назвай “Васілёк”. Ён ёсць на фотаздымках у маім альбоме і тады, калі адбывалася адкрыццё драўлянага помніка Вітаўту, зробленага літоўскімі майстрамі, паміж Старым і Новым Замкамі. Быў канцэрт і вельмі мяне тады ўразіла, што нашы сябры танчылі пад спевы Віктара Шалкевіча “Жлобская нацыя”. Для мяне Віктар быў ва ўсе часы паважаным аўтарытэтам, як і для большасці беларускай моладзі. Але вядома, што пэўным нашым сябрам не падабаецца, як ён высмейвае ў сваіх песнях свой народ.

Новы 1992 год мы сустракалі разам з вялікай групай беларусаў з Польшчы. З нашага боку мы дамовіліся пра гатэль, з кіраўніцтвам кавярні, якая мясцілася ў Доме навукі і тэхнікі, а Яраслаў Зелянкевіч збіраў сяброў на польскай тэрыторыі. Дзякуючы Яраславу і Валодзю Пацу і была адкрыта вясною 1992 года "Батлейка" у памяшканні тэатра лялек. Тады Мікалай Іванавіч Бардыга, дырэктар тэатра, пад крылом якога мы пратрымаліся 6 гадоў, пахваліўся, што пад дахам знойдзены асартымент кавярні, якая была ў тэатры ў канцы ХІХ стагоддзя і іншыя дакументы. На жаль, прыбіральшчыца, не ведаючы, што гэта за такія непатрэбныя паперы ляжаць на стале дырэктара, выкінула іх у сметнік.

На некалькі гадоў я адышоў ад кіраўніцтва "Паходняй". Па-першае, беларуская дзяржава развівалася тады сапраўдным шляхам беларусізацыі, а па-другое, я быў зацягнуты справамі ў "Батлейцы". Гэта быў самы час развіцця бандытызму ва ўсёй краіне і асабліва вялікая іх колькасць штодзённа наведвала "Батлейку". Патрэбна было заўсёды быць на месцы, каб каго-небудзь не забілі. Нягледзячы на гэта, усе прыхільнікі беларушчыны ішлі ў кавярню, дзе часам гучалі беларускія песні як з касет, так і ў выкананні наведвальнікаў. Тут збіраліся як мясцовыя паэты, музыкі, барды, так і тыя, што прыязджалі ў Гародню. Яшчэ год пасля рэферэндуму ў "Батлейцы" правісеў бела-чырвона-белы сцяг. Той сцяг, які вісеў на сцэне тэатра лялек пад час урачыстай вечарыны да 100-х угодкаў з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Нейкі час Зміцер Кісель не заходзіў у "Батлейку" у знак пратэсту, што не заўсёды нашы бармэны размаўлялі па-беларуску. Таму што ўсе прызвычаіліся, што мае працаўнікі на пачатку добра валодалі мовай, бо ўсе былі пахаднянцамі: Ігар Кузмініч, Сяргей Смірноў, Слава Койка і іншыя. Але ўсё ж на нашу радасць гэта было не надоўга. Усіх гасцей горада заўсёды вялі ў "Батлейку". Немагчыма пералічыць тых сустрэч з Вялікімі беларусамі, якія адбываліся. Гэта і рок-музыканты з "НРМ" і "Уліса", Кася Камоцкая, якіх пасля аднаго з канцэртаў, які быў арганізаваны Зміцерам ў былым кінатэатры "Космас", ён прывёў. Былі тут і барды — Зміцер Сідаровіч і Зміцер Бартосік. Дзіма Кісель арганізоўваў для вечара памяці Кастуся Каліноўскага на "Паходні" у ГДК канцэртную праграму з удзелам Віктара Шалкевіча, Валеры Жамойціна і Андрэя Мельнікава. Пасля канцэрту ўсе разам адпачывалі ў "Батлейцы". Нават Данчык падчас свайго прыезду і канцэрту ў Доме афіцэраў у 1998 годзе застаўся задаволены наведваннем кавярні, хоць я не заўважыў каб ён што еў ці піў. "Батлейку" наведвалі Вольга Іпатава, Данута Бічэль, Рыгор Барадулін, Уладзімір Арлоў, Аляксей Пяткевіч, Міхась Скобла і шмат іншых паэтаў і пісьменнікаў. Старэйшы настаўнік і літаратар Апанас Цыхун у свае 90 гадоў любіў пабыць з моладдзю і выпіць грамаў 50. Для беларускіх рыцараў з Менску "Батлейка" працавала да ранку і таму яны заўсёды бывалі тут. У кавярні адбылася цікавая сустрэча пахаднянцаў з Янкам Запруднікам, а заадно яе наведвалі сям'я Кіпеляў са ЗША, Вера Рыч з Англіі, Моніка Банькоўска са Швейцарыі — тыя, хто шмат робіць для папулярызацыі беларускага слова за мяжой. Свой аўтограф пакінуў перад самай эміграцыяй за мяжу і Зянон Пазняк.

Год за годам ў Зміцера памерлі маці і бацька. Шмат пахаднянцаў прысутнічала на іх пахаванні і шмат цёплых слоў было сказана прысутнымі ў адрас гэтых мужных людзей. Здавалася, што Зміцер сам напіша пра сваіх бацькоў, хоць успаміны бацька паспеў падрыхтаваць для кнігі памяці “Ніколі болей”, якую прэзентавалі колькі гадоў назад на “Паходні”. Здаецца моцным ударам па Зміцеру было тое, што МП, якім ён кіраваў, узяло крэдыт, а тыя людзі, якія яго выкарыстоўвалі на куплю тавару, страцілі яго і не вярнулі грошы. Але гэтую справу ведаю толькі павярхоўна, у той час сам мог на ўсе 100% апынуцца ў такой сітуацыі. Пасля смерці бацькоў Зміцер пачаў выпіваць і не змог ужо стрымацца. Меў шмат сяброў, хтосьці спрабаваў дапамагчы, чым мог. Юрась і Марыя Мацко пасялілі на нейкі час яго ў сябе на хутары, дзе ён, маючы кампутар, мог працаваць. Але не было ў Дзімы вельмі блізкага чалавека, які мог бы пайсці побач і перасцерагчы няшчасце. Шкадую, што нават не змог папрысутнічаць на яго пахаванні, даведаўся занадта позна.

# У родным горадзе чужынцам

Услухоўваюся ў шум дажджу, углядаюся ў цемру ночы. Здаецца, зараз неспадзявана, ціха, непрыкметна, выплыве на чарговую сустрэчу гарадзенскі канспіратар канца савецкай эпохі і лукашэнкаўскіх часоў Дзіма Кісель. Ён любіў ноч. Ноччу адчуваў сябе больш бяспечна, больш утульна. Можа яшчэ і таму, што ўжо не мусіў углядацца ў твары людзей, якія штодзённа сваімі дзеяннямі і крывадушнымі словамі, апаганьвалі святую яму беларускасць. Ноччу быў са сваімі. Таму ноч ставалася яму светлай прасторай. Таму так і любіў слухаць баладу свайго сябра пра самоту. "Ноч у Гародні кіне цень. Аддзеліць цемру ад святла". Аднак не аддзяліла. У родным горадзе, у якім нарадзіўся, глядзеўшы на ўсё рэальнае, прыйдзецца яму з цягам гадоў адчуць сябе чужынцам, а не поўным годнасці гарадзенцам, які любуецца ў час нядзельнай, пасляабедняй прагулкі завулкамі неразбуранага яшчэ старога горада. І тады ноч у жыцці сябра заменіцца з лякарства ў атруту. Невыносны гэта выклік, калі прысуджана вечна табе быць толькі начным матылём, толькі адзіная, вызначаная, прастора нараджэння, мараў, смерці.

Зараз лаўлю сябе на думцы, а ў які еўрапейскі горад змагла б упісацца ягоная рагатая, беларуская душа. Першае, што прыходзіць мне на думку, гэта Мадрыд. Кісель, бо і так наперамен мы да яго звярталіся, страшэнна не любіў холаду. Колькі памятаю, заўсёды, калі мы былі на двары, ад восені да вясны ён увесь час дрыжаў. І няважна як быў апрануты. А калі яшчэ ў гэты момант курыў папяросу, ляскаючы пры тым так моцна зубамі, што было чуваць у прамежку некалькі метраў, то я глядзеўшы на яго, дзякаваў Богу, што я ўжо не курэц. Пра ягоныя мары аб падарожжах я з ім ніколі не размаўляў. Ніколі таксама асабіста не быў у Мадрыдзе. А вось нешта прываблівае і характэрнае тоіцца ў іспанскай сталіцы і яе жыхарах (такое маё ўяўленне на аснове кніжак і фільмаў), што Дзіма са сваімі летуценнямі, у іншым месцы варот Еўропы, адчуваў бы сябе хіба натуральна. Цывілізацыйны стык, веліч гісторыі, цёплы клімат, апякунчыя жанчыны, сонечныя прамяні, што прыглядаюцца і адбіваюцца ў смачным віне, далі б яму неблагое задавальненне. Напэўна палагаднела б там і ягоная нацыянальная напорыстасць. Па сваім характары быў ён увогуле лагодным чалавекам і калі б ажаніўся, быў бы добрым кандыдатам трапіць пад пяту ў жонкі.

Мабыць, другім горадам, у якім час ад часу хацела б загасцяваць ягоная душа, калі наступае бязмежная меланхолія — гэта Парыж. Але менавіта толькі той начны горад, у якім незаўважана кожнаму

з нас перасякаецца мяжа паміж геданізмам і клашардызмам. Было нешта ў вобразе Дзімы з добрай французскай літаратуры, калі герой патрапляе адначасна ў пастку гісторыі і абсурднасць акружаючага свету. І яшчэ як інтэлігенту аж надта ўсё гэтае становіцца зразумелым. Уцякаць і вяртацца. Доўгія начныя размовы здаюць паступова месца доўгім начным бадзянням па кабаках у маўчанні. Да гэтага характэрны берэт на галаве, быццам шапка-няўгледка. Такімі былі нашы апошнія спатканні.

Калі мы з гадамі пасябравалі і гаварылі пра каштоўнасці дарослых, то для яго самым важным было захаваць каштоўнасці сваіх бацькоў — быць прадаўжальнікам нацыянальнага і пазітывісцкага дзеяння. Аднак такія справы не заўсёды сумяшчальныя. З аднаго боку выдаваць незалежныя часопісы, гэта заўсёды быць гатовым на кліч сяброў і ... палітычныя паражэнні. З прыходам да ўлады Лукашэнкі наступіў таксама і правал ягоных спадзяванняў на якую-колечы легальную пазітывісцкую, беларускую дзейнасць.

А потым былі пытанні чым займацца, каму верыць, ці ж звыкаць з думкай, што сны аб Беларусі і не зараз, і не хутка. Аднаго шкадую, што нашых размоваў, а часта пераходзіла гэта ў ягоны шматгадзінны маналог, я ніколі не запісаў на дыктафон. Ну, што ж  кубкі з гарбатай і кавай, перакуленыя разам чаркі, дзесяткі супольных сустрэч, зманліва абяцаюць спадзяванне на вечна непарыўныя сяброўскія сустрэчы. Запішам размову наступным разам, абяцалі мы сабе. А цяпер усё цяжэй прыходзіцца мне прыгадваць як гучаў натуральны голас Дзімы. Спачатку ўсплывае твар з ягонай усмешкай, а толькі потым пачынаю выхопліваць, быццам радар з касмічнага пылу, паасобныя гукі, што праз некалькі хвілін пачнуць складвацца ў прызабытыя словы, якія толькі тады нагадваюць ягоную мелодыку мовы.

Пэўна ж не раз і не два запісвалі яго тыя, супраць каму накіроўваў ён свой гнеў і супраціў. Спадзяюся, мо хаця адзін з іх можа зразумеў і адчуў, што ад такіх людзей як Дзіма Кісель павінны былі яны таксама вучыцца вернасці сваёй Бацькаўшчыне.

*Верасень 2007, Беласток*



◀
*У Гудзевічах (Мастоўскі р-н) з Алесем Белакозам. 19 лютага 1999 года*



▶
*На Случчыне з айцом Леанідам Акаловічам і Яўгенам Калубовічам*

# А інакш бы ня білася сэрца...

Шмат ці мала гадоў пражыў чалавек, яго жыцьцё — імгненьне, пасьля якога застаюцца толькі справы, якія пасьпеў або не пасьпеў зрабіць, мары, якія зьдзейсьніў або не, ідэі, якія і надалей камусь патрэбныя, або пра іх ужо забыліся... І суд на небе, ды памяць на зямлі. Памяць пра тое, як чалавек жыў, у што верыў, чаго намагаўся, і за што змагаўся, што рабіў, кім і якім ён быў...

Жыцьцё Зьміцера Кісяля можна апісаць адным радком: — Ён прысьвяціў сваё жыцьцё Беларусі. А за гэтым скупым радком кожны дзень таго жыцьця. Кожны дзень, які пачынаўся з думкі пра Радзіму і заканчваўся ёй. Усё што рабіў Дзіма, наўпрост ці ўскосна было зьвязанае з змаганьнем за Адраджэньне Беларускасьці. Ці ён размаўляў з кімсьці на вуліцы — размовы пра Беларусь, ці ён пісаў у газету — тэма пра Айчыну, ці зарабляў грошы — грошы на Адраджэньне...

Неяк, памятаю, падышоў ён да мяне, мы тады былі зусім яшчэ юнымі, і падзяліўся сваімі думкамі пра новую Раду гарадзенскай філіі БНФ (тады гэта быў яшчэ толькі рух за Адраджэньне. Як палітычная партыя аформіўся значна пазьней. У гэты рух мы ўваходзілі).

— Віктар, я думаю трэба стварыць Раду з нашых уплывовых і больш сталых людзей. З навукоўцаў, дэпутатаў, пісьменьнікаў... Гэта прымусіць уладу лічыцца з тымі заяўкамі на масавыя прадпрыемствы, якія мы будзем ладзіць. Бо іх подпісы пад тымі заяўкамі нешта значаць. Ня тое што нашы, маладых і нікому невядомых хлопчыкаў. А яшчэ трэба стварыць свайго роду падраду, з маладых і энергічных патрыётаў, якая і будзе вызначаць стратэгію ды рэалізоўваць задуманае. Такое спалучэньне, на маю думку, будзе сама эфектыўным. Прапаноўваю ў гэтую падраду ўвайсьці і табе.

— Задума добрая,— адказваю.— А ты сам куды пойдзеш? Бо я чуў, што цябе прапаноўваюць менавіта ў Раду.

— Ты што,— усьміхнуўся Дзіма.— Я з вамі, з сябрамі. З тымі, хто будзе на вуліцы. Як можа быць па-іншаму? Адзінае, што хацеў бы, каб вы мяне гэткім нефармальным кіраўніком той падрады абралі. Калі пагадзіцеся, канешне. Вельмі шмат маю задумаў, якія так хочацца рэалізаваць.

З тае пары праз доўгія гады мы сустракаліся амаль штодзённа. Дзіма стаў кіраўніком той падрады, якая без прымусу і дамоўленасьцяў зьбіралася і дзеіла ледзьве ня кожны дзень. Бо там былі

людзі, у якіх душа гарэла да Беларускай справы. І яны намагаліся пабольш зрабіць дзеля адраджэньня беларускасьці. Тая праца была для кожнага радасьцю. І многіх з тых людзей прывёў у падраду Дзіма Кісель.

Хутка я пазнаёміўся з яго сям'ёй. Бацька і маці, мілыя і зычлівыя людзі, якія яшчэ пры сталінскіх часах пацярпелі за Беларускасьць і прайшлі ўсе жахі бальшавіцкіх канцлягераў. Я даведаўся, што Дзіма быў любячым і пяшчотным сынам, для якога слова бацькоў было надзвычай важкім. Ён хацеў іх бачыць шчасьлівымі. Ён хацеў іх слухаць. Ён хацеў быць добрым сынам. І ён такім быў.

Праз нейкі час я пазнаёміўся таксама і з сябрамі яго бацькоў, большая частка якіх, гэта такія ж як яны патрыёты Беларусі, якія таксама свае маладыя гады правялі за кратамі, бо хацелі быць Беларусамі, і каб іх Радзіма Беларусь была вольнай, незалежнай і шчасьлівай Краінай. І для кожнага з гэтых людзей Дзіма Кісель быў як родны сын. Яго любілі як роднага, яго паважалі, на яго ўскладвалі вялікія надзеі, што ён зможа разам з паплечнікамі рэалізаваць мары іх маладосьці. І ці мог Дзіма пасьля гэтага не апраўдаць тыя чаканьні? Ці мог выбраць сабе іншы жыцьцёвы шлях? Ці мог жыць па іншаму? Не! Ня мог і не хацеў. У яго сэрцы, душы, дзеяньнях, марах і надзеях жыла Беларусь. І ён быў упэўнены, што рана ці позна яна будзе такой, як пра яе мараць патрыёты. Толькі вельмі хацеў, каб гэта сталася як мага раней. Каб гэты шчасьлівы момант яшчэ сваімі вачамі пабачылі яго бацькі і тыя, хто прысьвяціў дзеля таго ўсё жыцьцё. Пабачылі і парадаваліся. Хоць на схіле сваіх дзён убачылі шчасьце. Так марыў Дзіма. Яго душа перапаўнялася дабрынёй і жаданьнем шчасьця іншым. Такім ён быў.

Гэта адзін з вобразаў Дзімы Кісяля, які ўрэзаўся ў маю памяць. Малады, прыгожы, разумны, энергічны, таленавіты, добры, чулы, адважны, аддны справе ў якую верыў, рамантычны хлопец, на самым пачатку свайго сьвядомага жыцьця. Хлопец, які нават сустракаючыся з сваёй каханай дзяўчынай, разам зь ёй разносіў у ночы беларускамоўныя ўлёткі і разьвешваў Бел-Чырвона-Белую сымболіку.

Пачатак дзевяностых гадоў вярнуў нашай Радзіме Бел-Чырвона-Белы сьцяг і старадаўні герб "Пагоню". Адзінай дзяржаўнай стала наша Мова, а наша Радзіма аднавіла Незалежнасьць. Гэта быў шчасьлівы час для ўсіх адраджэнцаў і таксама для Дзімы Кісяля. Ён пасьпяваў усюды. І параіць нешта камісіі, якая сачыла за выкананьнем моўнага закону, і дапамагчы кандыдатам ад блоку БНФ, і самому паспрабаваць рэалізавацца ў палітыцы і журналістыцы, і прывезьці адраджэнскія матэрыялы зь Вільні, і выдаваць сваю беларускамоўную газетку "Рэанімова", і прыгледзець за старымі бацькамі, і сустрэцца з сябрамі. Яго ідэяй стала пераконваньне сяброў у тым, што яны павінны распаўсюджваць нашы ідэі праз адукацыю. Зараз трэба адраджаць Беларускасьць. Многа хто можа расказаць, што Дзіма тады спрычыніўся да іх лёсу. Ён паказаў сябе сапраўдным сябрам. Чалавекам, якому не абыякавы лёс тых, хто побач. У яго хаце заўсёды хтосьці знаходзіў прытулак. І Беларусы

з-за мяжы і зь іншых гарадоў краіны. І нават гарадзенцы. Хто на ноч, а хто на доўгі час. Ніхто з тых, каго Дзіма лічыў сябрам, або хто сябрам лічыў Дзіму, ня меў ад яго адмовы. Ён заўсёды і ўсюды, з усімі, з кім мог, размаўляў пра сяброў. Камусьці трэба было дапамагчы з працай, іншаму з жыльлём, некаму з вучобай... Дзімы Кісяля хапала на ўсіх, хто размаўляў па-нашаму. Гэта быў чалавек з адкрытымі ў хаце дзьвярамі, адкрытым сэрцам і працягнутай дзеля дапамогі сябрам рукой. Ён заўсёды расказваў, як некалі адзін беларускі патрыёт не пабаяўся перасьледу і дапамог Дзімавым бацькам пасля выхаду з турмы знайсьці працу і жыльлё. Гэтую беларускую салідарнасьць Зьміцер ставіў у прыклад і стараўся сам быць такім. І гэта не было яму цяжка. Ён так сам хацеў. Радавацца і перажываць за посьпехі сваіх. Бо ён такі быў.

Адраджэнцкі ўздым пратрымаўся нядоўга. Хутка, зноў над Беларусьсю павісла пагроза страты незалежнасьці. Карыстацца на масавых акцыях нядаўна дзяржаўнай Бел-Чырвона-Белай сімволікай стала забаронена, беларусы зноў загаварылі па-чужынску. Тады я ўпершыню ўбачыў Дзіму ў адчаі і на моцным падпітку (І хай гавораць пра гэта што заўгодна. Але я перакананы, што сэрца гэтага чалавека такі моцны ўдар магло перажыць толькі праз рэанімацыю або шклянку. А хто асудзіць, то няхай так сам паспрабуе так палюбіць сваё, што можа імгненна разарвацца сэрца, калі гэтае сваё зьневажаюць). Ён убачыў мяне і ў роспачы спытаў:

— Віця, што ж яны робяць!? Ці ведаюць яны, што робяць!?

Але праз нейкі час ён ужо ведаў чым заняцца. Трэба пачынаць усё з пачатку. Бо праўда на нашым баку. І мы мусім давесьці сваю справу да канца.

Аднаго дня, мы сядзелі ўтрох, Дзіма Кісель, Уладзімір Хільмановіч і я ды планавалі стварыць у Гародні яшчэ адну адраджэнцкую (менавіта адраджэнцкую, так мы тады гэта бачылі) структуру. Існы на той момант БНФ, арганізацыя, да якой мы належалі сэрцам і перакананьнямі, тады пачынала дзяліцца. Паміж былымі сябрамі па партыі ішлі вострыя і не заўсёды этычныя спрэчкі. Многія людзі, якіх мы паважалі і цанілі, знаходзіліся па розныя бакі. Таму мы хацелі пазьбегнуць сварак паміж сваімі і стварыць штосьці такое, што ня будзе іх абвастраць. Мы ўжо тады дзеілі разам. Пачынаўся такі час, калі дзеля актыўнага змагара за Беларускасьць дзьверы, дзе былі працоўныя месцы, зачыняліся. Але для больш эфектыўнай працы, нам патрэбна была легальная арганізацыя, зарэгістраваная ў мінюсьце. Наш выбар паў на Грамаду (БСДГ), сябрам якой Дзіма ўжо быў. Да нас далучыўся Алесь Лобан і падтрымаў Валянцін Лучко, які стаў тады кіраўніком гарадзенскай філіі Грамады. Гарадзенская філія (БСДГ), каб паказаць прыярытэты ў абранай ідэалогіі і каб застацца разам з тымі, з кім пройдзены доўгі шлях Беларускага Адраджэньня адразу ўвайшла як калектыўны сябра ў рух БНФ "Адраджэньне". Не на шмат пазьней Уладзімір Хільмановіч узначаліў у Гародні філію грамадскай арганізацыі

“Фонд імя Льва Сапегі”. З тых прычын у нас зьявілася легальная мажлівасьць працаваць публічна. І ў палітычнай галіне і ў грамадзкай.

Дзіма зноў ажыў. Яго актыўнасьць ня мела межаў. Вельмі хутка структуры сталі расьці. Што тычыцца Дзімы, то ён прывёў у нашу каманду тады такіх актывістаў як Віктар Парфёненка, Сьвятлана Словік, Уладзімір Кісялевіч, яшчэ маладых у тыя часы (а пошук новай моладзі быў адным з прыярытэтных кірункаў) Паўла Мажэйку і Эдварда Дмухоўскага, якія толькі з-за аўтарытэту Кісяля, які прапанаваў ім, выбралі нашу каманду. Хоць яны ўжо былі актыўнымі ў беларускім руху і маглі выбіраць. Але адмовіць Дзіму Кісялю лічылі немажлівым. Мы ўзяліся за тое, што ўмелі рабіць, і што прыносіла плён.

Тыя традыцыйныя акцыі, якім ужо больш дзесяці год і якія жывуць і сёньня, прыкладам Дзень памяці Ларысы Геніюш у Зэльве, ці Дзень беларускай вайсковай славы ў гонар бітвы пад Воршай, які ладзіцца ў Гародні, або Дзень памяці паўстанцаў Кастуся Каліноўскага ў Сьвіслачы, і мноства іншых, арганізоўваліся з непасрэдным удзелам Зьміцера Кісяля, а вельмі часта і па яго ініцыятыве. Да іх з ахвотай далучаліся гарадзенскія і мясцовыя актывісты. Акцыі рабіліся масавымі. На іх прыходзілі людзі і чулі нашы Беларускія ідэі, нашу Гісторыю і Нашу Мову. Дзіма пасьпяваў усюды. Ён, разам з Юрасём Мацко робіць крыж ў гонар паўстанцаў, ён бярэ ўдзел у арганізацыі Купальля, дапамагае арганізоўваць традыцыйныя выезды моладзі ў Гудзевічы, ў музей да Алеся Белакоза, каб моладзь набралася там беларускага духу, бярэ ўдзел у адукацыйных семінарах ў Беларусі і за мяжой, дапамагае арганізоўваць мітынгі і выступае на іх, піша ў гарадзенскую “Пагоню” і беластоцкую “Ніву”... І даглядае за бацькамі. Яго маці цяжка хварэе. У хаце гора. Дзіма вельмі непакоіцца. Бо ведае — гэтая хвароба невылечная.

Асабліва Дзіма ганарыўся той справай, якую арганізавала наша каманда супольна з маладымі патрыётамі іншых рэгіёнаў, дзеля сустрэчы беларускіх вязьняў сталінскіх турмаў, якая адбылася ў Гародні. Гэта было прадметам яго гонару і годнасьці. Гэта было рэалізацыяй адной з галоўных募раў жыцьця Зьміцера Кісяля. Ветэраны беларускага Адраджэньня сабраліся разам. Пад Бел-Чырвона-Белымі штандарамі ў памяшканьні гарадзенскага БНФу. Убачылі, што іх справа жыве і пераможа. Дзіма ад шчасьця плакаў. Бо былі шчаслівымі яны, нашы духоўныя бацькі. З таго быў шчаслівы і ён.

У лісьце аднаго з патрыётаў, які ня змог прыехаць на гэтую сустрэчу з-за гадоў і стану здароўя, пісалася, што гэты чалавек усё жыцьцё прысьвяціў Беларусі. І зараз, на старасьці гадоў думаў, што ўсё марна. І ні яго справа, ні ён сам больш нікому не патрэбныя. Але зараз, пасьля гэтай сустрэчы, на якую ён хоць і ня змог патрапіць, але быў запрошаны, ён можа памерці зь лёгкім сэрцам. Бо ёсьць спадкаемцы гэтых сьвятых ідэалаў.

Адным з такіх спадкаемцаў, гатовых прысьвяціць і аддаць жыцьцё за Беларусь быў Дзіма Кісель. І ў момант той сустрэчы, і яшчэ доўга пасьля яе, не зважаючы на тое, што пачаўся псіхалягічны ціск

на арганізатараў, і нават нібыта незалежная баранавіцкая газэта "Шаг" пад прозьвішчам нейкага Гуткоўскага, разьмясьціла матэр'ял, дзе называла гэтую сустрэчу спатканьнем паліцаяў і бэсьціла арганізатараў, у тым ліку і непасрэдна Зьміцера Кісяля, Дзіма ў той час цешыўся зробленым. Ён быў шчасьлівы па-сапраўднаму, што не так часта здаралася. Бо яму ўдалося зьдзейсьніць адну з мараў. Гэта яшчэ адзін вобраз Зьміцера Кісяля, які я памятаю. Ужо немалады, у нечым расчараваны, але поўны сілаў і надзеі, разважлівы і адважны мужчына.

Яго шанавалі і любілі. Ён меў давер — быў у радзе гарадзенскай Грамады, быў у лідарах гарадзенскай арганізацыі "Фонду Сапегі", быў кіраўніком гарадзенскага БАЖу... Але ня гэта галоўнае. Ён быў паплечнікам і сапраўдным сябрам. Здавалася, яго ведаюць усе і ён ведае ўсіх. Праз яго я пазнаёміўся з Зьміцерам Сідаровічам зь Менску і Андрэем Мельнікавам з Гомля, многімі іншымі беларускімі дзеячамі. І ня толькі зь Беларусі. Празь Дзіму я пазнаёміўся з Яўгенам Вапам зь Беластоку, зь якім нашая каманда стала падтрымліваць цесную супрацу ў кірунку Адраджэньня Беларускасьці. Трохі пазьней да гэтай супрацы далучыўся Марцін Рэмбач. З замежных партнёраў менавіта іх Дзіма лічыў сваімі сябрамі. Я нездарма ўзгадваю пра гэта. Бо як сьцьвярджае старадаўняя мудрасьць — скажы мне хто твой сябра, і я скажу хто ты.

Я часта ўспамінаю адзін эпізод з нашага жыцьця. Такіх момантаў было многа, але гэты найбольш яскрава раскрывае характар Дзімы. Гэта было ў Менску. На вулічнай акцыі. Дэманстранты пачалі бараніцца ад АМАПу. Паляцела ў міліцэйскія шчыты ходнікавая костка і каменьні. Паўсюдна дарогу перагарадзілі машыны "ахоўнікаў парадку". Пачаўся хапун і зьбіваньні. Хаос. Людзі мітусяцца. Няведама што рабіць. Урэшце сталі разьбягацца, кінуліся хто куды. Я паляцеў па нейкім парку. Праз пэўны час мне моцна стала балець нага і я адстаў ад іншых. Думаў мяне дагоняць і схопяць, бо застаўся адзін. Адвярнуўся і бачу, за маімі плячамі ідзе Дзіма. Падхапіў мяне за руку і стаў дапамагаць бегчы. Мы разам прыехалі і разам ад'ехалі. Так бачыў Кісель Зьміцер сьвет. Трэба быць заўсёды разам з тым, з кім ты ёсьць. Ці разам уцячэм, ці абодвух зловяць. Гэта было яго разуменьне абавязку.

Сьмерць маці, пасьля доўгай і цяжкой хваробы, а пасьля раптоўная смерць бацькі, якіх Дзіма вельмі любіў, падкасіла яго сілы. Асабістая неўладкаванасьць і адкат беларускасьці ў Роднай Краіне ўзмацнялі яго боль. Усё часьцей ён шукаў паратунку або ў шклянцы, або ў адзіноце. На нейкі час зьехаў на вёску. Вярнуўся адтуль пасьвяжэўшым, узбадзёраным.

— Там Жыве Беларусь!!! — казаў ён.— Там размаўляюць па-нашаму! Ніхто нас ня зможа зьнішчыць! Мы адродзімся!

Вярнуўшыся ў Гародню, узяўся за працу. Пачаў пісаць. А пасьля... нечакана. Як заўсёды нечакана. Сьмерць заўсёды прыходзіць нечакана. Асабліва ў такім маладым веку.

Калі труну, дзе ляжала цела Зьміцера Кісяля накрылі Бел-Чырвона-Белым сьцягам, я ўспомніў паховіны яго бацькі. Тады, разьбіты горам Дзіма, прапанаваў кіраўніку гарадзенскай філіі БНФ Сяргею Мальчыку сказаць колькі словаў над магілай змагара за Беларускасьць Уладзіміра Кісяля. Бо беларускія ідэі ніколі не пакідалі яго душу. І нават на могілках яна заставалася беларускай. І яму было за гонар, каб прадстаўнік нацыянальнай партыі выступіў над магілай Беларускага патрыёта. Вось такая гэта была душа.

Зьміцер Кісель пакінуў гэты сьвет у самым росквіце фізічных і творчых сілаў. Малады. Шмат яшчэ мог бы зрабіць. Але яго віны ў тым няма. І ня трэба яе шукаць. Ня трэба спакусіцца на нічым не падмацаваныя развагі кшталту: — "А вось каб больш сачыў за сваім здароў'ем, каб вёў больш здаровы лад жыцьця, то больш пражыў бы і больш зрабіў бы." Але ён і так зрабіў столькі, за свае кароткія гады, што дай Бог і іншым зрабіць што-небудзь падобнае.

Некалі Булат Акуджава, на сьмерць Уладзіміра Высоцкага напісаў такія радкі:

*Кажуць быццам грашыў,*
*І зарана агонь патушыў.*
*Як умеў так і жыў,*
*А інакш бы не білася сэрца.*

Хіба што так і ў Дзімы. Паспрабаваў бы жыць па-іншаму, сэрца разарвалася б даўно. Вялікае сэрца Беларускага Патрыёта.

Якім Зьміцера Кісяля ўспамінаю я цяпер, празь нейкі час пасьля яго сьмерці? Усё часьцей па адным выпадку, які ён мне заўсёды расказваў як крыху вып'е. Цьвярозы ніколі не ўспамінаў пра гэта. Саромеўся. Не за сябе. За іншых.

Нейк на адным менскім мітынгу міліцыя пачала разганяць дэманстрантаў. У лапы трох здаровых амапаўцаў трапіла маладая дзяўчына, якая крычала, прасіла паратунку. Дзіма стаяў у першым шэрагу дэманстрантаў і ўсё бачыў. Ён заклікаў да ратаваньня дзяўчыны і кінуўся наперад, перакананы, што іншыя бягуць за ім. Прабегшы паўдарогі, ён азірнуўся і аслупянеў. Ніхто за ім не пабег. Ён стаяў адзін, паміж міліцыяй, якая трымала нашу дзяўчыну, што не хацела выпускаць з рук Бел-Чырвона-Белую сымболіку, і дэманстрантамі, якія моўчкі назіралі за яго адзінокім рэйдам.

— Чаму яны не пабеглі за мной? — Пытаўся Дзіма ў роспачы.— Там жа была наша дзяўчына! Чаму ў нас няма салідарнасьці? Калі яна зьявіцца? Людзі розныя,— казаў ён,— але ў мужчын павінна быць

мужчынскасьць. Бо калі ідзеш з сябрамі, а цябе раптам напаткалі твае ворагі і хочуць біць, тады ўсё стае відавочным. Адзін з тваіх знаёмых кіне цябе і ўцячэ, каб самому не дастаць. Другі пачне разьбірацца, ці справядліва цябе хочуць біць ці не. І з таго будзе прымаць рашэньне ці застацца. Трэці паляціць па дапамогу. Чацьвёрты па міліцыю. Лічы, яны ўсе цябе кінулі. І толькі той, хто нічога не пытаючыся, стане побач, каб разам бараніцца, толькі той сапраўдны мужчына. А астатнія — бабы. Якімі б апраўданьнямі і вялікімі словамі яны не прыкрываліся.

І часамі пералічваў прозьвішчы сваіх знаёмых, якія ў прынцыпе могуць зрабіць так, як той пяты. Усё часьцей ацэньваў людзей з пазіцыі: — "А ці пайшоў бы я зь ім у лес". Бо раней, у маладосьці, да сяброў было трошкі іншае стаўленьне: — "А ці пойдзе, калі будзе трэба, ён са мной у лес".

Вось такім Зьміцер Кісель мне ўспамінаецца зараз. Сапраўдным мужчынам, якога не зламала жыцьцё. Чалавекам з багажом жыцьцёвага досьведу за плячамі, які зараз ужо глядзіць на сьвет без былой юнацкай наіўнасьці, а цьвярозымі вачамі, нават тады, калі гэтыя вочы часамі не зусім цьвярозыя. Ён быў такім: — Шляхетным, далікатным з жанчынамі, ветлівым, верным сваёй ідэі і сваім перакананьням, надзейным, мужным, мудрым... Ён быў Беларусам, жыцьцё якога можна зьмясціць у адным скупым радку: "ён прысьвяціў сваё жыцьцё Беларусі". А можна пра гэтае жыцьцё апавядаць шмат...




*На пікеце да ўгодкаў Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. 10 снежня 2000 года*



*Жыве Беларусь!*

Зьміцер Сідаровіч

# Ён сышоў гэтак рана
# In memoriam

За Зьмітра Кісяля ніколі не бывала сорамна. Цяжка пералічыць ягоныя заслугі ў адраджэньні беларускіх спраў.

Паходзіў зь сям'і вядомых беларускіх патрыётаў, рэпрэсаваных сталінскім рэжымам. Адзін са сталых фундатараў беларускіх спраў на Гарадзеншчыне. Шматлікія культурніцкія фэсты пачатку 1990-х былі зробленыя на ягоныя грошы! Зьміцер Кісель, як толькі пачаў нешта зарабляць у бізнесе, адразу стаў адлічваць на справы беларускія, не пакідаючы часам сабе анічога. Ён і бізнес свой разглядаў як крыніцу фінансаваньня беларускага Адраджэньня: адзін з заснавальнікаў традыцыі ўшанаваньня памяці Ларысы Геніюш у Зэльве, адзін з заснавальнікаў Дзён памяці братоў Каліноўскіх у Сьвіслачы, ініцыятар адраджэньня Сацыял-дэмакратычнай грамады ў Гародні. Аўтар "Пагоні", пэўны час — старшыня гарадзенскай філіі БАЖ.

Ён ведаў шмат пра кожную вуліцу, кожны дом у Гародні. Меў сяброў па ўсёй краіне і за яе межамі. Калі думаеш, якімі людзьмі ўвасабляецца Беларусь, дык Зьміцер Кісель стаіць тут у першым шэрагу. Ён даказаў гэта цэлым сваім жыцьцём і апошнімі сваімі днямі.

*Наша Ніва, 2005, № 37*

# Артыкулы Зьміцера Кіселя на бачынах “Роднай старонкі”

У сваім хатнім архіве захоўваю амаль усе нумары “Роднай старонкі”, якая восенню 1989 года пачала выдавацца на бачынах штотыднёвіка “Маяк” Гарадзенскага вытворчага аб’яднання “Хваля”. У студзеня 1991 года “Маяк” быў перайменаваны ў газету “Ритм”, але “Родная старонка” па-ранейшаму выпускалася. Рыхтавалі гэту старонку гарадзенскія хлопцы: спачатку Юры Бацылеў і Іван Захар, а потым — адзін Юры Бацылеў. З таго часу прайшло больш за чвэрць стагоддзя. Нядаўна захацелася пагартаць гэтыя дарагія сэрцу “Родныя старонкі”, якімі зачытваліся гарадзенцы, пакідаючы іх сабе на памяць, даведваючыся праўду пра гісторыю сваёй Бацькаўшчыны.

Першы нумар “Роднай старонкі” выйшаў 20 верасня 1989 года. У невялічкай прадмове аўтары звярталіся да чытачоў і паведамлялі, “што старонка напісана моваю, на якой размаўлялі і пісалі свае творы Максім Багдановіч, Янка Купала, Францыск Скарына і Леў Сапега, Цішка Гартны і Уладзімір Караткевіч, якой карысталіся і карыстаюцца нашы прадзеды, дзяды і бацькі. Якую амаль забылі, асабліва ў горадзе... Цяпер многія людзі, а ў першую чаргу моладзь, пачынаюць цікавіцца сваёй спадчынай, гісторыяй, мовай. Ідзе працэс, які дазваляе назваць тое, што адбываецца, адраджэннем Беларусі. І мы спадзяемся, што “Родная старонка” таксама далучыцца да гэтае справы, уносячы сваю кроплю ў крыніцу адраджэння...”. У першым нумары старонкі былі апублікаваны верш “Пагоня” Максіма Багдановіча, артыкул Вінцука Вячоркі “Аб бела-чырвона-белым сцягу”, а таксама артыкул Я. Ятаўта “Мяккі знак”. У другім нумары “Роднай старонкі” друкаваўся артыкул Юры Гардзеева “Адлюстраванне часоў” пра старыя вуліцы Гародні. Была надрукавана прыкладная праграма курсу беларускай мовы заняткаў па курсу беларускай мовы ва ўніверсітэце “Культура і гісторыя Беларусі”. Артыкул “Юбілей Статута” Крывіча і рэплікі, звязаныя з гербам Гародні і фільмам “Хрыстос прызямліўся ў Гародні”. А таксама пра спявака Данчыка, які быў у Менску, выступаў з канцэртамі і якому ўжо падаравалі некалькі нумароў “Роднай старонкі”, а ён для яе пакінуў аўтограф: “Для “Роднай старонкі” ад шчырага сэрца з падзякай і пашанай на даўгі ўспамін ад Данчыка” і г.д.

Амаль у кожным нумары “Роднай старонкі” вёў рубрыку “Творцы беларускае славы” Зьміцер Кісель. Пад гэтай рубрыкай друкаваліся яго артыкулы пра слаўных асобаў нашай Айчыны. Сярод іх — Усяслаў Чарадзей, Еўфрасіння Полацкая, Давыд Гарадзенскі, Вітаўт Вялікі, Соф’я Гальшанская,

Канстанцін Астрожскі, Мікола Гусоўскі, Леў Сапега, Радзівілы і дзесяткі іншых. Зьміцер Кісель не толькі апісваў і распавядаў пра вялікіх людзей нашай Бацькаўшчыны, а заахвочваў і зацікаўліваў чытачоў невялікімі прадмовамі да гэтых артыкулаў. Аўтар, як педагог-гісторык, жадаў, каб чытачы абавязкова пазнаёміліся з яго артыкуламі, каб даведаліся, хто такія былі, напрыклад, Усяслаў Чарадзей, Еўфрасіння Полацкая ці той самы Давыд Гарадзенскі. Беларусы пра многіх асобаў у тыя 1990–1991 гады зусім нічога не ведалі і нават не чулі. Ім дапамагалі артыкулы Зьміцера Кісяля.

Перад пачаткам артыкула пра Усяслава Чарадзея (Родная старонка, № 6 1990 г.) Зьміцер Кісель пісаў: "Нельга народу не ведаць сваю гісторыю, асабліва нам, беларусам, чыя гісторыя — слаўная, залатымі літарамі напісаная...". А ў артыкуле пра Льва Сапегу (Родная старонка, № 16 (23), 1990 г.) ён шчыра прызнаўся чытачам, што "ад гісторыі Беларусі неадлучная гісторыя знакамітых арыстакратычных родаў". "Выкрасліўшы яе з падручнікаў гісторыі,— пісаў Зьміцер Кісель,— савецкая "навука" вынішчыла ў памяці народа цэлыя пласты нашае слаўнае мінуўшчыны, бо менавіта прадстаўнікі магнацкіх родаў былі ваярамі, палітыкамі, вучонымі. Шмат слаўных людзей дала Беларусі сям'я Сапегаў". Цікава і тое, што аўтар гістарычных артыкулаў заўсёды стараўся паведаміць і даць інфармацыю, дзе і ў якім выданні можна больш прачытаць пра тую ці іншую асобу, калі яна некага зацікавіць.

Да юбілею Грунвальдскай бітвы, Зьміцер Кісель апублікаваў матэрыял пра Яна Вісліцкага — беларускага паэта-лацініста. Напачатку матэрыяла аўтар ушчувае, што Вісліцкі на Беларусі амаль забыты. А ён, піша аўтар, у 1561 годзе ў Кракаве надрукаваў на лаціне сваю паэму "Прускія войны". Зьміцер папракае і энцыклапедыстаў, і перакладчыкаў: "На жаль, нават у Беларускай савецкай энцыклапедыі няма звестак пра Яна Вісліцкага. А сама паэма на беларускую мову не перакладзеная". І пра Грунвальдскую бітву аўтар выказаў сваю думку: "Грунвальдская бітва — гэта не толькі перамога над ворагам, але свята сяброўства народаў. Бо ў гэтай бойцы, змагаючыся за нашу і вашу свабоду, аб'ядналіся як браты беларускі, літоўскі, польскі і чэшскі народы. Гэта свята волі і братэрства" (Родная старонка, № 14 (21), 1990 г.).

Сказаў сваё слова Зьміцер Кісель ў 1990 годзе на бачынах "Роднай старонцы" і пра Радзівілаў. "Гэта найбуйнейшыя магнаты не толькі Вялікага Княства Літоўскага, але і ўсёй Еўропы... Рознымі людзьмі былі Радзівілы. Легенды ходзяць пра іх высакародныя ўчынкі і пра жорсткасць, пра вялікую культуру і дзівацтвы. А што да багацця Радзівілаў, дык няшмат у свеце было людзей, якія маглі з імі параўнацца. Да гэтага часу недзе пад Нясвіжам ляжыць схаваны скарб — статуі з чыстага золата. Вялікую дапамогу ў развіцці беларускай культуры аказвала мецэнацкая дзейнасць Радзівілаў. У XVI стагоддзі князь Мікалай Радзівіл Чорны пашыраў адукацыю, заснаваў друкарні ў Нясвіжы і Берасці, на ягоныя сродкі Сымон Будны ў 1562 годзе выдаў "Катэхізіс" на беларускай мове. Далёка за межамі

Беларусі былі вядомыя Радзівілаўскія тэатры...",— так распачынаў распавядаць пра Радзівілаў Зьміцер Кісель. І артыкул вельмі цікава і лёгка чытаўся, бо яго аўтар стараўся распавесці самае галоўнае і важнае з жыцця і дзейнасці гэтых людзей.

Распавядаючы пра Соф'ю Гальшанскую (Родная старонка, № 7(14), 1990 г.), Зьміцер Кісель падкрэсліў важную дэталь у гэтым матэрыяле, а менавіта, тое, што "палякі вельмі ганарацца Ягелонамі. Гэта самая слаўная дынастыя польскіх каралёў... Але ніколі чамусьці не ўспамінаецца, што пачынальніцай гэтай дынастыі была беларуска Соф'я Гальшанская. Неацаняльны ўклад гэтае жанчыны ў гісторыі нашага народу. Каралева-маці перадала ў спадчыну сваім сынам любоў да сваёй Радзімы. Менавіта ў часы ўладарання Ягелонаў і ёсць легендарны "залаты век" Беларусі".

Пішучы пра вялікіх асобаў нашай Бацькаўшчыны, Зьміцер Кісель заўсёды задаваў чытачам пытанні: кожны малы паляк ведае імёны сваіх каралёў, кожны рускі школьнік ведае пра сваіх бунтаўшчыкоў і палкаводцаў. А ці ведаем мы сваіх герояў, сыноў, дачок Беларусі, што здабылі нашай краіне сусветную славу?.. Ён пытаўся ў беларусаў і сам адказваў артыкуламі пра Вітаўта Вялікага, пра Еўфрасіння Полацкую, Канстанціна Астрожскага, Міколу Гусоўскага і іншых. Дарэчы, пра Міколу Гусоўскага і яго паэму "Песня пра зубра" Зьміцер Кісель дужа любіў і магчыма, шмат пра яго ведаў. Ён не толькі распавядаў пра аўтара-лацініста, але і цытаваў яго радкі з "Песні пра зубра", казаў, што ў Міколы Гусоўскага шмат напісана твораў на латыні, але галоўнай справай жыцця паэта засталася "Песня пра зубра".

Амаль цэлы год Зьміцер Кісель вёў рубрыку "Творцы роднай славы" на бачынах "Роднай старонкі". Далей аўтар спрабаваў перагарнуць наступныя старонкі нашай гісторыі, каб апынуцца ў XVII стагоддзі, адчуць сакавітасць нашай мовы ў тыя часы. Ён пазнаёміў чытачоў з "Прамовай Мялешкі". І не толькі пазнаёміў, а сам асабіста пераказаў урыўкі з "Прадмовы..." сучаснай граматыкай, не змяняючы гучання слоў. Чаму так зрабіў Зьміцер Кісель у пачатку 1991 года? Ды таму, як ён сам адзначаў, у "Прадмове...", мы знаходзім некаторыя прычыны нашага сённяшняга становішча. "Нашы продкі ўмелі жартаваць. Больш за тры стагоддзі прайшло, а як актуальна выглядае сёння гэтая прадмова",— пісаў Зьміцер Кісель (Родная старонка, № 3 (29), 1991 г.). Вось як гучыць адзін урывак з "Прадмовы Мялешкі", пераказаны Зьміцерам Кісялём: "Кажучы праўду, не так вінаваты кароль, як тыя родныя баламуты, што пры нім сядзяць да круцяць. Многа такіх ёсць, што хоць наша костка, аднак сабачым мясам абрасла і ваняець! Тыя, што нас дзяруць, губяць радныя. А за іх баламутнямі нашынец выжывіціся не можэць, Рэчы Паспалітую губяць! Валынь з Падляшшам прапаў наш! Знаю, нам прыступіла, што ходзім как падвараные, бо іх баімо, праўды не мовіма, яшчэ з падхлебнымі языкамі патакаемо. А калі б такога беса кулаком у морду! Забыў бы другі муціць".

Гістарычныя артыкулы Зьміцера Кісяля ў “Роднай старонцы” газеты “Маяк” (“Ритм”) у 1990–1991 гадах з’яўляліся першым самастойным міні-падручнікам па гісторыі Беларусі не толькі для работнікаў Гарадзенскага вытворчага аб’яднання “Хваля”, але і для гарадзенцаў, у рукі якіх гэтыя старонкі траплялі. Дзякуючы матэрыялам Зьміцера Кісяля, беларусы Гародні пачыналі адкрываць для сябе гістарычнае і багатае мінулае нашай Бацькаўшчыны.





*Дзень памяці Ларысы Геніюш. У цэнтры Зміцер Кісель, Віктар Сазонаў, Андрэй Мялешка і Андрэй Пачобут. Зэльва 6 жніўня 2000 года*





*Ля Каложы. Хенніг Тэвес, Уладзімір Хільмановіч, Зміцер Кісель, Яўген Вапа. Гародня. 10 кастрычніка 1999 года*

# Гутарка Андрэя Мельнікава з Уладзімірам Кісялём

Уладзімір Адамавіч Кісель нарадзіўся 20 лістапада 1922 года ў Клецку. Пад час нямецкай акупацыі вучыўся ў Нясьвіжскай настаўніцкай семінарыі, дзе з сябрамі стварыў падпольны "Саюз беларускіх патрыётаў". Па прыходзе савецкіх войск застаўся ў Беларусі, настаўнічаў — вучыў дзяцей фізіцы і матэматыцы. У 1946-м Кісель (псеўданім "Раса") удзельнічаў у нелегальным арганізацыйным сходзе "Саюзу змагання за незалежнасць Беларусі" (СЗНБ), кантактаваў з камандзірам беларускага партызанскага атраду Іванам Раманчуком ("Ястраб", кіраўнік СЗНБ). Арганізацыя дзеіла ў Заходняй Беларусі, збіраючы патрыятычныя сілы, якія ў выпадку вайны павінны былі выступіць у абарону беларускага народу і незалежнасці Бацькаўшчыны. Атрад Раманчука ваяваў з бальшавікамі на вялікім абшары каля Нясвіжу, Стоўбцаў, Клецку.

На пачатку 1949 году прайшлі арышты сяброў СЗНБ. 25 лютага 1949 г. быў арыштаваны ў Гародні Уладзімір Кісель. Яго асудзілі на 25 гадоў канцлягераў. Тады ж па той жа справе была арыштавана і асуджана яго будучая жонка Галіна. Але, дзякуючы канспірацыі, частка структур СЗНБ не была раскрыта і працягвала антысавецкую дзейнасць.

У 1960-м Кісялёў вызвалілі, яны вярнуліся ў Беларусь, у Гародню. Уладзімір Адамавіч ізноў пайшоў настаўнічаць. У Кісялёў нарадзіліся два сыны.

Толькі ў сакавіку 1998 году Ўладзімір Кісель упершыню напісаў пра СЗНБ у "Пагоні". Ён, жонка Галіна, сын Зміцер — хросны бацька майго старэйшага сына чакалі часу, калі можна будзе адкрыта назваць імёны ўсіх удзельнікаў "Саюзу Змагання за Незалежнасць Беларусі". На жаль, не дачакаліся... Галіна Кісель памёрла 25 чэрвеня 1998-га, пасля цяжкай хваробы, Уладзімір Кісель — 24 жніўня 1999-га, на тралейбусным прыпынку, Зміцер — 30 верасня 2005 — у сваёй хаце, загадкова атрымаўшы рану галавы...

Кісялі былі людзьмі, якія збіралі і дасылалі да мяне "дачкі" ў Гарадзенскую турму ўвосенню 1997-га і зімой 1997/98, людзьмі ў якіх я спыняўся ў "вольныя" прыезды ў Гародню і спыняліся яшчэ шмат якія беларусы. Заўжды ў хаце Кісялёў знаходзілася смачная ежа (Уладзімір Адамавіч асабліва ганарыўся сваімі "клецкімі" хітрыкамі апрацоўкі гуркоў) і месца для здаровага сну...

Спадарыня Галіна, спадары Уладзімір і Зміцер Кісялі былі светлымі людзмі. Светлая ім памяць!

*(Расшыфроўка магнітазапісу. Верасень 1998. Апроч Уладзіміра Кісяля (К) у размове прымае ўдзел Андрэй Мельнікаў (М))*

К: Гэта Ніжні Ноўгарад? Так, Горкі — гэта Ніжні Ноўгарад. І так мы пабылі ў цюрме. Горкаўская цюрма (там не перасылка, а Горкаўская цюрма). Мала пабылі. І тут жа паехалі... Так, у Воршы я быў. З Брэста нас вывезлі, тожа нядоўга дзяржалі. У чэрвені нас судзілі, потым — у Брэст.

**М: Гэта які год быў?**

К: Сорак дзявяты. Гэта значыць, у Воршу я папаў з Брэста. Сразу. У Мінску нас не высаджвалі, сразу напрамую перасадзілі — і на Оршаўскую перасылку. Эта дзе-та я папаў у канцы жніўня, ну дзе та ў жніўні я папаў у Оршу. Я ў Оршы гэтай ніколі ня быў. Там, значыць, эта перасылка вялізная. Шчэ патом я троху ўзнаў, якая яна. Хадзіў у капцёрку, вешчы здавалі. І патом ужо схадзіў за вяшчамі сваімі. А там ужо, значыцца, прэдварыцельныя часць — яны называюцца каранцінныя камеры. Нас — у баню. Развялі дзяўчат. На этапе-та мы разам, у поездзе ў адном ехалі ў "сталыпінскам", з Брэста пяшком да станцыі гналі. Ну і там з намі ехала група этых самых — бытавікоў" — ну варышак там, хто там — Бог іх знае. Ну такія хлопцы здаровыя ўсе. За што яны сядзелі? І па дароге, як вязлі нас з Брэста на Оршу чэраз Мінск, яны там у адной падзельніцы нашай, самай маладой такой, гадоў дзевятнаццаць, ну першы год паступіла пасля школы ілі ў тэхнікум ілі ў інстытут фізкультурны. Яны там выцягнулі — ёй як раз перадачу прывязла маці — яны ў ёй выцягнулі слоік з мёдзікам. Як гналі этапам у Брэсце — дык яны паспелі выцягнуць. Яна там абнаружыла і сказала канвою ў "сталыпіне", як везлі нас на Воршу. Ну і канвой, канешне, узяў і абнаружыў у іх гэта. Забраў. А яны слоік вылізалі пальцамі, рукамі. Слоік яны не ўспелі ўнічтожыць, таму што ў туалет не вадзілі. Ну і іх пасадзілі на карцарны рэжым. У "сталыпіне" тожа, на карцарны рэжым і дают поўнае пітанне: дают трыста грам хлеба. Ну скока там? І вот яны рашылі, што яны... Яна дочка была дыякана, псаломшчыка. Дык яны, скажы, адкуль пранюхалі?! "Яна — папоўсакае атроддзе. Тады мы ей глаз выб'ем у Воршы на перасылцы!" Ну я гавару тады хлопцам (Яны мяне вродзе за свайго пасчыталі, я такі быў троху шустры надта, больш, чым свае астальныя. Здольны, у семінарыі вучыўся. З 40-га — 42 года ўжо не быў дома, прыязджаў толькі дапамагаць), я гавару: слухайце, так і так, на самам дзеле могуць акалечыць, у іх жа лезвія есць, як ні шманай — усё раўно есць. Я гавару: "Каторы табе гэта гаварыў? Ідзі скажы яму: еслі толька яны тронуць — тут жа сразу трупам ляжа. Тут жа мы з ім сразу расшчытаемся." І сказаў ім: "Я пагаварыў з хлопцамі. Яна — нашая падзельніца. І не ваша справа, хто яна такая: папоўская яна там — не папоўскае атроддзе. Ну вы ў ёй укралі тую перадачу, каторую маці перадала. А вы знаеце, што мы — палітычныя". І мы, гавару, "раздзербанім вас сколькі будзе! У нас сіл хваціць на вас!" І яны — нічога. Вось гэта першае было перажыванне такое, што на самым дзеле могуць пакалечыць дзяўчыну. Ну ўжо павялі нас у баню і разбілі пасля бані. Тожа каранцінныя камеры былі...

**М: А што там баня была з сабе? Якая была баня ў аршанскай турме?**

К: Ну такая агульная баня. Вялікая была баня. Душы былі, душы. Душавая такая вялікая. Краны, гэтыя, апырсківаюцелі, і з крана можна было воду браць. Шайкі былі і душ быў тожа. Такі, адкрыты. І после бані нас разбілі паліцічаскіх.

У эты каранцінныя камеры папалам раздзялілі: палавіну бытавікоў — і палавіну нас. Значыць, нашу групу, шэсць чалавек у адну папала, таму што мужчын нас больш было, дзяўчат у нас мала было, так прымерна шэсць із семнаццаці. А пяць ужо ў другую групу папалі.

І к нам папалі такія, не знаю чаму такія, сур'ёзныя, вродзе, хлопцы, добрыя. Адзін там марак быў. Яны сябе вежліва павялі в атнашэніі нас. А ў нас было (нам у Брэст вазілі передачы радныя) што есці.

А другая група папала — і там у іх быў важак. Паўтара Івана яго клічка была. І той Паўтара Івана закамандаваў сваім падчынённым. Там наша група была маленькая, там — чатыры-пяць чалавек. А там палешукі былі — здаровыя хлопцы такія, бульбашы іх называлі тутэйшыя.

Патом ужо ў лагеры быў з адным. Максім, такі быў, Глебовіч. І такі здаравенный мужык!. Ага, як мы былі ўжо ў этапнай камеры ў Брэсце, то я пагглядзеў — у яго такая рука! Я свой ногаць палажыў на яго. То маіх чатыры ногці трэба — такі ў яго палец быў вось гэты! Здаравенны!

**М: У Вас тожа рукі не маленькія…**

К: Не, не маленькія. Чатыры пальца маіх тожа прылажыў. Глядзі, яму гавару! (Максім, яго звацъ). "Вот паглядзі, Максім! Маіх чатыры пальцы трэба на твой адзін. Ногаць — маіх чатыры ногці"… І… Там і мы патом узнаём, як (У саседнюю камеру яны папалі, не ў нашу. Напастаянна, пакуль не этапіравалі з Оршы.) там эці бытавікі павыпатрашылі ўсе іх мяшкі. Усе мяшкі іх выпатрашылі. Паўтара Івана сам нічога не браў, а ўжо яго падчынённыя вычышчалі мяшкі і аграбілі гэтых палешукоў. А нашыя там, собственна, нямнога чаго мелі, але яны не палезлі да іх. Только адзін з палешукоў быў, каторы ў лесе быў з аруж'ем. У яго была стацця — церор там і ўсё там… І ён сразу (А Паўтара Івана скамандаваў усім палітычным пастроіцца і перад сабой кажды свой мяшок — каб забраў. Панімаеш, как эта ўсё? А ўсё гэта надзіраццелі знаюць, яны ж наблюдаюць. Яны там не мяшалі ім. Эта такая ўжо прывычка ў Оршы была, такая прывычка. Яны грабілі. Адзёжу забіралі. Прыбалтыйцаў чэраз Воршу многа ехала. І вот тожа зрабілі такі стары прыём, па аршанскай прывычцы этай, модзе): тот, каторый, этат, "Івана" камандаваў, а этат гаворыць партызан (тожа, Іван, здаецца, яго звалі). Ён гаворыць: "Так, еслі хто да майго мяшка даткнецца — тут жа трупам ляжа! Я не такіх, хадоў, кажа, біў у лесе." Ён сразу даў каманду: "Не трогаць яго!" Сразу.

Ужо яго не. А астальныя мяшкі ўсе ачысцілі.

А наша ўжо група — нас было прымерна папалам з тымі. Марачок адзін быў. Так, культурна, вродзе. Яны ўмеюць быць культурнымі. О  як умеюць! Яны з намі ўжо так дыпламатычна паступілі.

Мы, як селі ўжо есці пасля бані, таму што ўжо не было часу, пакуль не кінулі ў камеры, то мы з імі падзяліліся, як з таварышчамі. Знаем, што ім... І яны былі давольныя. Ну там пасядзелі да вечара. Нас прывязлі ў Воршу днём.

**М: А што з сябе вось каранцін? Які ён там быў у Воршы каранцін?**

К: Ну каранцінная камера — гэта пака ў пастаянную камеру вот пасля бані...

**М: Ну так, так. Якая яна з сябе была?**

К: Баня?

**М: Не. Камера.**

К: А камера каранцінная. Ані яшчэ каранцінную камеру добра не шманалі. Таму што ў першую очарадзь сразу ў баню шлюць. Обшчы такі загон там. Патом дзяўчат аддзяляюць у другую...

**М: У баню што давалі? Мыла там?**

К: Давалі мыла. Во такія кусочкі маленькія мыла былі.

**М: На кожнага ці на ўсіх?**

К: А?

**М: На кожнага?**

К: На кожнага. Ну як давалі? Там было. І каманда была такая: па аднаму кусочку браць. Мыла ляжала нарэзанае. Запускаюць — ужэ бярэш адзін кусочак мыла з сабою. То шчэ мелі й сваё мыло. У бані добра было. Можна было ў Воршы добра памыцца ў бані. Там былі душы этыя. І з крана воду набіралі, балаваліся. Я любіў халодную воду, я не баяўся. Я падхажу пад халодны кран, пальцамі перакрою — на ўсю баню! Усіх сваіх ганяў як... Крычаць на мяне. Брызгае... Я не баяўся гэтага.

**М: Колькі вас было? Чалавек дваццаць заганялі?**

К: Да, чалавек дваццаць з усімі, з бытавікамі. З той камеры прыходзілі. У бані мы ўспелі перагаварыцца, як там была ў іхнай камеры, як іх аддзялілі. Дык яны нам і расказалі, этый, Максім. Божа... Я гавару: Максім, еслі б ты на іх дмухнуў — дык гэты Паўтара Івана паляцеў бы, лёг бы на землю. "Што ж вы так паддаліся?" "А чорт іх знае...Мы не зналі..."

**М: А дык спачатку Вы ў каранціне былі, пасля — у баню, а пасля ізноў каранцін?**

К: А патом ужо камера. Там каранцін быў такі, еслі да бані обшчы тожа.

**М: А які ён з сябе, гэты обшчы каранцін?**

К: Такая вялікая, панімаеце, прытвор, як гаворыцца. Як мы гаворылі: "у прытворы". Толькі дзяўчат ужо аддзялілі. Атдзельна дзяўчат. Пака мы былі разам — яны хацелі ту Тасю наказаць.

**М: Нары там былі?**

К: Не. Нічога. Не, не, нічога. Проста пры сабе вешчы. Нікакіх скамеек, нават не было. Стоя. І тады ўжо, пасля этага, отвадзілі і мужчын і дзяўчат у баню. Баня там атдзельная была. Ну такая вялікая зала была: для мужчын, для дзяўчат. А ўжэ пасля бані — ужэ ў камеры. А ўжэ з той камеры каранціннай — тожа счыталася — ужэ шманалі дэтальна. Ужэ цябе раздзявалі. Скідаў з сябе адзёжу, тока ў ніжняй, во... Лезвія глядзелі, у жопу, як гаворыцца, кругом... Усе дыркі правяралі: "Прысядзь-ка!" Дык бытавікі што праталі? Яны заварачвалі, эту самую, марлю. Намазвалі там. І ў задніцу заткалі нажы. Такія. Іх трудна... Эта зналі ўжэ. Дык яны і нас так правяралі. Мы тады яшчэ не зналі чаво. Патом тыя, каторыя з намі папалі, ім: "Чаго эта так правяраюць, так што ў задніцу?". "Не,— яны кажуць,— не глядзяць. Вот будзеце рабіць упрысядку: еслі прысядзеш — то не ўдзержыцца. І то — мы ўмеем зрабіць так, што і ўдзержыцца. Ужо ж пальцам не лезе туды." — гавораць.

Тады ўжо шманаюць — усё праверацць. І твае вешчы. І хлеб пераламаюць, еслі хлеб там кусок есць у цябе, еслі перадачу палучаў... У Брэсце не так сільна глядзелі, і хлеб давалі, і булкі давалі цэлыя — не ламалі. Ну ані зналі, што палітычныя этым не занімаюцца. Нічога, радныя тым более не паложаць туда кусок нажа якога-небудзь ілі там чаго. Радныя бытавікоў маглі зрабіць, і самі пранасілі. І ўжэ нас тады па камерам аддзельна — палітычных атдзельна, а бытавых — атдзельна. Вот з намі з адной стараны бытавая камера (там быў эты — Паўтары Івана). Дзвер двайная ў гэтых камерах. Адная дзеравянная закрытая. І першыя дзверы, адтуль ужо, знутры, жалезная рашотчатая дзвер. Яна была другая, калі адкрывалі з карыдора. Значыць, двое дзвярэй было. Першыя з карыдора дзеравянныя дзверы з кармушкай і з "глазком". І была жалезная, рашотачная дзвер. Там ужо дырка была такая. Не было атдзельнай "кармушкі", проста тую дзеравянную "кармушку" адкрывалі і падавалі есці. Ну і "глазок" быў.

**М: Ну і камера што з сябе?**

К: Камера была вялікая. Большая, чым у нас гэты зал. І былі двайныя нары з правай стараны, з левай. І пасрадзіне прагулачнае прастранства даволі вялікае было. І прыкованыя скамейкі былі.

**М: І на нарах тых колькі чалавек магло легчы?**

К: Я табе скажу, на нарах, хіба так па дваццаць чалавек з кожнай стараны магло быць. Па дзесяць свабодна памяшчалася. У нас свабодна ляжалі. Было тады свабодна ў нас палітычных. У Оршы было добра — свабодна было. Можа на той час мы папалі так, што этап толькі адправілі, а нас з Брэста

прывязлі нямнога. Таму што з Брэста і "бытавікоў" прывязлі з Брэсцкай цюрмы. Так што мы свабодна спалі, і можна было павярнуцца. І на палу ніхто не спаў. Не было на палу спяшчых. А левая старана... Мы ў аснаўном леглі на правай.

Ну і чэраз некаторы час (мы там, праўда, доўга прасядзелі, парадачна — больш месяца) прыехалі радныя.

**М: На нарах ўздоуж ляжалі ці ўпоперак?**

К: Нары ўздоўж ішлі. Але былі такія шырокія, што можна было чалавеку свабодна легчы, і ногі не віселі. Во так — к сценке галавой мы, у асноўным лажыліся. Таму што свет гарыць цэлую ноч. Ляжаш к сценке — вочы так не раніць свет. У Брэсце, затое, нараў не было, там былі койкі прыкованыя.

**М: А свет, дзе там лампачка была? Над дзвермі ці пасярэдзіне?**

К: Лампачка была над дзвермі пад рашоткай і пасярэдзіне пад рашоткай. Густая такая рашотка была.

**М: Дзве?**

К: Дзве. Ну каб светла было, каб ім было ноччу відаць.

**М: А вакно?**

К: Харошае вялікае акно было. Вялікія окны былі, рашоткай запраўленыя. І акно можна было чэраз рашотку адкрыць. Мы іх і адкрывалі. За тую насып, за тую валу, як мы называлі, падыходзілі радныя, там можна было пагаварыць. Вот мая будушчая цёшча, падзельніцы маёй Галі — жонкі. Вон мая жонка Галя — партрэцік стаіць, фатаграфія... То маці прыехала з бацькам. І я іх узнаў. А дзяўчата былі па той старане (дзе не было нас) двара. Там такі склон быў. То я крычаў ужо: "Зайдзіце з той стараны!" Але бацька дабіўся свідання, далі Галі свіданне, пусцілі.

І бегла па двары гэтым цюрэмным, перасылачным. Я якраз пайшоў у капцёрку, праходзіў міма. Яна ўбачыла, крычыць: "Валодзя!". Я глянуў. Па калідоры, ад двара. Я гавару: "Як эта ты гуляеш? Вас што, пускаюць?""Не,— гавора,— да мяне прыехалі на свіданне, дык я пераходжу з комнаты сустрэчы, значаць, у сваю ўжэ. А надзірацель дзе-та дзеўся, гавора, вот я чакаю пака прыйдзе." Пагаварыў з ёй.

А нас, прыязджалі — то не давалі свідання. Ёй далі. Бацька дабіўся, так панімаю, настаіваў. Ён і ў Брэст прыязджаў. А ў Брэсце тожа не давалі свідання. А ён пайшоў да пракурора. А яе бацька ў цюрме троху польскай працаваў. Памагаў там, запіскі перадаваў. Патом яго палгода судзілі за гэта — за связь з палітычнымі. Якраз Тарашкевіч сядзеў тады. І ён перадаваў запіскі беларусам. І пагарэў на гэтым. І яму за гэта нарушэнне — знялі з работы і далі паўгода цюрмы самаму. Сядзеў. Трудна было яму патом на работу ўстроіцца. Дык ён ужо з намі як бы...



◀
*Агульнабеларускі Вальны сойм (Баранавіцкі р-н). Зміцер Кісель, Зміцер Сідаровіч, Марына Сідаровіч, Юрась Пацюпа, Уладзімір Берберaў. 6 чэрвеня 1999 года.*



▶
*Агульнабеларускі Вальны сойм (Баранавіцкі р-н). Віктар Сазонаў, Зміцер Кісель, Марыся Мацко, Юрась Мацко. 6 чэрвеня 1999 года.*

Пайшоў да пракурора. А пракурор драва рубіў. Кватэра ў яго тожа была — пячное ўсё. Тады Брэст тожа — не так выгадна было. Брэст жа развалены быў. "Не паложена нікакіх свіданій! — гавора.— І вы ў мяне не прасіце." На калодку так тапор забіў і загарае да пояса раздзеты, у майцы. А Галя ўжо расказвае потым: а ён, этат,— за тапор. І з тапаром гэтым: "Еслі ты не даш каманду на свіданне з дочкай, таму што я не знаю, за што дзіця судзілі. І ці было яе за што судзіць — як эта з ёй пагаварыць! Давай, тут жа, сразу бяры ідзі целефон! Ты ўжэ арэстованы. Я табе галаву зніму." І ён толькі: "Ну ты дзядзька ваабшчэ-та баявы!"

"Баявы. Я — гаворыць,— у Брусілава ў арміі ваяваў. Так што, я ўмею ваяваць. І сам у цюрме працаваў у польскай пры Польшчы. І сам сідзеў патом у гэтай цюрме. Так што, давай будзем дагаварывацца."

І ён даў каманду — і ім далі свіданне. Гэта — рэдкі случай. На перасылках ніякіх свіданняў не даюць...

**М: Гэта ў Брэсце ці ў Воршы?**

К: Гэта ён у Брэсце так паступіў. У Оршы тожа не давалі, але ён настырны такі. Ну ўжо ў Оршы далі. У Оршы было свабадней. У Брэсце не давалі ніякіх свіданій. Я тожа хацеў свідання дабіцца. Не давалі ніякіх свіданій. Абсалютна. Ні запіскі, нічога.

У Брэсце была адкрытая цюрма, польская. На (неразборліва) пастроеная. Кажды этаж рашоткай засланы і так колькі-та кованай, як у "амерыканцы". І на дзень, этыя, койкі падымаліся, на ноч апускаліся. У Брэсце толькі за сталом на скамейках сядзелі. Рэжым быў у Брэсце такі даволі строгі. А ў Воршы ўжо свабодны ражым быў. Абслуга была заключонныя, бытавікі. І немцы былі, салдаты нямецкія. Вот эці немцы, каторыя былі з намі ў Брэсце — яны патом былі ў абслуге. Ані нам патом дзякавалі, сразу ўзналі. І сярод іх можна было ім якую рэч прадаць. Пачаму я пайшоў у капцёрку: узяў пінжак, каб яны прадалі.

**М: А што, выпускалі так?**

К: А эта, прыносят там воду. У эта ўрэмя сунеш пад мышку. І надзірацель засёк, як мы пінжак... І атдалі мне назад і сказалі: "Зараз мы цябе пасадзім туда вон, у тую камеру!" Я гавару: "Куды? Да Паўтара Івана пасадзіце? Ну і што? Я найду з ім обшчый язык. Так што можаце пасадзіць Я не баюсь яго!". Пугалі.

А патом ужо наабарот: вкінулі нам бязрукага ўчастніка вайны. Он склонен быў. Ноч не спаў. Осіпаў фамілія. У яго была клічка — Мухамор Клубнікавіц — мы яго называлі. Не знаю, як па настаяшчаму было імя і імя па-бацьку. Толька помню, што Осіпаў. Быў у строгам рэжыму ў Ваўкавыску. Там дзе эты цэмент, цамент. Цяпер там тожа "строгі". Але цяжола там. Дык яго кінулі, каб ён сам, як інвалід. Яны ж псіхалогію зналі добра ваабшчэ: самі сябе і наогул. І палітычных добра зналі. Яны зналі, дзе

сілай можна ўзяць, а дзе можна ўгаварыць. Ну і бросілі інваліда, участніка вайны. Ну мы дзяліліся з ім, так як самі елі, так і ён еў. А ён яшчэ хацеў узяць — і ім іншым перадаць, пульнуць каня. Гэта значыць — на вяроўку там навяжаш і кінеш. А вокны там густа. Камера не надта шырокая — метры два чатыры нары займаюць і паўтара. Дык во: метраў пяць. Акно вялікае. Руку выставіш, ілі там венікі былі. Дневалілі там, як там дагаварымся. Блатныя не дзяжурылі, мужыкі прыбіралі. Выставіць руку, кінеш... Вяроўка павісне. І ўжо чэраз рашотку тую выцяне. Но мы яму не давалі. Дык яго ўжо патом Паўтара Івана вызывае на сваём разгаворы, па сваёй фене блатной — мы тады яшчэ дрэнна панімалі. "Ты што, сука, бацылы не падкідаеш?! Курыць-та добра там курыць. Але трэба ж бацылы! Што табе не даюць там? Сам не можаш узяць?!" А ён:"Тут такія фраера, што не возьмеш сам." Панімаеце? Тады мы мала панімалі. З іхняй камеры за нарушэнні...

Забыў ужо. Чо я гаварыў? (паўза) Лебедзеў. У нас на курсе быў Лебедзеў. Харошы хлопец, быўшы афіцэр, участнік вайны. Грабіў людзей, грабіў, краў... Яго на падмогу кінулі гэтаму Мухамору Клубнікавічу. А перад гэтым... Што-та ў нас зашло на сілу памерацца... Стол у нас быў. На перасылке давалі ў даміно іграць...

**М: Стол быў прыкаваны?**

К: Прыкаваны. Усё было прыкавана. І скамейкі былі прыкаваныя. Такі стол быў вузкаваты — у даміно маглі пагуляць. Даміно давалі там.

**М: Ён каля вакна стаяў ці пасярэдзіне?**

К: Ён так пасрадзі і проці вакна. Так што там ад вакна адна скамейка і тут пры стале тожа былі скамейкі прыкованыя. Дзеравянныя палы былі. У Оршы дзеравянныя, а не бетонныя. Нары былі асобна, а скамейкі асобна — з чатырох бакоў стала...

(абрыў запісу)

(У Оршы? — А.М)

К: Ужо было ўсё добра, таму што бытавікі сядзелі атдзельна, а палітычныя атдзельна. Ужэ нашы тожа там хлопцы палучалі перадачы. Галя там палучала часта, і бацькі да яе прыязджалі — далі "свіданку". І мы ўехалі з некаторымі прадуктамі з Воршы: з перасылачнымі — з пасылак, з перадач, прыязджалі радныя...

**М: А колькі можна было кілаграмаў перадача?**

К: Ну нармальная пасылка такая. Восем кілаграм можна было. Абыкнавенны стандартны яшчык пасылачны такой. Невялікі, о такія гатовыя бываюць.

**М: Раз у месяц?**

К: Я не знаю. На перасылцы хіба што не, можна было і часцей, напэўна. Таму што і па пошце прыходзілі і прывозілі передачы. Прынімалі. На перасылцы ў Воршы было ў эціх адносінах добра. Можна было пісьмы пісаць і бумагу. Ну з бумагай была трудна...Там нам давалі такую туалетную бумагу — невялікія лісточкі. Чуць большы чым курыцельныя. Дык мы на эціх лісточках пісалі. Пака разжыліся грошай. У ларку-та была, і канверты, усё там. Перасылачны двор вялікі быў. Там прагулящца можна было. Выпускалі сразу нескалька камер. Асобенна бытавікоў, дык іх разам пускалі і мужчын і баб. І я папаў у ларок (эці как вызывалі) у эты час, як бытавікі гулялі ва дварэ. І меня там паабцяпалі па карманах. Я не адчуваў — карманнікі. Дык я браў там курыва ўжо хлопцам, усё. І там што-небудзь паесці можна было ўзяць: пячэнне якое там. Так асоба не было нічога, толькі сухое. Ну і там курыва было, пастаянна можна было купіць. І як я там расчытваўся — дык у мяне з карманаў падаставалі ўсё што было, і чужыя грошы дасталі. (смяецца) Мне так няўдобна было. А была прагулачная камера нейкая адна вялікая, што былі людзі пакалечаныя, у аснаўном эта інваліды былі. Былі такія, што і бяз ног, і без нагі і без рукі. Страшныя абрубкі. Аднаго чалавека можна было з двух-трох чалавек сабраць вобразна гавара. Я ўжаснуўся: "Як вы так? Куда вас вязуць?" "А мы,— гаварацъ,— самі не знаем." Этапіравалі інвалідаў тады сталі арэстоўваць, дзяржаць, таму што яны хадзілі жабравалі па вагонах. Яны наглыя былі, трэба сказаць. Яны маглі і аграбіць, і абідзець чалавека, маглі ўсё... І іх (ужэ быў прыказ) куда іх вязлі — хто іх знае? Но нам патом гаварылі па этапам, у Кіраве, патом у лагеры, што іх унічтажалі. Унічтажалі іх — такіх страшна пакалечаных людзей. Проста іх вязлі дзе-та на ўнічтажэнне. Нідзе іх ні ў якія санаторыі, ні ў якія курорты. Цвёрда было, знаю, што іх вязлі на ўнічтажэнне. Вот пачаму аны не даваліся, яны ўцякалі, іх лавілі. Гэта ў кіно там — у "Вечны зоў" — там паказваюць: бязногі на калясцы не хацеў дадому вяртацца. Эта жутка было. Поўны двор пачці быў адных гэтых інвалідаў. Калі б яны не забралі тайна, дык забралі б патрэбвалі — дык я б ім аддаў. І з імі было беспалезна, там надзірацель запусціў, ходзіць дзе-та там, наблюдае... Там, панімаеш, вазвышанасць была такая. Ён там і не бачыць. Там цябе маглі і задавіць яны і аставіць мёртвага ва дварэ. Папасць да бытавікоў у ларке — я не знаю пачаму павялі, можа спецыяльна павялі, штоб яны разжывіліся ад нас. Там, хто ішоў пакупаць, дык і ім ужо курыва купляў. Падыходзілі. А ў мяне яны забралі грошы — больш купілі, чым я б ім даў сам.. Ну а нас палітычных тожа пускалі з розных камер. Двор вялікі. Эканомілі, напэўна, час. Можа надзірацелей не хапала, каб эта па атдзельных камерах... Палітычных выпускалі — можна было пазнакоміцца, нават, там.

Яшчэ сустрэў у Воршы паляка аднаго. Польскую арганізацыю пасадзілі. Ну ана была правакацыонная эта арганізацыя. Я знаў, што яна есць эта арганізацыя як будта бы. Ну а патом ужо ўзнаў, як

вярнуўся, што яна была правакацыонная. Уся на КГБ. Ну ў аснаўном у КГБ грузіны былі. У аснаўном. Можа мегрэлі якія, землякі гэтага Берыя. І яны саздалі тут: узялі аднаго фольксдойчэ пры немцах. (Тут жа Прусія была, Ост Прусіяй была Гарадзеншчына. У Скідалі Ост Прусія. Лідчына тожа была — там Беларускі райх быў ужэ.). У яго тут дом свой быў. Бацькі ўцяклі, яго аставілі з цёткай. Дзе яны жылі? Дзе міжнародны вакзал у Гародні новы. І ён астаўся тут. Так як ён быў фольксдойч, то яго вызвалі дзе-та і прадлажылі, пэўна. І ён правакацыонную польскую арганізацыю саздаваў тут. Ён вучыўся тут у польскай школе. Дзе ў Лідзе музыкальнае ўчылішча. Ну і мяне ён вербаваў. Але што мне за патрэбнасць была? Я гавару: “Я не паляк, я — беларус”.

Ну адзін раз ён, праўда, выказаўся. Я тады яшчэ мала сабражаў. Я пасля ўжо, як пасядзеў... Мяне патом за эту польскую арганізацыю здорава мучылі. Здорава мучылі. Ані зналі, што я знаю, таму што ён мяне вербаваў. Эта ўжэ патом я ўсё эта ўзнаў. А я не прызнаваўся. Сразу мяне і павялі ў польскі атдзел, па польскі разгаварывалі следавацелі. А патом ужо перадалі па нашай. Яны думалі, што там больш ад мяне будзе. Ну і то і другое прыпісалі. Ну мне ана адпала поўнасцю, ані эта добра зналі. А ўсё-такі, калі кончылась мая ўжо справа нашай арганізацыі, мне патом вярнуліся па польскаму вапросу. “Чаму, там, прыехаў у Мінск вучыцца. З Гродна адчыслялі-не адчыслялі? Я гавару: “Я нічога не знаю. Ён быў спасобным чалавекам, не хацеў быць педагогам, хацеў быць інжынерам.” А ім было што? То што я не зламаўся. Каб я прызнаўся, ды расказаў ім усё, як там было, як нашы жанчыны...

А мне сказаў той, якія канваіравалі два мяне з Гродна. Чэраз Сталбцы мы ехалі. А ў Сталбцах трэба было ждаць на іншы поезд. Два часы. А ў мяне былі грошы налічныя. Яны там у Гродна ўзялі. І з сабой вязлі мае грошы. А тады ўжо рэформа праізашла: пасляваенныя грошы — яны сталі цэнныя. І ён:: “Ты наверна есці хочаш?” — у Сталбцах сядзелі. Ён гаворыць: “У цябе грошы есць. Бяры. Пашлі ў рэстаран вакзальны!” Я гавару: “Пашлі!” “Усё раўно іх табе не аддадуць, там забяруць іх і запішуць. Этап патом — хто іх аддаваць будзе?” Ну я узяў (Не давалі. Заказваў я.): “Ну дык даваце,— гавару,— За пяцьдзесят рублёў на траіх так можна паесці і што-небудзь выпіць.” “Ну мы-та піць не будзем.” Такія хлопцы,— знаеце,— пасля вайны, ваякі быўшыя... (Канваіры там былі тагда ў вайну вольнанаёмныя). І я з імі так па-дружаскі паабедаў. І яны мне гавараць: “Э-э дык мы бачым — ты харошы хлопец. Дык вось мы табе гаворым: “На следствіі не тарапіся расказваць. Адказвай только на пытанні. Таму што цябе будуць — каб ты расказваў: раскажыце, вось такой эпізод, як эта было, каб ты расказваў. Цябе патом за тыя слава будуць лавіць”. Яны мяне добра праінфарміравалі, як сябе весці на следствіі.

Дык вот я тожа за этую польскую арганізацыю. Як яны мяне не качалі я ўсё не прызнаваўся. А ім было абідна, што я ўсё ж такі прайшоў следствіе па свайму дзелу і не зламаўся. Я ж нікаго не выдаў. Абсалютна. Мяне ўжо выдалі, ужэ ўсё. Наш глаўны кіраўнік групы гродненскай мяне выдаў, таму што



◀
*Гародня, сяброўская кампанія. Яўген Вапа, Віктар Сазонаў, Зміцер Кісель, Уладзімір Хільмановіч. 1 красавіка 1999 года*



▶
*Дзень памяці паўстанцаў 1863 года. У цэнтры Зміцер Кісель і Лявон Баршчэўскі. Якушоўка. 24 кастрычніка 1999 года*

яго мучылі здорава, і вены сабе стараўся парэзаць — пускаў кроў, пакалечыў (патом шрамы паказваў) какой-та жалязякай. Но я на яго не абіжаўся, таму што пыткі ў яго сапраўды страшныя маглі быць.

Но мяне пасадзілі за гэтую польскую арганізацыю. Новаму следавацелю передалі і пасадзілі ў вадзяны карцар. Эта быў канец сакавіка. Не знаю (вада шла), можа карцар быў ваабшчэ пад асфальтам дзе-та міма зданія этай "амерыканкі". Таму што, як пасадзілі, у прэдварыцельным хто-та там у вадзяным сядзеў, то яго вынеслі адтуль. Чуў такое: "О-о! Ты жыдзенькі за трое сутак абасраўся, не мог сам выйсці з карцара тога". Бокс такі быў, дзвер толькі плоская. Размахнуцца рукамі нельга было, таму што там сценкі былі. Круглы бокс. Вада па сценах цячэ, вада з паталка. Лампа там тожа была ўмураваная, пад лампай галаву дзержыш — штоб не капала на галаву.

**М: Гэта ў сакавіку 49га?**

К: У 49м, як следствіе было. І ўжо перадалі мяне другому следавацелю. Я  праўда, страшны, відаць, прыйшоў. Таму што, яшчэ адну нашу прывялі на вочную стаўку. Толькі не на вочную стаўку, а паказаць ёй — які я  што — ты тожа такая будзеш.

А я пасля пяці сутак вадзянога карцара яшчэ сам ішоў. Двое па баках тупалі, мяне паддзержвалі, каб не ўпаў на лесвіцы. А я іноў не прызнаюся: "Нічаво не знаю. Стацця якая ана есць, такая яна і будзе. Усё раўно антысавецкая. Заядлы ўжо. Захваціла. Што ўжо, знаеш, я ўжэ закампасіраваўся, што я ўжо враг іхні. І буду враг іхні. Я не меў… Як мяне арэставалі, можна сказаць, наша дзейнасць прэкраціласьдзейнасць, таму што ў нас па ўставу было — тэрорам не займацца. А наш кіраўнік не выдзержаў. Саваршыў такое. Па дурному. Спас карову. Вярнуў бабе карову. Гэтага забіў, каторы вёў карову з міліцанерамі. І карова ўцякла назад дахаты. Паступак этат на судзе абсуждалі. Дык выходзіць ядавіты быў такі з "тройкі" гэтай: "Дык выходзіць, савецкая ўласць грабіла насяленне, а ваша банда ваявала — карову атбілі?!" Ну эты, каторы быў у лесе, ён быў у групе лясной. Але тожа пасля таго тэрора ўшоў з той групы. Таму што паўстаў. Ужо ў нас кіраўнік з аружыем быў у лесе. Меў там групу. Я не знаю, сколька там чалавек. Чалавек шэсць-сем у яго было. І наш кіраўнік (нашай гродзенскай групы) тожа ўжо быў у яго ў лесе, таму што ён пайшоў на нелегальнае становішча. Ён быў выкладчык нашай семінарыі (пры немцах) несвіжскай. Ён вучыў спевы. І пеліся не савецкія этыя, а "Пагоню", спявалі гімн. Ну, разумеецца, вучылі нацыянальныя песні, не бальшавіцкія гэтыя — аб Леніне і Сталіне. І вось яму далі б гадоў пяць за гэта. І ён узяў — пайшоў на нелегальнае становішча. Меў добры голас, у Шырмы працаваў. А Шырма знаў, между прочым. Я яму сказаў, што ў нас арганізацыя падпольная, а Міша пайшоў на нелегальнае становішча. Шырма быў у курсе справы. Таму што ён усё цікавіўся: "Дзе ж Міша дзеўся?" Харошы тэнар у яго, добра спяваў. Шырма сам: "Ну, хлопчыкі, сыночкі, вы пайшлі на цяжкі шлях. Дай Бог вам удачы!"

**М: Рыгор Шырма? Вы з ім сустракаліся?**

К: Ну так. Рыгор Шырма, да. Эта ж быў яго артыст, каторы кіраўнікам у нас быў...Выкладчык спеваў быў — тожа семінарыю польскую кончыў у Несвіжы. Ну і Шырма цікавіўся, дзе ж ён дзеўся. Жонка засталася і дзіцё. І ўжо дзіцё апекаваў яе. І хрысцілі. І  нават, хрэсьбіны ў Шырмы спраўлялі інкогніта. Шырма ў курсе справы быў нашай этай. Я знаў. Я ж не выдаў этага — яны скока вымучвалі. Са сваёй групы я не выдаў ніводнага: "Я не знаю."

У нас "тройка" была. "Тройкамі" арганізоўвалі групы такія. Цапочкамі ішлі. Дзе-та было кіраўніцтва. Патом гэта піраміда разрасталася — адзін другога не зналі. У мяне было два чалавека, адзін — у Лані, а другі быў — са Шчэпіч. Адзін стаў кандыдатам тэхнічаскіх навук — зашчыціўся. У нас тожа аружые было. Я эта знаў. Таму што ў маёй групе эты хлопец. Яшчэ старае — у іхняй вёске самаахова была. Партызаны туды не заходзілі і нанач. Палучылі разрашэнне ад немцаў — і самі ахранялі сваю вёску, і туды партызаны не заходзілі. Там праўда і лесу блізка не было такога. Но можна было са ...шчановіч. Там многа ў іх аружыя было прыпратана. І тых, хто ў іх займаўся ахранай этай, без суда іх вывезлі ў Карэла-Фінскую на лесапавал, і яны там па тры года адбылі. Без суда, без суда. А патом ужо іх асвабаждалі, дык ім там прыгавар нейкі зачыталі на гэтыя тры года, што адсядзелі. А Мішын бацька тожа быў у этым. Так што Мішу я атветственна браў у сваю групу. Ён настаўнікам быў тожа пры немцах.. Таму што ён у курсе дзел быў пры першых саветах. За мяне старэйшы за год ці за два.

І вось, у меня якая група была-не была, я знаў, што яна (неразборліва). А гэтага больш ніхто не знаў, кроме мяне і яго. Вот аны з меня так дабіваліся аружыя страшным образам. Гэта тожа была пытка для мяня некаторая. Но я выдзержаў, сваіх не выдаў.

Ну а Лёва Шаўчук... У яго бацька быў кадзет. Быў дзепутатам Першага Кангрэса Усебеларускага, кагда ўстанаўлівалась БНР. Ён эта вёў, знаў, як усё праходзіла. Пры Польшы памёр. Но ён граматны быў, і сына вучыў, той пры Польшчы скончыў гімназію. Можна было пры Польшчы добра вучыцца. Так што я ўжэ быў у курсе справы, можна сказаць. Мы яшчэ пры "першых саветах" сабіраліся і абсуждалі, гаварылі. Нам гэта ўласць не падабалася, таму што ана жыдоўскаю была для нас. У нас у Клецку жыдоў было! І ўсе становішчы кіраўнічыя раённыя і гарадскія пачці ўсе былі ў жыдоўскіх руках. Ну Саветы прыехалі — там свае — з Савецкага Саюза. А ў аснаўном жыды былі.

І майму бацьку прэдлагалі ў міліцыю пайсці ў 1939-ам. Таму што ён быў у этай групе, каторая немцаў разаружывала. І ён жа тры месяцы ў Мінску палучаў зарплату ў 18-м гаду, пака іх не пасадзілі за то, што камісараў білі.

Так во, Лёва быў у курсе спраў. Разумны хлопец такі. Бацька расказваў усё. Радныя там такія былі — сведамыя беларусы. І я быў у курсе справаў. І мы былі такім "падполлем" яшчэ ў школе, як былі ў дзіцячых саветах. Збіраліся, на кладбішча хадзілі. Там скамейкі былі такія. Цэркаў кладбішчанская ў Клецку ёсць такая. Яна на гары стаіць. Яна за горадам. І яна не згарэла. Там адна з цэркваў згарэла ў 37-м годзе. Яе назад вастанавілі патом.

Так што мы ўжо тады сваё недавольства выяўлялі: Міша, Лёва, Толік ...зняхоўскі (?), Ваня Батвінка. Ваня Батвінка точна пагіб. В обшчам, з усіх гэтых хлопцаў Шаўчука еслі няма, то я і Толік асталіся. Толік прыязджаў да мяне, а я да яго... У мяне ногі слабыя, мне ісці далекавата з аўтобуса да яго. Я ўжо не езджу.

Так што ў нас ужо было такое. Немцы прыйшлі, мы — хто папаў у семінарыю — мы зноў групу сваю мелі. Мы ўжо пры немцах сабіраліся зноў, паэтаму мне і ў кватэры адказаў паляк, які ў вагоне жыў у Гарадзеі, каторы ўжо на адпраўку з цюрмы запячатвалі іх, і захваціў нейкі дэсант. Танкетка заляцела на Гарадзею раней, чым на Клецак і на Несвіж. Таму што гэта важны пункт быў: прамая дарога Брэст — Масква чэраз Гарадзею паязда хадзілі. Гэта старая дарога была, яшчэ пры царэ пастроеная. Чэраз Іванава-Янава і чэраз Лунінец. Чэраз Клецак яна не ішла. Таму што Клецак звязаўся жалезнай дарогай ужо пры першых саветах чэраз Слуцк — Баранавічы. А там была на Брэст другая дарога — на Ляхавічы, на Лунінец і куда там?

Так што я быў у такога на кватэры, каторы ўжо быў палітычным заключонным пры першых саветах. І калі ка мне прыходзілі этыя хлопцы, яны ж чулі (мы ў адной комнаце, не было сценкі), што мы палітыку вядзём. Дык мне адказалі ў кватэры на наступны год. І я меў на другую кватэру. Лёва прыходзіў расказваў як гэта БНР. Нам ужо гісторыю сталі выкладаць. Но ён нам, можна сказаць, падробна, бо бацька яго быў ачавідзец у тым часе. І ён гаварыў так, што пытанне ставілася (як падхадзілі савецкія вайска, і немцы аставілі), аб сазданні абароны проці бальшавікоў. Но настроеніе было такое, што бальшынство — што эта няправільна пытанне ставілі. Яго бацька гаварыў канкрэтна, што ставілі пытанне на галасаванне нават. І бальшынство дэлегатаў прагаласавала за тое, каб не праліваць братнюю кроў. Бальшавікі — это рускія былі. І патаму не саздалі той абароны. Этаму палякі прапятствавалі там і рускія. В аснаўном беларусы служылі ў Брусілаўскай арміі. Тут толькі часць у Віленскі поўк пападала. Віленскі поўк быў. І мой бацька ў Віленскі поўк папаў. І пару клецкіх татараў папала туда. А ў аснаўном беларусаў адпраўлялі на Южны фронт, туда. Да Брусілава. І там ужо беларусы згрупіраваліся, і ў Румыніі. Но іх тармазнулі. Керанскі тармазнуў, не пусціў. Керанскі тожа не быў, каб і Украіна і Беларусь аддзяляліся ад Расіі, ён за ядзіную імперыю быў.

Так што мы былі згрупіраваны. Но прышлі назад Саветы, і нас после семінарыі пачці ўсех забралі. У Клецкім раёне нікога на работу не прынялі, у Несвіжскім прынялі, таму што ані там былі

многія ў падполлі бальшавіцкім, лістоўкі распрастранялі. І быў там у іх адзін савецкі (ніхто, нават, і не падазраваў) чалавек, ну ён такі прыкінуўся антысавецкім, і занімаў там пост, чыноўнікам быў у павятовай радзе. Аказваецца, ён снабжаў партызан, цэнныя сведзення перадаваў ім. Яны ж хацелі Несвіж атакаваць адзін час. І іх разбілі на подступах, там дзе Залітая (? — А.М). Вёска Залітая і там далей вёскі па напраўленні Сталбцоў. Там лясы былі. У том у лесе бой састаяўся з несвіжскай паліцыяй, і паліцыя іх там разбіла. Іх не дапусцілі. Но ноччу прыходзілі, хацелі ўзяць бургомістра. Ён на акраіне жыў. Але ён ужо перасяліўся ў цэнтр, радам з павятовым начальнікам. Там жа ў цэнтры аны з аружыям хадзілі, з аўтаматамі.

Эці начальнікі нашыя грамадзянскія хадзілі вааружонныя поўнасцю. З аўтаматамі — нямецкімі кароткімі аўтаматамі. Ані не скрывалі, тока насілі — хто пад плашчом, пад пінжаком падвешаны былі. Яны і ў семінарыю так прыходзілі дажэ. Немцы ж хацелі хлопцаў усіх мабілізаваць. Батальёны нямецкія. Батальёны беларускія, але — нямецкае камандаванне і форма. Дык яны не далі, чэраз камісоўку толька. Яны прадупрадзілі: хто мае прычыну? Там адзін свой доктар быў мясцовы ў камісіі, немцы былі. Ну доктар там, але ж трэба было, каб і пераводчыкі былі. То дактара былі і нашыя. То дактара зашчышчалі нас. Вот у мяне нага: там раны такія — нарывы былі, дык ён сказаў, што мяне асколкам ранілі, як бамбілі. Як началася вайна. Таму што тут Баранавічы блізка. Баранавічы сільна бамбілі немцы, ужасна. Ну я так накульгваць стаў ужо...

(абрыў запісу)

Бок В

К: ...І ён патом вёў хор — гімназіі ўжо не было. І прыязджаў са сваёй групай канцэрты даваў пры Польшчы. Нават на вуліцы даваў канцэрты. Не на вуліцы — школа наша буквай "Г" была. Там госпіталь быў пры Польшчы, патом ужо Саветы школу зрабілі. Буквай "Г", там сцяна адна доўгая была. Папрыносілі там людзі сталы для артыстаў, штоб яны на павышэнні былі. І такая грамадная плошча там была, дзе местачковая царква. Там стадыён патом зрабілі, такі пляц і валейбол. Там народу сабралася — са ўсяго Клецку. Валынчык даваў канцэрт. Сабраў этых быўшых гімназістаў, патрэніраваў іх, таму што ён хор вёў у гімназіі. Паз'язджаліся з вёсак хлопцы, дзяўчаты-гімназысткі. І такі з экспромта канцэрт далі прэкрасны. Ну ж гэта рабілі мясцовыя, беларусы тожа памагалі, местачковыя. І вось палякі началі такіх вылаўліваць. І пастралялі. Тады родныя сталі жалавацца немцам. Сказалі, што іх павязуць у Несвіж. Таму што ў нас цюрмы не было. А ў Несвіжы была цюрма. І павет быў. Павятовыя ўлады там былі нямецкія. І цюрма гэтая дзейнічала ўжо пры немцах. А яны гавораць: "Мы нічога не знаем. Мы ніякай каманды не давалі ў Клецк арыштовываць. Тады вот: "Абрашчайцесь у гебіткамісарыят у Баранавічы". Ані — в Баранавічы. Там тожа нічога. Значыць усё — дзела сваіх рук.



▲
*Дзень памяці паўстанцаў 1863 года. Свіслач. 24 кастрычніка 1999 года*



▲
*Дзень памяці паўстанцаў 1863 года. На пярэднім плане Сяргей Мальчык, Зміцер Кісель, Дзяніс Івашын, Вадзім Саранчукоў. Свіслач. 3 лістапада 2001 года*

Тады немцы зацікавіліся, што ад імяні немцаў, панімаеце, страляли. А ім сказалі: "А чаго вы сядзеце, беларусы?" І далі каманду: "Падбірайце людзей, закрывайце польскі магістрат! Бярыце гарадскую ўправу ў свае рукі!" І вось, як узялі гарадскую ўправу ў свае рукі, пайшлі ў паліцыю беларусы, і паставілі камендантам беларуса! І пайшлі в СД два хлопцы нашых. Родственнікі, племяннікі этага, каторага забілі Кебіка, якога растралялі.

І разаблачылі гэтую польскую арганізацыю, у асноўным ксяндзы ёю камандавалі. Застрэлілі несвіжскага ксяндза, застрэлілі клецкага ксяндза. Кароча, беларусы разаблачылі палякаў. Не немцы, а беларусы. Далі абаротку такую, што чышчэ чым яны зрабілі, вот. І нават два маіх родственнікі пагіблі. Ані пры Польшчы вучыліся. Адзін закончыў семінарыю польскую ў Несвіжы. А другі быў пераводчыкам у Клецку ў камендатуры, таму што вучыўся ў несвіжскай гімназіі, а запісаўся праваслаўным палякам. Тады мода пайшла з 905-га года, ужо ж папоў сабіралі. Тады была такая якая-та канферэнцыя. Не ўсе папы паехалі. Наш малады поп Арынскі з царквы, што на кладбішчы Пятроўскай. Яго першы год пасля акадэміі. А яго калега такі местачковец — паехаў. Войка (? А.М.). За яго надта пісалі цяпер ў газэце "Голас Радзімы". Я... так праціўна мне такі этат быў. Я ж быў местачковец хрышчоны. Як скончыў школу — туды хадзіў. школа туды хадзіла на іспаведзь, на прычасце і на святы праваслаўныя вялікія арганізована беларуская школа хадзіла. Так той не паехаў. А эты паехаў...

Дык вот, яны такіх беларусаў выстрэльвалі як зайцоў, а ім патом абаротка прыйшлася такая, што больш яны пастрадалі. Разаблачылі. Я ж гавару: там два маіх дваюрадных... не дваюрадных, а траюрадных брата пагібла. Радам на этай фатаграфіі, я там малы яшчэ, вот. Сярожа там стаіць. Старэйшы за мяне быў года на два.

Вось у нас такое становішча было. У Несвіжы тожа. Ну мы заадно. Заадно тожа. Пераварот зрабілі ў Несвіжы, у Клецку ў 42-ім годзе. І семінарыя пачала працаваць нават не з верасня а пазней у 42-ім годзе, таму што яшчэ толькі-толькі арганізаваліся беларускія ўлады. І ўлады такія прэданыя.

Смоліч, каторы з Вітушкам дружыў. Вітушка сам тожа ў Несвіж прыязджаў...

Смоліч спачатку быў у гарадской управе...ён друг Вітушкі. Ну вы знаеце, Вітушка — гэта "Чорны кот" быў. А патом ужо сталі гарадскія, павятовыя. Аўдзей быў па фаміліі. Аўдзей быў павятовы начальнік Несвіжскага павета. А гарадской управай — з Лані быў хлопец — Калоша Іван. Тожа быў, абразаванне меў польскае, некаторае там, вот, нават нядрэннае, мне здаецца... Ну і гімназію канчаў напэўна. Можа Брэсцкую ўспеў скончыць, а можа ўжо ў Вільнюсе вучыўся. І яны ўзялі ўжо ўладу после гэтага Смоліча. І ў нас тады ўжо пайшла беларушчына наканец-та. У мястэчках дык і ў 41-ім школы адкрылі... Пачатковая і школа сямілетка — аткрылі ў Клецку яшчэ пры польскай уладзе аткрылі школу. Но ўчылі па лацініцы. Першыя класы вучылі лацініцай уже. Не кірыліцай, а лацініцай. Вось мой брат

пайшоў у першы клас — ён 35-га, нарадзіўся ў 35-м годзе, то ён — па лацініцы. І добра ўсвоіў мамянтальна, нармальна. Вот. А ўжо старшыя класы — па кірыліцы. Но ўжо тожа прывучалі к лацініцы. Ну а потым рашылі ўчоныя... Немцы там разрашылі пытанне: кірыліцу ці лацініцу ўпатрабляць у школах... учоныя зашчыцілі, што каранная наша азбука — гэта кірыліца. Такая ж пагаворка есць, што "Польша сільна лацінаю, а Літва сільна русіною". "Русіною" — гэта не значыць, што Расія была. Мы былі русіны — южная часць Беларусі і Украіны, і Закарпацкая Русь — русіны...А тады ў той час, яшчэ як была Грунвальдская бітва — была не Расея, а была Масковія. Масковія. Маскоўскае княжаства было.

**М: Уладзімір Адамавіч, давайце да Воршы вернемся.**

К: Ну давайце.

**М: Калі вы адтуль далей паехалі? Калі для вас скончылася аршанская турма? Калі вас павязлі далей?**

К: Калі далей паехалі? Паехалі мы з Воршы на Горкі. Мы паехалі дзе-та ў верасні месяцы.

...Не, два тыдні мы не былі — хіба з тыдзень там былі. Папалі мы ў камеру, дзе сідзелі ў гэтай цюрме румынскія афіцэры і нямецкія афіцэры. І салдаты і афіцэры. Тожа этапіравалі іх куда-та. Не знаю куда. А ваабшчэ-та камера была блатная. Там такі тожа важак адзін...

**М:**

К: З Брэсцяя мы папалі чэраз Маскву на Горкі. З вагонаў нас не высажвалі. З "варанка" нас у вагоны пагрузілі ў зэкаўскія.

**М:**

К: А ў Воршу я трапіў у верасні.

**М: А з Воршы далей павязлі...**

К: А з Воршы папаў у Кіраў (у Вятку)...

...Тры месяцы мы сядзелі ў Вятцы. А ў Оршы мы сядзелі окала месяца...

...А ў Горкам сядзелі разам. Вот. І што характэрна, афіцэры, ваякі, яны былі ў форме, толькі пагон у іх не было. Румынскія афіцэры такія былі падцягнутыя, чышчэ чым нямецкія...былі больш інтэлігентныя...

...Но ўборку ў камеры рабілі яны, афіцэры. І парашы выносілі, і ўборку рабілі. Бытавікі не касаліся. Яны толькі палучалі яду, там заўсёды давалі больш таму, хто ўборку будзе рабіць. ...і самі з'ядалі. І сукі іхнія паядалі... В обшчам, падвізаліся такія падлеткі-бытавікі... І ён усё камандаваў. Днявальнымі яны былі. А мы як зашлі шэсць чалавек нацыяналістаў беларускіх... Немцы ж не зналі, хто мы такія. Нас пачці паўголых запускалі... У камеры запускаць — шманаюць жа... Ну мы зайшлі такія ўпітанныя, здаровыя, панімаеце...

І глядзім адзін дзень… …ды за днявальнага даюць адну міску лішнюю… …у нас раўнаправіе было…

…“І на гэта — хто падмятае — гавора,— у нас адна…

…І неважна, што нас было шэсць чалавек — падзельнікі…

І мы на втарой дзень… Я падняўся. “Так,— гавару.— З сягодняшняга дня, гавару, кажды палучае за свой сахар… І міска баланды будзе таму, хто будзе сабіраць міскі. І таму, хто хоча за гэту баланду — можа дзяжурыць за каго-та.” Ніхто не знайшоўся дзяжурыць за гэтую баланду… Гэты блатны, панімаеце, тады ўжо стаў стучаць сваім. А там аснаўная была шпана, пабіць іх — запраста, мы б іх усіх пад нары загналі…

…У турме былі адзінарныя ў Горкім. Не была двайных нараў на перасылцы. І немцы тады ўжо сталі дзяжурыць па очарадзі…

…в семінарыі вучыўся… учылі ж нямецкі язык…

Дык ён гаворыць так. Яны ўжо зналі, што мы нацыяналісты, што мы за самастойную Беларусь. Разгаварыліся. Я ім гавару па-нямецку: “Да, нацыяналісты — самы справядлівы народ. Таму што, яны за сваю Родзіну балеюць. І яны справядлівыя.” І ім так падабалася… Напэўна пасля нас яны ўжо не паддаліся …

Там такія трубы былі пад нізом тоўстыя. Там цяпло шло па трубам. Так яны на гэтых трубах усё жопы свае грэлі, таму што ўжо осень была. На Северэ холодней, чым у нас … пачатак верасня — там замаразкі ўжо былі ў Горкам. І яны, напэўна, там ужо не паддаліся. Но яны нас баяліся…

…таму што немцы падчыняліся, і афіцэры іхныя… А на нас яны чэраз гэта…міскамі кідалі, крычалі: “Фашысты!”, панімаеш. А ў іх там… … Бытавік, но граматны, савецкі.. Які-небудзь там чыноўнік, чы хто. Ён там ужо тожа крычаў на нас: “Фашысты!” — ужо той блатны па бесправадному цілефону перадаў, што такія паявіліся, што шэсць такіх лбоў паявілася з каторымі трудна нам фізічна справіцца, напэўна. Дык яны на нас брасалі… Патом, напэўна сабіралі ўжо гэтыя самыя назад… Як яны ўсе драпанулі за гэтую рашотку! І ўсе схаваліся. Думалі, што я маю што ў руцэ і пушчу ў іх… Не было чаго пусціць. Не было чаго ўзяць у рукі. Там усё заасфальтавана, і нічога не паднімеш па дарозе на прагулку. Яны ўсе ўжо нас зналі. Па цюрме маментальна разышлося, што прыехалі беларускія фашысты. Ужо так і гаварылі. “Эта фашысты прыехалі”. Таму што з немцамі дружаць, з немцамі разгаварываюць, з эцімі афіцэрамі. Беларускія фашысты. А на мне быў кіцель, што я быў на фатаграфіі… а там такія пугавіцы…

…“А ты што — футбаліст?!” А я гавару: “А ты чо-та так пытаеш?” Бытавік такі здаровы, відна тожа ўжо вор ў законе. Таму, што там воры былі, там сук ужо не было…І камеры тожа раздзялялі.

Бытавікоў камеры ва ўсех цюрмах раздзялялі. Таму што яны рэзаліся, біліся. Тады воры былі ў законе — ужасна ў законе… Ані ж тады ваявалі… Я гавару: “Быў”. Я гавару: “Не толькі футболам займаўся.

Я яшчэ і барбой займаўся, і штангай ...і на старасць яшчэ ёсць, што ў руку ўзяць...

І яны баяліся. Патом нас ужо атдельна ў вагоны пасадзілі...

Так што мы там у Грозным праслылі... Усю турму, можна сказаць, узбунтавалі — бытавую гэтую. І ўсё там думалі: ну як там гэтыя афіцэры...

...кроме аднаго камандзіра, вора гэтага. Вы ж бы іх змялі тут." Ані вот: "А мы не хацім этым займацца, штоб нам новыя дзела..." Іх усех судзілі, яны ўсе асуждзённыя былі...

...форма свая была: шынэлі...

...як адпускалі іх на прагулку...то ішлі вот так вот дзяржалі У іх так было заведзена перад начальствам. Дзержыць сваю кепку казырком к сябе... Мы не ўсе добра маглі разумець нямецкі, але...

Дык мы: "Што вы цянецеся?!" Немцы гэтага не рабілі. А румынскія афіцэры рабілі гэта: перад савецкім турэмным началнікам яны, панімаеш, чэсць аддавалі, так бы мовіць. Ну а патом ужо з Горкага папалі ў Воршу. Апяць жа за Оршу расказваю як. У Оршы ўжо было добра...

**М:**

К: Рэжым дня быў такі, як у ва ўсех цюрмах. Пад'ём быў у сем гадзін.

**М: Усіх адразу?**

К: Па камерам. З усёй камеры зразу. Наша камера была запоўнена. І другі раз у туалет вечарам выводзілі. Абед і ўсё такое — па раскладу. Заўтрак пачынаўся з васьмі гадзін, абед быў з часу.

**М: Гэта калі было?**

К: Гэта 49-ты год.

**М: Не, вячэра калі была?**

К: Вячэра была... Па мойму, начыналася яна так з сямі часоў да васьмі, таму што патом у дзевяць гадзін атбой быў.

**М: У дзевяць?! Ого!**

К: Там у Воршы можна было і паспяваць...

**М:**

К: Як ужо атбой быў...Кароча, на ўсё ўкладванне тожа час давалі на гэта. З дзевяці да дзесяці яшчэ можна было ўстаць, раздзецца, там на парашу схадзіць...

**М: Вячэрні туалет калі быў?**

К: Вячэрні туалет быў перад вячэрай... Можна было там памыць рукі... Дваццаць чалавек ці пятнаццаць — там менш часу давалі. От і до — было час на туалет. Начыналі ўжо вадзіць — шчэ не хацелася ісці ў туалет, але ўжо вадзілі...

**М: Што на снеданне звычайна было?**

К:...Давалі маргарын, а часам, нават, масла. Не, я вам скажу, што ў Воршы кармілі нядрэнна. Нядрэнна. Лепш чым у лагеры нават.

**М:**

К: Дык, слухайце — на той час людзі горш на волі жылі...

К: Маргарын — у іх такія формачкі былі. Ну мале-е-енькая такая...

**М: Грамаў дваццаць?**

К: Не, дваццаць не было. Ано было, як вось гэта пробачка, толькі цыліндрык... Трошкі шырэйшы чым гэты дыяметр, на ручцы такі прыпаены...

**М:**

К: Алюміній жа не заточыш. Брылі нас машынкай, галаву стрыглі. Стрыглі раз у дзесяць дзён, баня была раз у дзесяць дзён... Абавязкова і волас і бараду збрывалі — колькі машынка брала. Мы тады былі ў Брэсце — немец адзін ножык меў... Брыліся. После бані, знаеце. І надзіраценлі шманалі — нічога не маглі знайсці. Ну эта відна, што машынкай у бані падстыгуць — і барада вось такая... І немцы выбрытыя. І немцы сталі брыцца — вось інцярэсна. У аднаго такая рыжая барада была, дык я яму каленам жывот прыжму, аж вішчыць, а хоча пабрыцца... нашлі... ножык. Кінулі нам на іспраўленне бытавіка. Ён стаў рыцца, стаў рыцца. І ўнізе, там дзе лампачка... Хто-та там прыйшоў у амерыканскіх бацінках. А там такая пласцінка была стальная...

**М: Ступінатар.**

К: Мы яе дасталі. Мы яе шчэ закалілі. І як вы думаеце?! Там тожа ў Брэсце былі вялікія камеры. ... бярозавы. Распалілі ў камеры касцёр, акно адкрылі і закалялі гэтую, панімаеце... Але дыму нарабілі — запах пайшоў... Нам жа перадачы давалі. Усе закурылі — хто курыў і хто не курыў...

"Не трэба так курыць, а то на карыдор цягне дымам!" (смяецца)

**М: А мокрая, адкуль яна была мокрая?**

**М: А быў жа ў вас бачок з вадой, каб адтуль можна была папіць?**

К: Да.

**М: І адтуль жа можна была намачыць?**

**М: Літраў дваццаць?**

К: Літраў пяцьдзесят. Ну што вы?! Там камеры ж былі тожа — на трыццаць чалавек, на пяцьдзесят...

...Вада выдавалася кожны дзень.

**М: А калі?**

К: Яны выдавалі гэта ўтрам.

...Абслуга... Кармілі ў любой турме на любой перасылцы заключоныя...

...Воду давалі. Воду. Кіпячоную воду давалі. Сырой не давалі. Прасілі сырую — але не давалі... Вот. Ну і было там, чым зачарпнуць. Прывязаная к ручцы, прыкованая была на абручэ. Абручы былі на дзеравянн...

**М: А так, з чаго пілі чай?**

К: Алюмініевыя кружкі. Каждаму была міска, ложка і кружка. Так было і ў Воршы на перасылцы.

**М: Усё алюмініевае?**

К:

**М: Каб ляжаць на нарах...**

К: Падушак не было. Якія там падушкі... Давалі матрацы... У Оршы та былі ватнія матрацы. Ватнія.

**М: А коўдры?...**

К: Коўдры такія прастыя, но не салдацкія. Гэтыя былі х/б. Такія з тылі зробленыя, з пакалей гэтых хлопкавых. Такія мягкія яны праўда былі.

**М: А пад галаву?**

К: А пад галаву бацінкі падложыш... свой мяшок. Можна было сваё палаценца...

**М: У бані кожны атрымліваў сваё палаценца?**

К: Хто ...А кароткія палаценцы такія вот адзіночныя — можна было кроме іхніх. Іхнія тожа былі кароткія. І ў аснаўном у клетачку такія. Матэрыял такі ціснуты. Стандарт па ўсяму Савецкаму Саюзу быў, эта, адзінакавы.

А ў Джэсказгане мы спалі на сцяпном сене. Но эта сена было страшнае. Эта верблюжатнік быў калючы... Асцюкі забіваліся ў жопу.

У Кіраве мы праседзелі тры месяцы. Нас сібірскія лагера не прынялі. Я ж быў назначаны на Ка-

лыму. І нашы першы этап, каторы нас раздзялілі ў Воршы… …папалі яны на Калыму…

Настолькі былі сібірскія перасылкі (там Тайшэцкая, каторыя вялі на Калыму) настолькі былі запоўненыя, што не прынімалі. Мы ўсё думалі: сколькі нам сядзець на перасылцы. А на перасылцы ў Кіраве не было месца пад нарамі, не то што… Двайныя нары…

Спаў з французам пад акном… Там акно такое малое. Оберлюфт такі падымаўся…

…Мы головы накрывалі — затое дыхалі свежым паветрам. Ну прадстаўляеце: камеры набітыя…

Там усё дзеравяннае. І зданні і тратуары дзеравянныя ў зоне.

**М: А ў Оршы металічныя нары былі?**

К: У Оршы — не. Нары былі дзеравянныя, але аббітыя металічнай…

**М:**

К: Да, да снедання. З раніцы давалі хлеб до прыноса чая, хлеб, цукар і… хлеба давалі нам на цэлы дзень 500 г. А хлеб рэзалі вяроўкамі, таму што не можна было. Я проста ўдзівіўся першы раз…

…Вяровачку там мелі. Эта не забіралі, кароткая такая вяроўка.

**М: А на абед?**

К: Ну на абед давалі першае. Но в аснаўном давілі капустай. Капуста, эта ўжо осень была. Ана капуста эта была — Божа мой! Зялёная, качаноў не атдзялялі… Усё эта было перашынкована, перакісшае…

…Но я асабіста любіў капусту… А некаторыя проста давіліся…

Бог яго знает. Но мяса нам не пападала… Но нейкі жыр там быў. Троху. А так… так кармілі страшна — хужай чым у Воршы. Не, на перасылках яны, знаеце, карміць стараліся… …А то дыстрофікаў прывязуць — дык ім наганяй будзе…

**М: А вячэра, вячэра якая?**

К: А вячэра — другое, каша…

У аснаўном была аўсяная. І пярлоўка была. Пярлоўка. Ячмень і авёс. Рысам нас не кармілі.

Пастаронніх не кармілі. Аднаго толькі Укропа Памідоравіча, інваліда этага. А-а! Як ён стаў са мной бароцца, сукін сын. Прыжаў мяне жалезам эцім. І я гляджу, што ён мяне зломіць… Я тады быў шэсцьдзесят пару кілаграм. Жыру на мне не было. Дык я пабачыў, такое дзела… Дык я прыём зрабіў яму… …Шэйны пазваночак яму так загнуў. "Лажысь! — гавару,— сука, лажысь!" Матам мы яму запрацілі.

…"Сука да блядзь. Ну патом самі наўчыліся ўжо… І ён пад маю каманду лёг. Лёг і перадаў эта таму Паўтары Івану, што тут такі фраер ёсць…

А я та і быў там самы сільны... У мяне па пяць студэнтаў станавіліся на руку. Мяне і цяпер ні адзін сын на руку не кладзе, вось ужо пробавалі некалькі раз — не маглі палажыць... Я з імі сустракаўся. Вось ужо семдзесят гадоў, быў у пляменніка, у дваюраднага брата на свадзьбе... ...ужо ўгашчэнне.

...ну там мужыкі сышліся...

...танцавалі ў клубе... на плашчадцы, дзе цэркаў раней была...

...і вось прыехал там паехаў швагер этай маёй ужо братавой...

...а ён малакавозам быў, но быў у футбольнай камандзе раённай, вот. І гарадская каманда была. Там возле хабзайцаў там стадыён зрабілі харошы ў Клецку, там есць харошы стадыён такі, там узвышэнне, скамейкі... Прыйшоў у харошым настраеніі: мы перамаглі! І стаў суседзей, мужыкоў хватаць...

(абрыў запісу)

**М: Дык вось, пасля снедання, чым можна было займацца?..**

К: Ну, чым займацца? Даміно было.

Не заўсёды ж уся камера ад'язджала на этап. Часць выязджала. І кажды хацеў... Мухамор Клубнікавіч нам паказваў. Прыкрываліся. Бытавікі з газет рабілі карты. А газету нам давалі кожны дзень. Нам давалі такую газету васпітваючую. "Савецкую Беларусь"... Ці "Звязду" нам давалі? Часам "Звязду", часам "Савецкую Беларусь"... А "Савецкая Беларусь" руская была, яна не была беларуская. Газету мы чыталі, таму што трэба было чытаць...

**М: На прагулку калі выводзілі?**

З якога канца калідора пачалі...

**М: На першым паверсе?**

К: Не, на другом. На першым там былі: вот эці прэдварыцельныя этапы там прынімалі... гаспадарчыя ў аснаўном... То там цябе навучаць, як грошы мець...

**М: А як на капцёрку можна было сходзіць?**

К: А эта трэба было...

Мая Галя... Таму што там абслуга. Нават жонкі прыязджалі. На некалькі сутак давалі з жаной там у комнаце... А ў перасылцы — там жа абслуга аграмадная, што вы! Штоб людзей пракарміць. І раз у дзесяць дзён, як закон: пасцельнае бяллё мянялі, навалачкі...

...Гэта давалі ў дзень лазні. Палаценцы мянялі...

...Там жа ў бані астаўляем. Ужо ў камеру не нясём назад. Эта была мыццё акуратнае. Вшывасці не было. ...чак небыло...

...Клапы былі... На перасылцы там не мурованыя былі сцены. А высокія, сплашныя... Прагулачны двор там вялікі быў — можна было ў футбол гуляць. Толькі нам не давалі. Можна было і бегаць. Пабалавацца...

**М:**

К: Да. Пускалі некалькі камер... І между прочым іх пускалі разам з бабамі-бытавічкамі. Нас ніколі! Атдзельна. А іх разам з бабамі. Ну прагулка колькі? Поўчаса. Надзірацелі наблюдалі.

Я ў гэтым кіцелі... Тады ж мода была кіцелі насіць... У Клецку ў нас татары сільна кожы выраблялі. О-о! Быччу кожу. Не прамакала. Ніякая вада не брала. Ніякая! Як станеш — па костачкі ў вадзе... ...уся ступня хавалася...

...следаваацелі за парушэнне дысцыпліны маглі пасадзіць...

...Напэўна, страшны быў. Таму што, як зашла там наша падзельніца адна, как глянула...

(абрыў запісу)

З таго, што спадар Уладзімір распавёў яшчэ, я занатаваў тады толькі наступнае:

У Оршы адбылася адна крывавая гісторыя з удзелам эстонцаў. Некалькіх эстонцаў змясцілі ў камеру да “бытавікоў”. “Бытавікоў” было ў некалькі разоў больш, і яны пачалі груба “наязджаць” на “фашыстаў”. Паследствы для іх аказаліся самымі нечаканымі. Адзін з эстонцаў выламаў “з каранямі” камерную лаўку (больш не вядома выпадкаў, каб такое на Аршанскай перасылцы каму ўдавалася) і пачаў крышыць крыўдзіцеляў пры актыўнай падтрымцы землякоў. Калі “вохры” ўламіліся ў камеру “блатныя” былі “ўчыстую” павержаны, а некалькіх з іх давялося адправіць ужо і не ў санчастку, а “ў апошні шлях”.

Пасля таго выпадку эстонцаў трымалі паасобку ад усялякіх “бытавікоў”. Ды і ўвогуле: палітзэкаў-нацыяналістаў з “блатнымі” надалей мясцілі толькі зрэдку.

*Верасень 1998.*



▲
*У Свіслачы ля царквы на могілках. Першы рад: Зміцер Кісель, Віктар Сазонаў, Юрка Ляшчынскі, Віктар Трэшчановіч, другі рад: Юры Глебік, Уладзімір Хільмановіч, Віктар Навасад, Яраслаў Іванюк. 14 траўня 1999 года.*




▲
*Магіла на гарадзенскіх могілках па праспекце Касманаўтаў*

